Як бы развітваючыся з вёскай, вандруюць надвячоркам студэнты па вуліцы. Хлопцы з дзяўчатамі разам.

— Сходзім на поле! — выгуквае Веньямін.— Раскладзем агонь, бульбы напячом. Мы ж печанай бульбы не пакаштавалі...

Шугае на чорным бульбянішчы вялізнае вогнішча, адганяе сінія вячэрнія змрокі. Студэнты сядзяць шырокім колам наўкруг, спяваюць. Хораша, цёпла, светла...

— Веньямін, прачытай верш,— просіць Зіна Бандарчык.— Толькі які-небудзь новы.

Веньямін згаджаецца. Чытае на памяць, і голас ледзь-ледзь дрыжыць:

Мы з табою ля рэчкі
Не страчалі зары,
Не вяло з намі спрэчкі
Рэха ў звонкім бары.
Не хадзілі ў арэхі,
Не збіралі грыбоў,
Неігралі нам стрэхі
На гуслях капяжоў.
У жыце буйным, высокім
Не вязалі пражма,
І палацы з аблокаў
Праплывалі дарма.
Не купаліся ў хвалях
Мурагу ў сенакос,
Нас не вабілі далі
Ні зямлі, ні нябёс.
І за ўсё, што згубілі,
Не зрабілі што ў час,
Лёс суровы, нямілы
Пакараў бедных нас.
За спеў птушак нячуты
Намі ў сініх гаях
Крыж нясу я пакуты —
Ты цяпер не мая.
За той страчаны месяц,
Як цвітуць верасы,
Болей мне не засвецяць
Вочы дзіўнай красы.
І за тое, што росы
Не абмылі нам ног,
Нам прысуджана ростань
На развілцы дарог.

— Верш з настроем,— задуменна гаворыць Зіна.— Ты, Веньямін, некалі будзеш паэтам.

Яркі, зыркі гарыць на полі агонь...





**Іван ГРАМОВІЧ**



**Мастак**
**Пятро КАЛІНІН**

# ДВА АПАВЯДАННІ

**З кніжкі «Сонца скрозь воблакі»**

## ЯК ПРЫЙШЛА ВЯСНА

Размытай, каляіністай дарогай я і Люба ідзём дадому. Мы вяртаемся са школы, дзе абое вучымся ў сёмым класе. Сямігодку пабудавалі пры сельсавеце, кіламетры за чатыры ад нашага сяла, і таму вучні штодня ходзяць туды і назад гэтай дарогай, палова якой бяжыць праз лес.

Мы ідзём у лесе. Позняя восень. Ужо канец лістапада. Шэрыя, рваныя хмары нізка мчацца над лесам, амаль чапляючыся за вяршаліны дрэў. Цярушыць дробны дожджык.

Абыходзім лужыны, гразь. Абапал дарогі стаяць, злёгку ківаючыся, мокрыя, хмурыя сосны, асыпаюць на галаву буйныя дажджавыя кроплі. Непрыветліва пазірае голы бярэзнік, асіннік. Вунь толькі зімні дубок трымае на сабе рыжае, сырое адзенне.

І ўсё ж тут цяплей, чым у полі. Мы з Любай зайшлі ў лес, нібыта ў хату, дзе можна абагрэцца ад халоднага, золкага ветру. Тут дарога зацішней. Яе мы, як кажуць, ведаем на памяць і, сапраўды, прыйшлі б да свайго сяла з заплюшчанымі вачыма.

У Любы ў руках партфелік з кніжкамі, а ў мяне — на папрузе цераз плячо скураная паштовая сумка. Апроч заняткаў у школе, я маю яшчэ абавязак зайсці ў сельсавет, на пошту: забраць газеты, пісьмы — усю карэспандэнцыю для нашага сяла. За гэта мне ў праўленні калгаса налічваюць, як пісьманосцу, дзесяць працадзён — першы сціплы заробак у маёй працоўнай дзейнасці. А што я — зломак?.. У гэтай сумцы і кніжкі-падручнікі, і сшыткі, і вялікая кіпа газет і часопісаў, так што папруга яе часамі добра-такі ўразаецца ў плячо. Але нічога не цяжка!

З Любай мы заўсёды разам: дзелімся падручнікамі, разам збіраемся ў школу, разам робім хатнія заданні. Часамі вось так ідзём, гаворым, спрачаемся, які настаўнік лепш выкладае, каму якая дысцыпліна найбольш падабаецца, як хто зразумеў заданне па ўроку. І здараецца, што пасварымся,— тады яна ўжо не чакае мяне на мосце ля млына, калі я вяртаюся з пошты... Або пачакае, але ўсю дарогу маўчым, аж да самых агародаў нашага сяла. Ідзём адно за адным: я — паперадзе, яна — за мной. Нават словам не перакінемся. Толькі такое бывае рэдка. Часцей за ўсё нам весела — ідзём, жартуем. Аднойчы летась, у зімку, усю дарогу кацілі перад сабою лядзяш, то я носікам дзеравянік падштурхну, то яна валёнкам падфутболіць...

Сёлета, кажуць, зіма будзе раптоўная. Пералётныя птушкі ўжо ўсе адляцелі, засталіся сарокі ды вераб'і. Лісце, апалае на зямлю, пачарнела. Цэлымі тыднямі дажджы і дажджы. Столькі вільгаці выпадае, што зямля не здольна паглынуць усю ваду, і яна стаіць лужынамі на паверхні.

Холадна. Надакучыла такое надвор'е... Але мы ўжо не маленькія, каб на яго скардзіцца ці баяцца.

Вось, бывае, бліснe сонца, і ў гэтых лужынах на лясной дарозе адаб'ецца крыштальна-сіняе неба. І гэта чыста-сіняе неба, і мокры лес, і яркая празрыстасць у паветры — чымсьці нагадваюць іншую пару. Такую пару, калі ўжо сышоў снег, дарогі яшчэ не высахлі, зямля яшчэ не зацвярдзела пасля разводдзя, яшчэ ў лесе сыра, яшчэ не надышло цяпло, але ўжо наўкол адчуваецца вясна. Сапраўдная вясна!

От гэтую хвіліну той радаснай цёплай пары, якая чакала нас у будучым, раптам адчулі мы цяпер, ідучы па асенняй лясной дарозе.

...Дождж перастаў. Хмары над лесам падняліся ўгору. Павесялела. А потым выглянула сонца. Сосны дружна загаманілі, зашумелі...

Мы якраз былі на лясным узгорку. Далей дарога дзвюма каляінамі бегла ўніз, на палянку. Спускалася яна па глiністых прыпеках і парогах, перад якімі колы павыбівалі глыбокія калдобіны. У адной такой калдобіне стаяла вялікая лужына. Ад самага ранку сюдой, відаць, яшчэ ніхто не ехаў, яшчэ не замуціў ваду, і яна ў лужыне была светлая, нібы крынічная. Люба і я зірнулі ў яе, як у люстэрка. Угледзелі адзін аднаго... Убачылі кавалак блакітнага неба, круглыя галіны зялёнай сасны над намі.

— Хочаш, я зараз зраблю вясну,— сказала Люба.

Прызнацца, я спачатку не ўгадаў яе намер. Спыніўся.

Люба паклала партфелік на ўзбочыну, знайшла ёмкую ламачыну і пачала вострым канцом капаць раўчук у белым глiністым прыпеку. Тады і я скеміў, нагнуўся, пачаў ёй памагаць.

Лужына адлюстроўвала неба, сонца, дрэвы. Яна застыла, чакаючы блізкіх замаразкаў, той сцюдзёнай раніцы, калі дыхне першы мароз і вада ў ёй сатнецца тоненькім, празрыстым, як шкло, лёдам.



Шырокая, нерухомая, яна сабралася чакаць гэтае хвіліны.

І раптам — рухнула перад ёй плаціна: Люба пракапала раўчук... А я дапамог.

Вада шуганула ўніз, па каляіне, забулькала, заструменіла. У ёй заіскрылася сонца, зазіхацела неба, як вясной. Здаецца, толькі гэтага і не хапала на глухой асенняй дарозе.

Нам стала цёпла, як вясной. Ва ўсякім выпадку, такое адчуванне было на сэрцы і ў яе, і ў мяне. Люба глянула і засмяялася. Вочы яе былі сінія, як неба, і пераможна іскрыліся, як сонца ў вадзе, якое таксама ўмее рабіць вясну.

Калі лужына ўся сышла і на дне засталіся толькі шышальнік ды пачарнелае лісце, мы заўважылі, як прыток нашага ручая напоўніў другое такое вадазборышча. Вада там вось-вось магла пераліцца цераз гліністы парог. Люба пабегла і памагла ёй шугануць далей, уніз, да палянкі...

Так мы і ішлі ўслед за вадой узбоч дарогі: я нёс Любін партфель, а яна ламачынай прапускала, падганяла шумлівы ручай. Між намі струменіла веснавая плынь. Ну, чым не вясна!

Раптам Люба сказала:

— Вясной, як закончым сем класаў, паедзем у Мінск вучыцца?

— Не ведаю,— адказаў я.— А ты?

— І я не ведаю.

Гледзячы на бруістую, каламутную ваду, мы прайшлі колькі крокаў, і Люба зноў запыталася:

— А як мы калі-небудзь разлучымся, ты будзеш пісаць пісьмы?

Я не ведаў, што адказаць. Безумоўна, у сямігодцы — толькі сем класаў. Калі хочаш далей вучыцца, трэба нешта думаць. Мы ўжо не малыя. Але я так прывык хадзіць разам, што разлука між намі, здаецца, не магла здарыцца.





— Усім ты носіш пісьмы,— ні то з дакорам, ні то з кепікамі сказала Люба,— а мне дык ніхто не напіша...

Яна зноў засмяялася і, выхапіўшы з маіх рук свой партфелік, пераскочыла на ўзбочыну.

На палянцы Люба ўспомніла, як хадзіла вясной глядзець паводку. На рэчку. Яна з захапленнем расказвала, а я, мабыць, не слухаў. Думаў нешта такое, ад чаго на сэрцы было горача і радасна. У галаве кружылася думка: «А што, каб мне ёй напісаць?.. Можна напісаць?.. Можна ці не можна?..»

І я напісаў. Украдкам, каб ніхто не бачыў і не ўведаў. Напісаў: «Люба!..» І яшчэ тры словы. (Самі ведаеце якія!) Унізе — сваё імя...

На гэта пайшло шмат часу. Цэлы вечар. Заклеіў у канверт і рашыў заўтра аддаць Любе, вяртаючыся дадому, там, пад круглай сасной.

...Не аддаў. Маўчаў усю дарогу. Дома расклеіў канверт, перачытаў і дамаляваў сасну. Намаляваў такую, якая адлюстроўвалася ў нашай лужыне...

А на другі дзень выпаў снег. Снегам занесла ўсю нашу меліярацыю. Успамінаць, як Люба рабіла вясну, было неяк не дарэчы. Стаяў холад, круціла мяцеліца...

Скора Люба сама, напэўна, забылася пра сваю выдумку.

Так мы канчалі апошні клас сямігодкі.

Але я не забываўся пра тое здарэнне ў лесе. Я насіў у паштовай сумцы сваё пісьмо, аж пакуль не прыйшла сапраўды вясна...

І аддаў яго Любе на тым самым месцы, на дарозе, пад сасной, дзе летась, увосень, было так золка, холадна, і дзе, як выглянула сонца, нашы юнацкія сэрцы ўжо адчулі вясну.

# ЯК МЫ САРВАЛІ ЎРОК

Эх, навука!.. Праз яе трапілі ў бяду мае хлопцы, суседзі па кватэры. Яны сарвалі ўрок па фізіцы.

Вось скрыначка, абматаная дротам! Гэта тэлефонны апарат, вынайдзены Славікам. Сябры выкарысталі яго для падказкі ў класе. І, вядома, «пагарэлі».

— Што ж цяпер нам будзе? — палахліва запытаўся Славік.

— Трэба падумаць,— не адразу адказаў я.

— Можа вы сходзіце да нашага дырэктара,— папрасіў Гена.

Не! Ні з фізікам, ні з дырэктарам, ні з кім я за іх гаварыць не збіраўся. Хоць хлопцы добра ведалі маю памяркоўную натуру і адчувалі, што я ім благога не жадаю.

Я ім толькі расказаў здарэнне, якое было некалі са мной у школе.

* * *

Гэта здарылася там, дзе я нарадзіўся, у вёсцы. Вёска наша між двух гасцінцаў. Гэтыя гасцінцы праходзяць па ўзгорках, а ў міжгор'і, дзе прасціраюцца лугі, балоты, алешнікі, працякае Пціч. Рэчка, як і гасцінцы, кіруецца на поўдзень. Каб цераз яе быў пакладзен мост, то вуліца нашага сяла, забудаванага на невысокім гарбатым узгорку, была б пераездам, злучала б гэтыя дзве бойкія дарогі. Але мост цераз



Пціч збудаван уверсе, за кіламетры чатыры, у Крупінах. У Крупінах знаходзіўся сельсавет, стаяў млын, крухмальня.

Усе гэтыя каардынаты патрэбны для гісторыі, якую я раскажу.

Мы жылі ў глухім кутку: на захадзе цячэ рэчка, з поўдня падступае лес, на поўнач — балота і тарфянікі. І толькі на ўсход прасёлкавай, каляіністай дарогай можна было выбрацца на шлях. Цераз наша сяло не магло быць ніякага вялікага руху транспарту.

У ціхі летні дзень стаіш, бывала, на бугры і чуеш, як за ракою па слуцкім гасцінцы ляскочуць падмазаныя калёсы. Іх не відно, але чуваць, як едуць абозы са Слуцка ў Мінск, або з Мінска ў Слуцк, у Шацк.

А з кніжак я ўжо ведаў пра такія навінкі транспарту, як аўтамабілі, аўтобусы, самалёты. Аб іх размова хадзіла, як цяпер аб караблях на падводных крыллях, аб спадарожніках у космасе.

Здарыўся цуд і на нашай вясковай глухой вуліцы.

Было гэта ў верасні. Настаўніцай тады працавала Яўгення Пятроўна. Прозвішча вучні на сяле не запамінаюць.

Яўгення Пятроўна была строгая. Калі мы не ведалі ўрокаў, яна карала, ставячы «ў куток», пакідала «без абеду». Яна хацела, каб мы старанна вучыліся, каб мы толькі тым і жылі, што гаварылася ў школе. У Яўгенні Пятроўны я лічыўся добрым вучнем. Але вось атрымалася так, што гэты добры вучань аднойчы сарваў не адзін урок, як сёння хлопцы, а ўсе чатыры.

Паслухайце, як гэта было.

Сядзім мы ў школе. Слухаем Яўгенню Пятроўну, а праз адчыненае акно чуецца нейкае гудзенне. Такога гудзення яшчэ не чутно было. Малатарня — не малатарня, млын — не млын. Слухаем урок — і не слухаем.

Раптам на вуліцы пад вокны школы выскоквае нешта зялёнае са скрынкай на чатырох колах. І грукаціць... Я здагадаўся, хоць ніколі яшчэ не бачыў аўтамабіля. Аўтамабіль!

Машына, грукочучы, прамчалася каля школы, пакінуўшы на вуліцы пыл і сіні дымок.



— Спакойна, дзеці! Слухайце мяне, не глядзіце ў вокны! — сказала настаўніца.

Але дзе там спакойна ўседзіш? З-за вугла хаты Сцёпачкі Казла выскачыла другая машына. Такая ж зялёная, са скрынкай ззаду, і прыпынілася ля школы.

— Дзеці, усім сядзець на месцы! — строга загадала Яўгення Пятроўна.— У нас урок!

Што мяне ашаламаціла, я пазней зразумеў, а ў той момант я забыўся на ўрок. Паглядзець на цуд было мацней за ўсё. Пагроза Яўгенні Пятроўны не стрымала. Я падхапіўся з месца, ускочыў на парту, потым на падаконнік расчыненага акна і — на вуліцу. З крыкам і лямантам усе рынуліся за мною. Хто, як я, праз акно, хто — праз дзверы.

— Куды вы? — закрычала настаўніца.— Сядзець на месцы!

Але палавіна вучняў, сярод якіх большасць хлапчукі, высыпала са школы паглядзець, што гэта такое... Я ўбачыў за рулём чырвонаармейца, а побач з ім камандзіра. На шапках зоркі... Чырвоная Армія!

Калі машына кранулася і памчалася ўслед за першай, я ўжо не вярнуўся ў школу. Я кінуўся за ёю. Вельмі хацелася дагнаць. Абавязкова дагнаць! Я гэта жаданне не хацеў уступіць нікому, ні Сцяпану, ні Паўлу. Меншыя адставалі. Але таксама беглі. З намі, брэшучы, імчаліся ашалелыя сабакі. З хат выбеглі старэйшыя.

Каля рэчкі, да якой з бугра спускалася наша вуліца, аўтамабіль спыніўся. Тут ужо сабраўся натоўп ля першай машыны. Камандзір размаўляў з канцавым Міколам Станіжэўскім. Падбегшы да іх, я пачуў, што дзядзька Мікола кажа:

— У ампярылісцічаскую вайну тут быў мост... От, як кусты сядзяць, была грэбля да поля. Але вясной у паводку мост знесла...

— Як жа дабрацца да Возера? — пазіраючы на карту, пытаўся камандзір.

— Толькі аб'ездам,— паказаў рукой на Крупіны дзядзька Мікола.— Абратна, назад... От так!.. А там цераз мост... У Крупінах...

Камандзір падзякаваў. Усміхнуўся. Сярод пажылых вяскоўцаў, што пакідалі работу і прыбеглі да рэчкі, нас, дзяцей, было сама больш.

— Хочаце пакатацца? — запытаўся камандзір.— Сядайце ў кузаў!

Вось гэта ўжо было больш, чым паглядзець на машыну. Праехацца на аўтамабілі! Ніколі не ездзіўшы... Не, у мяне не хапіла волі адмовіцца! Няхай сабе Яўгення Пятроўна пакідае «без абеду» цэлы тыдзень!

Я ўскараскаўся на скрынку машыны, як кот.

— Не стойце ў кузаве, сядайце! — загадаў камандзір.— Голле з дрэў па вуліцы вам галовы пазносіць!

Мы — на калені. Загад камандзіра — усё! Я ашчарэпіўся рукамі за скрынку, а хто прысеў, хто трымаўся адзін за другога...

Мы ўсе, відаць, аднолькава перажывалі той момант. Калі машыны нырнулі пад ліпы і клёны, я адчуў, што заняло дыханне. Ад ветру. Ад таго, што невядомы цуд, які жыў толькі ў марах, магутна грыміць пад табою, імчыць па вясковай вуліцы. Казка — не казка, сон — не сон! Усё на яве. Родныя клёны шумлівымі галінамі з пажоўклым, залатым лісцем замахваліся над маёй галавой. Ліпы на вуліцы вось-вось прыбліжаліся і кідаліся на мяне. А я і вокам не міргаў. І не прыгінаўся, калі яны са свістам і шумам абдавалі мяне... Мне хацелася яшчэ шпарчэй імчацца наперад. І, здавалася, што я і сам, і думкамі — не на зямлі, а ў паветры, што мчуся не па вуліцы сяла, не прасялкавай дарогай, а нямаведама дзе. Захацелася ўведаць, як жа гэта кіраваць такой машынай, што гэта за тэхніка? Ото, каб сесці



і вось так, самому кіруючы, імчацца... Па ўзгорках. Па нізінах. Праз палеткі... Праз лясы... у будучыню!

Толькі за Крупінамі спыніліся камандзіры. Адзін сказаў:

— Цяпер злазце! — і засмяяўся.— Хораша?.. Запомніцца гэтае падарожжа?

Ну, вядома! Падарожжа застанецца на ўсё жыццё. І думкамі, якія яно абудзіла, а не толькі прыемнасцю, якую мы мелі ўсю дарогу. Злезлі, не маглі вымавіць слова, акалелі на версе, у скрынцы: мы ж, як выбеглі са школы, так і пусціліся ў дарогу неапранутыя, без шапак... Калені ва ўсіх былі пазбіваны. Мы толькі цяпер гэта агледзелі. Па калдобінах, па ямах машыну падгоцквала, і нас у скрынцы падкідала, шпурляла з боку ў бок. Мы качаліся на дне скрынкі, як гарбузы.

І толькі цяпер са спалохам падумалі пра настаўніцу. Подбегам, грэючыся, вярталіся і думалі пра заняткі, аб якіх успомнілі. Як магло так здарыцца? Што скажа Яўгення Пятроўна? Яна ж сварылася: «У нас урок. Сядзець на месцы!..» А я першы выскачыў праз акно...

Дзве дзяўчынкі, што трапілі ў нашу кампанію, ледзь паспявалі ісці. Яны плакалі. А мы толькі шморгалі насамі.

Машыны правезлі нас кіламетраў пяць. Пяць кіламетраў да сяла пакуль адмералі, заняткі ў школе скончыліся.

Настаўніцу спаткалі на ганку. Усіх, хто заходзіў у памяшканне, яна ставіла гуськом «у куток». Адзін за адным станавіліся мы, цяжка сапучы пасля бегатні. Калі апошні з самавольшчыкаў увайшоў у клас, разгневаная Яўгення Пятроўна пачала:

— Дык, як жа цяпер будзе? Чаму вы сарвалі заняткі?

Іншага, апроч строгага пакарання, чакаць не маглі. Што адкажаш? Вінаваты, але маўчы. Не выкажаш тое перажытае, якое яшчэ нядаўна гэтак захапляла цябе і было з табою...

— Хто першы ўскочыў на парту?.. Хто парушыў мой загад сядзець на месцы?..

Не, адмоўчвацца нельга.

— Я.

— А-а, дык гэта ты першы выбег на вуліцу? — з гневам накінулася на мяне Яўгення Пятроўна.— Ты падаў прыклад меншым? Ты, самы прыкладны? Не паслухаў мяне і пакінуў заняткі... Каму ж я тут дзень пры дні гавару? Каго я навучаю?! Дзеля чаго?! Адказвай, чаму ты гэта зрабіў?..

Я маўчаў.

— Чаму ты сарваў урокі? — паўтарыла настаўніца.

— Я не хацеў зрываць урокі,— адказаў я.

— А ты? — звярнулася Яўгення Пятроўна да Сцяпана.

— Мы не хацелі зрываць урокі,— адказаў Сцяпан.

— Бач ты, якія яны?.. А што ж вы хацелі? Паглядзець на машыну?..

— Паглядзець на машыну... і... і...,— я заікаўся,— паглядзець, як яна ходзіць...

— І... і што з таго? І для чаго табе гэта?..

Я прызнаўся проста:

— Каб ведаць, як яе вадзіць...

— Бач ты яго?! — неяк з усмешкай вымавіла Яўгення Пятроўна.— Ён захацеў вадзіцелем стаць?! Скажыце, калі ласка!.. І ты захацеў? — звярнулася яна да Сцяпана.

— Хачу!

— І ты? — звярнулася яна да Паўла.

— Хачу!

Суровы голас Яўгенні Пятроўны тут памякчэў. Мы, вядома, не чакалі ад яе літасці. Вінаватыя — пакарай!.. Але раптоўную перамену ў настроі настаўніцы мы не маглі не заўважыць. Можа яна збянтэжылася, што мы нібыта згаварыліся? А мы ж не згаворваліся. Самыя большыя, Сцяпан, Павел і я... Настаўніца схадзіла ў свой пакойчык, дзе жыла, тут, пры школе, вярнулася і загадала:

— Усе марш дадому! Заўтра не пазніцеся на заняткі!.. А ты!.. Ты і ты,— паказала на мяне, Сцяпана і Паўла,— застаньцеся!

«Вінаваты — няхай карае!» — думаў я. Але Яўгення Пятроўна, не гневаючыся, спакойна пачала распытваць нас, як мы ехалі на машынах. І мы па-аднаму расказалі ёй усё. Што нас усхвалявала, як захацелася сесці за руль машыны і пакіраваць... Яўгення Пятроўна выслухала і сказала:

— Пра гэта напішыце кантрольную работу. Напішыце, каб назаўсёды запомнілі тое, што абяцаеце... Так і назва будзе... «Кім я хачу быць...» — сказала настаўніца.— А цяпер і вы дадому марш, свавольнікі!.. Каб гэта было ў апошні раз!

Настаўніца нам паверыла. І даравала. Мы пісалі, кім хочам быць. І мы яе не падманулі. Павел у Вялікую Айчынную вайну быў камандзірам танка, а Сцяпан — лётчыкам...

* * *

Сонца па-асенняму свяціла, і праменні яго коса падступалі да нашай лаўкі, дзе мы сядзелі. Над намі шапацела і ападала лісце.

— Адным словам, я за вас гаварыць не буду. Ні з кім! — закончыў я.— Машыны, тэхніка, навуковыя адкрыцці, навінкі запаляюць сэрцы... Так было тады. Так і цяпер. Вы цяпер сарвалі ўрок, а я тады... У нас мільгнула тады думка. Мы захапіліся будучым... Захацелася ўзяцца за руль у машыне... І настаўніца нам паверыла!.. У вас цяпер нешта падобнае, электрычнасць... Самі вынаходзіце. Вам падуладны ракеты...

Я глянуў у вочы Славіку, сказаў:

— Не чакай хадатаяў! Ідзі назад у школу і скажы. Калі ты гэта зрабіў дзеля таго, каб зрываць урокі, то так і прызнайся. Хто зрабіў, скажы. Не таіся. Гэта зневажае настаўніка. Скажы сумленна!.. А калі у вас, ва ўсіх, ёсць у думках нейкая мэта, нешта большае, чым гэтая скрыначка, абмотаная дротам... Тады таксама скажыце. Сумленна скажыце! Ідзі, Славік! Не чакай, пакуль пойдзе бацька!..

Ён устаў. За ім усталі сябры і пайшлі да пад'езда. А там — на вуліцу.

Дні праз тры я спаткаў аднаго Гену.

— Нам усім паставілі двойкі па паводзінах,— сказаў ён.— Мы прызналіся. Усё, усё расказалі... Дырэктар чуў. І фізік... І нам сказалі, каб мы ў гурток юных радыстаў запісаліся... Там наш Славік будзе старастам.





Васіль МАКАРЭВІЧ

# КРЭДА

таўлю задачу перад сабой —
думаць канкрэтна!
Скажам:
паўзе на скалу прыбой
і ад натугі крэкча.

Потым, нібыта прас,
праедзе па цёплай гальцы.
Сонца скажа сабе:
— Пара!
І цягнецца тонкімі пальцамі:

трэба перагартаць туман,
што з тоненькай
пасмай-вяровачкай
у сарака залатых тамах
на беразе наварочаны.

І там, дзе дымок павіс,
без пыхі пустой,
параднай
пойдзе сонца увысь
па залатой парабале.

Кожны лісток сухі
ажывіць на кожным загоне,
цені, быццам штыхі,
апоўдні ў зямлю загоніць.

Тады на лугах,
на мастах
пішу я промнем-крэйдай:
яснасць і прастата,—
вось маё вечнае крэда.





асцёр ядлоўцавы страляў,
дзіцё кугакала ля мамы,
а недзе
тонкая страла
ляцела, звонячы,
да маманта.

Не знаю,
летам ці зімой,
рукой стралка удалеч пушчана,
яна ляцела
над зямлёй
барамі гулкімі
і пушчамі.

Страла залела на вятрах
у промнях сонечных
купалася.
і, чыркануўшы па вяках,
да ног упала
ў ноч купальскую.

Стралу падняў я
і пасля
лук напінаю,
дзень свой хвалячы,
каб рэактыўную
паслаць
праз небасхілы
і праз далечы.





е шкадавала мора нас,
не шкадавала мора
кацера.
Ударыць хваля —
і штораз
былі амаль што мы ў накауце.

О мора,
найвышэйшы бал
табе арбітры ўсе паставілі б.



То бушаваў
дзевяты вал,
хоць малады,
але па-сталаму.

А мы наперад так ішлі
што аж сівеў бурун за кілем.
Шырокі промень,
як рушнік,
з-за хмар
нарэшце сонца кінула.

Каціўся хваляў грозны рык
і заціхаў
за сіняй даллю.
Гайдала мора
мірны рынг
і нас,
прыціхлае,
гайдала.

# СПЁКА



яжыць,
ад мух не адбіваецца,
здаецца, што сабака спіць,
а ў зрэнках ззянне адбіваецца
стальных веласіпедных спіц.

Пад гул шырокі манатонны
ліствы,
гарачыні,
вады
імчаць машыны, матаролеры,
грымяць па бруку абады.

Ад шуму як тут не злавацца?
Ды вось гарачым летнім днём
усё зрываецца й зліваецца
у кола хісткае адно.

І пачынае ў бляску вогненным
яно перад вачмі кружыць:
ляцяць дамы
з садамі, з вокнамі
і з агароджай
гаражы.

Нібы ў віхоры ўсё мільгае,
і ўсё не сон, а наяву.

Сабака вочы закрывае
кладзе на лапы галаву.

Яму здаецца, што сасмяглая
зямля хістаецца над ім.
А спёка паліць,
спёка смаліць,
пажарам коціцца рудым.

# КАЛЯСКА ІНВАЛІДА


аварыш,— просіць,—
падштурхні!
І я штурхаю —
калі ласка!
Сярод натоўпу,
таўкатні
паволі коціцца каляска.

Гляджу услед.
Каго вініць?
І прад'яўляць каму прэтэнзіі?
Здаецца мне, што здань вайны
балюча рыпае пратэзамі.

А думы стануць катаваць,—
і апячэ здагадка сумная,
што не каляска —
катафалк
шырокай вуліцаю сунецца.

О, колькі выцерплю пакут,
о, колькі раз
бываю знішчаны
за хвілі гэтыя,
пакуль
каляска з воч маіх не знікне!




етрам прасвідраваны барак.
Ціша узрывалася гранатай.
Кнігу у настаўніка я браў —
«Дзеці капітана Гранта».



На губах — марской вады
палын.
Мора і смяялася і грала там.
У краіну казачную плыў
з дзецьмі капітана Гранта.

Вёў па джунглях злодзей-
праваднік —
мала для жыцця гарантыі.
Скуты у турме, лічыў я дні
з дзецьмі капітана Гранта.

Ды не месца турмам на зямлі,—
сонца іх раскідвала баграмі.
Вырваліся к мору,
паплылі
дзеці капітана Гранта.

Я хаджу, я п'ю расол і квас,
аб жыцці я разважаю граматна.
Толькі як балюча мне без вас,
дзеці капітана Гранта!..

# ГОРАДУ


ылы я лесаруб, каваль,
глядзеў:
асфальт на сонцы плавіцца.
І ты, здаралася, ківаў
мне, як старэйшы,
строга пальцам.

Гулі ускраіны трубой
па-над запыленымі ружамі,
і думаў я:
няўжо з табой
ніколі, горад, не надружым?

Ды вось
за гаражом гараж,
дамы,
палацы
і пакгаузы
пачаў, нібыта эрмітаж,
свае багацці
мне паказваць.

Іх, быццам тайны, адкрываў,
а вечарам
з агню і полымя

ты на праспекце акрываў
дрыготкім
электрычным полагам.

Ты на мяне не кідаў цень,
глядзеў разумнымі
вачыма,
я прамаце і прастаце
нібыта грамаце
вучыўся.

Ты на плячо руку мне клаў,
свяціў мне словам,
бы паходняю.
І як у школе з класа ў клас,
так з года ў год
я пераходзіў.

Ты пазнаваў мяне здалёк,
зусім забыўся пра былое.
Дык вось табе мая далонь,
прыпайвай да свае далоні!



ама! Я твой наказ
абавязкова выканаю!
І нізашто напаказ
«коніка» больш не выкіну.

Я ведаю, што за мяне
і за маё гарэнне
вечарам пры каміне
сэрцам усім хварэеш.

Быццам дубцом сцебане,
сціснешся, як на холадзе,
штораз,
калі да цябе
весткі благія даходзяць.

Вачэй затуманіцца сінь,
Пройдзеш па хаце разутая.
Ты ж гэтак хочаш,
каб сын
быў паважаным, разумным.

Хочаш, каб, чысты душой,
наперад твой сын не высоўваўся,
ды усё роўна пайшоў,
далёка пайшоў
і высока.

Нямала б вады сплыло,
апала у лесе арэхаў,



і вось бы аднойчы ў сяло
сын твой дадому прыехаў.

Глядзела б! Нібы на свет
ты нарадзілася нанава.
Жанчыны казалі б услед:
сын Лізаветы Іванавай.

Шыбамі б дом наш ззяў.
Ішла б ты шчаслівая, ціхая,
і нечакана сляза
знічкай па твары скацілася б.

Мяў бы я шапку ў руках,
вітаўся б з бабулямі, з дзецьмі.
Мама, я здзейсню наказ!

Як яго цяжка здзейсніць...





ырвоны, дужы, як смаляк,
там, дзе дыміць трубою фабрыка,
з усходам сонца
мой зямляк
чаруе пэндзалем і фарбамі.

Мастак-маляр! Ён з роду тых,
што, фарбы ў жорнах размалоўшы,
ярчэй ад розных Візантый,
саборы й цэрквы
размалёўвалі.

А шчэ раней ля сцен чужых
яны агнём
мушкетаў рыгалі,
і везлі ў край,
каб з ёю жыць,
царэўну звабную —
рэлігію.

Рукамі лашчылі ільны,
перабіваліся заціркаю.
А купалы,
як валуны,
на плечы ціснулі і ціснулі.

Тырчаў у небе шпіль-багор
і рваў, як посцілкі,
хмурыны.
А час прыйшоў —
усіх багоў
патомкі з дому патурылі.

Даволі на каленях стыць!
Пайшлі ў міністры, рыбаловы.

Гляджу я —
з пэндзалем стаіць
нашчадак і унук Рублёва.



Л. П.



Губляць мне вечна галаву,
ад позірку твайго нямець!
Саджуся побач на траву,
як параход на мель.

Так суджана!
Я не прашу
тваёй спагады.
Гэтак суджана!
Ты увайшла ў маю душу,
як бухта сіняя
у сушу.

І гэта слова —
не падман:
ты мне на ўсё жыццё патрэбна,
як параходам —
акіян,
а лёгкім птахам —
неба.



Сяргей ГРАХОЎСКІ



Мастак
Сяргей ВОЛКАЎ





# ЯКІ ВЯЛІКІ ДЗЕНЬ

Апавяданне

Дождж лье трэція суткі. Трэція, гэта калі лічыць ад нядзелі. А так, усё лета хвошча, бадай, без перадышкі. «І адкуль толькі бярэцца? Дзірку, ці што, у небе прабілі?» — злуюць брыгадзіры.

Ну, якая тут работа? Рубца сухога няма, боты з глею за халявы выцягваеш, гусенічныя трактары крэкчуць і коўзаюцца ў тлустай, як масла, гліне — і ні з месца. А рабіць трэба, усё ж спланавана на кожны дзень. Не запланаваны толькі дождж.

— Ну, і лупіць! — аж плюнуў ад злосці перапэцканы глінаю, мокры Алёшка Акінчыц. Ён паставіў у гразь цяжкую яловую стойку, прыпёр яе да пляча, сцягнуў з рукі набрынялую рукавіцу і пальцамі праціраў запацелыя акуляры.

— Эй, прафесар, «снимите очки-велосипед», пара збірацца на абед,— выскаляючыся, крычыць Колька. Ён стаіць на рыштаванні над вялізным бліШчастым рэзервуарам і на зыбкіх дошках адбівае дробную чачотку. Вось ён пацешна, як на малітву, склаў рукі і тоненькім фальцэтам заспяваў:

Эх ты, бог, эх ты, бог, што ты ботаеш» *
Ты на небе сядзіш, не работаеш.

Колька падставіў пад буйныя кроплі свой кірпаты вяснушкавы тварык, ссунуў бровы, нібы і сапраўды кагосьці ўбачыў у нізкіх шэрых воблаках. І так смешна зрабілася Алёшку, што ён ледзьве ўтрымаў мокрую слізкую стойку. У гэтую хвіліну ён нават пазайздросціў свайму бесклапотнаму напарніку. Яму заўсёды весела, лёгка, усё зразумела і проста ў жыцці. Ён ніколі не сумуе, не сумняваецца і не пакутуе. Ды і сур'ёзным яго ніколі не бачыў Алёшка.

Які год яму можа быць? Пэўна, не больш дзевятнаццаці, а ўжо жыццё пацёрла яго. Пабадзяўся па свеце, а цяпер прыбіўся да іх брыгады. Хоць і не вельмі гарачы да работы, але з ім нават у такую непагадзь весялей, а брыгадзе — яшчэ адзін бал: перавыхаванне даручылі, пераковачкай займаемся. Гэта значыць, з Колькі пыл выбіваем, каб чалавекам стаў.

А ён, руды, канапаты, усё разумее і толькі пасміхаецца: «Што,—

* Ботаеш — (жаргон) гаворыш.

кажа,— па Макаранку працуеце? Давайце, давайце, я згодзен. Вучыце. На чацвёрку выцягну, а пяцёрак не абяцаю. З пяцёрачнікаў падхалімы выходзяць. Ух — не люблю».

Колька стаіць на самым версе рыштавання. Ён бачыць, што брыгада знялася на абед. Месячы нагамі гліну, ідуць цыбатыя, ускудлачаныя ветрам, як мокрыя вераб'і, знаёмыя хлопцы.

— Пайшлі, Лёха, парубаем,— гаворыць Колька свайму напарніку і, насунуўшы на вочы маленькі казырок стракатай кепачкі, па кладках першы бяжыць у бытоўку. Добра, што збілі з аполкаў гэтую будку — хоць ёсць дзе пагрэцца і пакурыць спакойна. У бытоўцы адно маленькае акенца, пасярэдзіне стаіць бляшаная печка, доўгі, з няструганых дошчак стол і дзве хісткія лавы. Над печкаю нацягнуты дрот. На ім сушацца вялікія мокрыя рукавіцы.

Хлопцы запіваюць хлеб кефірам, а Лёшка ножычкам наразае тонкія скрылёчкі ружовага сала. Колька зірнуў на яго, крыва ўсміхнуўся:

— Як стойкі цягаць, дык разам, а сала есці — паасобку. Вось і змагайся з такімі куркулямі за званне камуністычнай. Не даспелі яшчэ! Свядомасць нізкая. Феадалізм! Дзевятнаццатае стагоддзе!

Усе засмяяліся. Лёшка пачырванеў, але не разгубіўся:

— Хлопцы, а Колька праўду кажа. Давайце абагулім авоські, каб не жаваць кожнаму з кулака.

Дзверы адчыніліся, і ў бытоўку ўбегла вясёлая гаваркая ларочніца Нюрка з кашом, поўным «гумовых» пончыкаў.

— Свежанькія, цёпленькія! Налятай, хлопчыкі!

— Яны твае равеснікі, толькі ты цёпленькая, а пончыкі яшчэ летась закляклі,— азваўся Колька.

Усе зарагаталі, а Нюрка адрэзала:

— Памаўчаў бы, канапаты. Лепш скажы, што ў цябе, як у таго галыша, толькі — кепка ды душа.

— От адбрыла! Малайчына, Нюрка!

— Ды ну вас,— адмахнулася дзяўчына.— Мясі гразь, каб людзей накарміць, а тут яшчэ выскаляюцца.

Нюрка ўзялася за клямку, але нешта ўспомніла і затрымалася каля парога:

— Брыгадзір, там у трэсце цябе нейкая фіфачка чакае. Глядзі, ціхоня, можа стрыечная жонка знайшлася.

— Ты не плявузгай абы-што, а кажы толкам,— азваўся брыгадзір.

— Не, сур'ёзна. Чакае ў аддзеле кадраў. Кажа па «лічнаму дзелу». Нібыта сваячка твая. Відаць, з раніцы сядзіць.

Красікаў нібыта і не зважаў на гэта. Ён запісваў у свой распухлы блакнот заданне на другую палову дня, а думка: «Хто б гэта мог яго чакаць, ды яшчэ па асабістай справе?» — не пакідала яго.

Ён перабіраў у памяці ўсіх сваіх знаёмых. Кажа, сваячка, але ж іх проста не было ў Сымона Пятровіча. Успомнілася дзетдомаўскае дзяцінства, рамеснае вучылішча, армія. Можа якая дзетдомаўская «сястрычка» даведалася і прыкаціла. От было б здорава!

Думка пра «сваячку» не давала яму спакою аж да самага канца работы.

Дзень канчаўся, а з ім кончыўся і дождж. З-за хмары, што спаўзла за небасхіл, выбліснула сонца. Ад святла адразу ажыло ўсё вакол: зазелянеў надрэчны луг, ажыў і заіскрыўся недалёкі лес, заблішчалі мокрыя стрэхі бытовак, складаў і прарабскіх вагончыкаў, а шыбіны наліліся зіхатлівым барвовым бляскам.



«Калі не трэба, і сонца свеціць, і дождж перастаў,— думаў брыгадзір, выходзячы са сваімі хлопцамі на дарогу.— Ну што пісаць у нарадзе? Алёшка з гэтым «выхаванцам» яшчэ нешта зарабілі, а астатнія перацягалі цэлае мора вады з катлавана: помпа захрасла зранку, пакруціліся-пакруціліся, узялі вёдры і «запусцілі канвеер». А дзе ты яе адкачаеш, калі і зверху лье, і глеба набракла: наступіш — вада з-пад абцаса свішча».

Кожны натупаўся за дзень, як конь у малатарні, а што зарабілі? Нуль цэлых і нуль дзесятых? Вось і пішы ў нарадзе: «Пераліванне з пустога ў парожняе, разгонка дыму і затрымка сонца». А ўсё «аб'ектыўныя прычыны», усё дожджык, каб ён спрах,— думае Сымон Пятровіч. Гэта яго так для саліднасці завуць. Ну, які ён там Пятровіч? Дваццаць шосты год хлопцу, ростам, як кажуць, аршын з шапкаю, адукацыя восем класаў. Газеты, праўда, не скупіліся на хвалу яму — і заметкі, і партрэты друкавалі, і нарысы пра яго пісалі. А што ён зрабіў? Нічога асаблівага: сумленна працаваў бетоншчыкам, потым далі брыгаду — хлопцы падабраліся такія, як сам, па паўтары нормы давалі. Толькі гэтыя дні дажджы пасадзілі.

Брыгада Красікава спынілася каля дарогі, каб дачакацца якоганебудзь самазвала і даехаць на ім да шашы. Не мясіць жа гразь яшчэ тры кіламетры... Намясіліся, хопіць. Хлопцы перакульваліся праз жалезныя барты самазвалаў у гулкія кузавы, перамазаныя бетонам і цагляным пылам, і выязджалі на магістраль. З машыны добра відаць уся будоўля. І сёння, за гэты кароткі дажджлівы дзень, тут нешта прыбавілася, нешта змянілася. Што — адразу і не прыкмеціш.

Сымон Пятровіч пастукаў па кабіне, а як толькі самазвал прытармазіў, саскочыў і пайшоў у новы будынак трэста. Ён лёгка ўзбег на трэці паверх і пайшоў па доўгім, гулкім калідоры.

На ўслончыку каля аддзела кадраў сядзела дзяўчына ў цёмна-чырвоным паліто, у новенькіх сацінавых шараварах і ў туфельках на высокіх абцасіках. Убачыўшы Сымона Пятровіча, яна паднялася, зрабіла крок насустрач.

— Прабачце, ці не вы таварыш Красікаў?

— Я.

— Сымон Пятровіч?

— І гэта праўда. Адкуль вы мяне ведаеце?..

Кадравік за дзвярыма пачуў брыгадзіраў голас і крыкнуў яму:

— Колькі ж можна чакаць? Заходзь, Пятровіч!



Дзяўчына памкнулася затрымаць брыгадзіра, хацела яму нешта сказаць, але дзверы адчыніліся, і на парозе з'явіўся Асмаловіч.

— Ну, вось і дачакалася сваяка. Заходзьце, калі ласка,— ён паціснуў руку Сымону Пятровічу, прапусціў дзяўчыну ў кабінет, ухапіў яе цяжкі фанерны чамадан і ўнёс у пакой.

Красікаў нічога не разумеў: чаму «сваячка»? Чаму перад ёю так увіхаецца Асмаловіч?

Дзяўчына першая ўвайшла ў кабінет, пачырванелая і разгубленая. Сымон Пятровіч моўчкі паглядаў на яе.

— Вы, калі ласка, прабачце,— загаварыла яна.— Я сказала няпраўду, што ваша сваячка. Ведаю вас толькі па газетах. Таму і хачу ў вашу брыгаду.— Яна вінавата ўсміхнулася: — Вы мне здаваліся высокім, дужым і чамусьці чарнявым.

— А ўбачылі і расчараваліся? — спытаўся Красікаў.

Дзяўчына не паспела нічога сказаць. Яе перапыніў начальнік аддзела кадраў:

— Адразу б так і сказала. Даўно б афармілі і быў бы поўны парадак.

— Баялася, што пашляцё ў якую-небудзь іншую. Вось і чакала Сымона Пятровіча.

Брыгадзір заўважыў: як толькі гэтае дзеўчанё перастала быць яго «сваячкаю», адразу знікла ўсё далікацтва кадравіка. Ён ужо ёй казаў «ты», і тон адразу стаў службовы.

Сымон Пятровіч углядаўся ў тонкія рысы дзявочага твару, у зграбную постаць і думаў, што таксама ўяўляў яе зусім іншаю.

— Як вас хоць завуць? Адкуль вы? А то прыбег да «сваячкі» і нічога пра яе не ведаю.

— Надзя. Прозвішча Радкевіч. Родам з Баранавіч. Скончыла адзінаццаць класаў, паступала на факультэт журналістыкі, але туды без стажу не прымаюць. Кажуць, жыцця не ведаеш. Вось я і прыехала да вас вывучаць яго.

— А можа вам толькі даведка патрэбна? — нахмурыўся Красікаў.

— Мне трэба работа... у вашай брыгадзе. Я многа ў газетах чытала пра вас, па радыё чула... вось і прыехала.

— У газетах пра нас складна пішуць. Кожнага такім херувімчыкам размалююць, што самому бывае смешна. Эх, і ўмеюць жа некаторыя: «усмешачка, здымаю! Дзякую. Наступны». Вось і выглядаем мы на партрэтах асілкамі. Рамантыка! — Ён падышоў да акна: — А вы зірніце на гэтую рамантыку: гразь па самую рэпіцу, мокнем, як тыя вадзянікі, і «ўкалваем»... Ведаем, што за нас ніхто не зробіць. План — ёсць план. Дзеці — ёсць дзеці, яны есці хочуць. А вам стаж патрэбен і моднае імя «будаўнік Нафтабуда». Гучыць! Пачуе прыёмная камісія і адразу залічыць. А да нас праз некалькі год прыедзе яшчэ адзін карэспандэнт. З магнітафонам ці фотаапаратам?

Надзя зразумела ўсё і, стрымліваючы хваляванне, сказала:

— Я працаваць хачу, а даведка не абавязкова. Вазьміце мяне, Сымон Пятровіч.

— Вунь электразваршчыцы ідуць. Бачыце? Слаўныя дзяўчаты, прыгожыя, начытаныя, сціплыя, ім бы ў туфельках на шпілечках, у капронах ды ў нейлонах там розных хадзіць, а яны ў брызентавых камбінезонах, у гумавых ботах гразь месяць. Для стажу, думаеце? Тут нешта іншае ёсць. Папрацуеце — зразумееце...

Яны памаўчалі.



— Ну, дык як, не страшна?!

Надзя пакруціла галавой.

— *Людзі нам патрэбны.* Тады афармляй, Леанід Кандратавіч.

* * *

Праз два дні Надзя выйшла на работу. На пляцоўку яе вёў брыгадзір.

Зграбная, лёгкая і чысценькая, яна пераскоквала калюжыны, каб не вельмі перавэдзгаць свае блішчастыя гумавыя боты.

Хлопцы сядзелі ў бытоўцы, курылі і жартавалі адзін з аднаго. Праз акно нехта ўбачыў брыгадзіра з «новым папаўненнем». Сказаў хлопцам. Колька ўсхапіўся першы:

— Нішто тавар. Цікава толькі, каму ён дастанецца.

Алёшка зверху акуляраў зірнуў на яго, а Юрка папярэдзіў:

— *Ты, хлопец, свае блатныя выбрыкі кінь і не палохай дзяўчыну.* Зразумела?

— Ці не паспееў урэзацца? — зарагатаў Колька, але ўсе хлопцы сурова маўчалі. Ён крышку разгубіўся і «папоўз на тармазах»: — Будзьце спакойны, забяспечым галантарэйнае абыходжанне,— ён зняў маленькую кепачку і зрабіў нязграбны рэверанс.

Дзверы адчыніліся. Сымон Пятровіч прапусціў Надзю. Яна прывіталася і стала ў парозе.

— Знаёмцеся, хлопцы. Гэта новы член нашай брыгады Надзя Радкевіч.

— Да ручкі падыходзіць па старшынству ці па алфавіту? Хоць так і так Акінчыц першы,— не стрымаўся Колька.

Хлопцы пырснулі ад смеху. Усміхнулася і Надзя. Яна працягвала сваю маленькую чысценькую руку і *кожнаму гаварыла «Надзя».* Апошні падышоў Колька. Ён цырымонна расшаркаўся перад ёю:

— Мікола. Да сённяшняга дня лічыўся «новенькі», а цяпер «новенькая» ты. Дзякую. Выручыла. Адзью! — ён крутнуўся, як у балеце, *дастаў з-за вуха папяроску і закурыў.*

Надзя маўчала. Усё было не так, як ёй здавалася. Яна бачыла твары, падобныя на тыя, што былі на газетных здымках, а хлопцы тут, на рабоце, выглядалі прасцей. І панарама зусім не такая. Больш прастору і ўсё сапраўднае: дождж, раскоўзаная гліна, луг за рэчкаю, Красікаў зусім не волат, проста чалавек ніжэй сярэдняга росту, відаць, уважлівы і чулы да людзей. Хлопцы? Вось пазнаёмілася з імі, а ўсіх не запомніла. Вунь той, у акулярах, здаецца, Аляксей, гэты, з прыгожымі цыганскімі вачыма, Юрка, а вяртлявы жартаўнік, зусім хлопчык, Коля. Іх яна запомніла. А каторы Роберт, Валодзя і другі Валодзя, Антон і Стась — не разбярэш адразу.

Яна абвяла позіркам цьмяную бытоўку. На цвічках віселі авоські з полуднем. А яна ж нічога не ўзяла з сабою. І Надзя пачырванела. Прыйдзецца хлусіць, *што зусім не хочацца есці. Яна яшчэ раз* акінула позіркам усіх хлопцаў і падумала: пройдзе тыдзень, другі і яна будзе ведаць і характары, і звычкі, і біяграфію кожнага, напэўна, пасябруе з імі. І тут жа дала сабе слова — быць аднолькаваю да ўсіх. «*Буду весці дзённік,*— падумала яна,— а пасля напішу нарыс пра сваю брыгаду». Яна яе ўжо называла сваёй.

Сымон Пятровіч разгарнуў на стале складзеную ў дзесяць столак сіньку. Алёшка і Юрка адразу звесілі чубы над чарцяжом.

Брыгадзір кожнаму сказаў, што рабіць, зірнуў на свой наручны «будзільнік» і скамандаваў: «Пайшлі».



Надзю ён паставіў разбіраць арматуру. Чула гэтае слова і раней. Ведала, што ёсць арматуршчыкі, а ніколі не думала, што арматура — гэта пераплеценыя жалезныя прэнцікі.

Колька мімаходзь кінуў ёй свае брызентавыя рукавіцы.

— Трымай, намесніца, а пальчаткі схавай: не па сезону.

Надзя нагнулася над іржавымі жалезнымі пляцёнкамі і пачала іх разбіраць. Было ветрана, няўтульна. Нізка вісела шэрае неба. Добра яшчэ, што не ішоў дождж. Успомнілася матчына цёплая хата вось у такія дні позняй восені. Патрэскваюць дровы ў печы, вецер дзынькае шыбінаю, ча́каюць «ходзікі». І так зрабілася сумна, так захацелася дамоў, што аж слязінкі заказыталі ў горле. Яна азірнулася. Усё было незнаёмае, чужое, убачанае ўпершыню. Усе спяшаюцца, мітусяцца, цягнуць бярвенні і дошкі ў нейкі катлаван, грузаюць па перамешанай трактарамі багне. Гэта нялёгка. Вось і пісалі б так, як ёсць. Няхай бы кожны ведаў, як цяжка трапіць на Дошку гонару, на газетную паласу, як нялёгка заслужыць працоўную славу.

Надзя ўспомніла, што сёння субота, кароткі дзень. Яна рана прыйдзе дадому, скіне цяжкія боты, гаматную целагрэйку і ў лёгкіх туфельках пабяжыць у кіно. І тут яна ловіць сябе на думцы: гэта ж толькі першы рабочы дзень у яе жыцці, а ёй ужо хутчэй хочацца ў цёплы пакойчык дзявочага інтэрната, яна марыць пра свой беленькі ложак, пра туфелькі і кіно.

Можа ёй сумна таму, што яна яшчэ нічога не ўмее, што ніколі не рабіла і не любіць аднастайнай работы, пра якую кажуць: «паднімі і кінь».

* * *

Перад самым канцом работы да брыгадзіра прыбег нейкі пажылы чалавек і пачаў упрошваць разгрузіць чатыры вагоны шчэбеню.

— Дзве гадзінкі — і вашых нет,— угаворваў ён.— А то прастой запішуць, акты складай, штрафы плаці, а вам раз плюнуць і — вашых нет. Ды і шчэбень (ён правёў далонню па шыі) во як патрэбен.

Брыгадзір згадзіўся.

Рухавы чалавек, што так клапаціўся пра разгрузку, выскачыў на дарогу, спыніў самазвал, усю брыгаду Красікава пасадзіў у мокры халодны кузаў, сам прыляпіўся недзе каля шафёра і... паехалі.

— Я так і ведаў, што кіношка сёння будзе бортам,— абураўся Колька.— Тар-р-ракан гэты вусаты! Апрача нашай брыгады нікога больш не ведае. Ішакоў знайшоў!

— А якое кіно сёння? — спытаў хтосьці з хлопцаў.

— Каляровы ў двух серыях «Разгрузка шчэбеню» і «вашых нет»,— адказаў Колька.

У тупіку каля складаў, прыцярушаных цэментавым пылам, стаялі скрэмзаныя крэйдаю вагоны.



— Начальнічак, а плаціць колькі будзеш за каробачку? — зноў не вытрымаў Колька.

— Ёсць дзяржаўная расцэнка,— хацеў ухіліцца дзесятнік.

— Ты не цямні, баця, кажы, як ёсць.

Пакуль Колька часаў языком, Юрка з Алёшам адсоўвалі цяжкія вагонныя дзверы, астатнія хлопцы падцягвалі трапы, пад колы падкладвалі чуркі, здымалі целагрэйкі і хавалі іх пад вагоны, каб часам не змачыў дождж.

— Гэта ж не ваенная тайна. Ну, скажы, баця.

— Сціхні ты, Носаў, без цябе разбяромся,— сунімаў яго брыгадзір.

Надзі было сорамна за гэтага настырнага хлапчука, за непачцівасць да пажылога чалавека.

— Сем дваццаць за вагон і адчапіся, смала,— злосна кінуў дзесятнік.

— Фю-і-і-ць,— свіснуў Колька.— Дык ты да раніцы, баця, можаш адхваціць 28 рублёў і 80 капеек. Перабіваць не будзем. Разгружай сам, а ў нас няма дурных. Праўда, хлопцы? — ён прытупнуў і заспяваў: «Субота, субота, харошы вечарок».

— Ніяк не пайму, Красікаў, цырк ці вар'яцкі дом у тваёй хваленай брыгадзе.

Брыгадзір маўчаў.

Хлопцы ўцягвалі трапы, разбіралі насілкі, разыходзіліся па вагонах. Колька стаяў збоку адзін. Ён падміргваў то Алёшку, то Юрку, нібы гаварыў: «Давайце напалохаем старога». Але ніхто на яго не зважаў.

Ужо тарахцелі па шчэбеню шуфлі, угіналіся трапы, калі хлопцы праходзілі па іх з цяжкімі насілкамі. Толькі Надзі не было пары. Калі вярталіся хлопцы паражняком, яна хуценька загружала іхнія насілкі. Страшэнна ныла спіна, на далонях ускочылі і палопаліся вадзяныя пухіры. Да іх прыліпалі цубкія брызентавыя рукавіцы, а калі аддзіраліся, здавалася, з рук злазіць скура.

Вечарэла. Паміж нізкіх цёмна-сініх хмар прабілася малінавая палоска, потым выкацілася вялікае барвовае сонца і павісла над далёкім задзвінскім борам. Ад вагонаў, ад слупоў электраліініі, ад штабялёў дошак пацягнуліся доўгія пачварныя цені. Праз шчыліны ў вагон прабіваліся чырвоныя палоскі, і твары хлопцаў заружавелі, нібы ад полымя кавальскага горна. За стосам мяхоў з цэментам мільгануў нейчы цень. Гэта — Колька. Яго кепачка. Значыць, ён бачыць, што Надзя засталася без напарніка, што апошні вагон разгружае толькі тры чалавекі, што пустуе яго месца. Не разгружае і не едзе дахаты.

Потым Колька павольна ўвайшоў у вагон. Відаць, было няёмка туляцца за мяхамі. Ён узяў насілкі і пачаў у іх насыпаць шчэбень.

— Панеслі,— сказаў ён Надзі такім тонам, нібыта нічога і не было. Яна ўзялася за доўгія заднія ручкі і пайшла ўслед за Колькам.

— Прыдумалі машыны, што кніжкі перакладаюць, у космас лётаем, аўтаматыка і кібернетыка кругом, а шчэбень насілкамі цягаем. Гэта яшчэ маліна! А цэмент, вось гэта дык разгрузачка! Родная мама не пазнае. Дзве гадзіны разгружаеш, а месяц плюешся. Любата! А што б падвесці шланг і пампуй з вагона ў бункер. Цэмент жа, як вада. Зручна, выгадна і надзейна, як у ашчадкасе.

— Ты б падаў рацыяналізатарскую прапанову. Гэта ж сапраўды здорава,— ажывілася Надзя.

— Ха-ха-ха! Колька Носаў рацыяналізатар, першая прэмія, партрэт у шматтыражцы: «Раўняйцеся на перадавіка вытворчасці!» Цырк дый толькі.

— Што тут смешнага?
— Давай, пайшлі. Пасля разбяромся.
*Асенняя ноч насунулася адразу*, і *зрабілася зусім цёмна.* У вагонах запалілі ліхтары. Высока ў небе дрыжалі блакітныя зоры, але ад іх не станавілася ні святлей, ні цяплей.
Гразь пад нагамі падшэрхла і зрабілася пругкай. Лягчэй дыхалася і хадзілася.
— Ну, як у вас? — зазірнуў у вагон змакрэлы брыгадзір.— Мо памагнуць?
— Спасібачкі, заканчваем. Па руб восемдзесят адхапілі — вашых нет.
— Табе і рубля даваць не варта. Пратуляўся за штабелем ледзь не гадзіну.
— А ўнутраная барацьба чаго варта, брыгадзір? Пакуль вырашаў «быць або не быць», Надзя ўкалвала за мяне. Ёй і пішы дзве нормы. З першага дня — ударніца.
У аўтобусе Надзя ледзь не задрамала. Ёй здалося, што яна ляціць у нейкую зорную бездань: чырвоныя, сінія, жоўтыя агеньчыкі мільгалі паміж соснаў і мчаліся ёй насустрач. Толькі за паваротках зда*гадалася, што гэта агні гарадка.*
Яны набліжаліся, станавіліся вялікімі вокнамі, з фіранкамі і фікусамі, з незнаёмымі сілуэтамі на шыбах, з адкрытымі форткамі, з абрыўкамі музыкі, што вырывалася ў асеннюю ноч. Надзя пазайздросціла людзям, якія жывуць у гэтых дамах: у іх ёсць сем'і, блізкія, яе ніхто не чакае, ніхто не спытае, як ёй працавалася ў першы дзень.
У інтэрнат Надзя бегла адна. Яна нізка апусціла галаву, схавала ў кішэні рукі. З непрывычкі далоні смылелі і нылі ад стомы і першых мазалёў. У новым, толькі што заселеным доме, было светла і шумна. Гармонікі нібы хацелі заглушыць адзін аднаго: «Падмаскоўныя вечары» пераблыталіся з «Агурочкамі», а недзе на чацвёртым паверсе ўжо «Шумеў камыш». Відаць, увесь дом спраўляў наваселле.
Прайшоўшы з паўквартала, Надзя адчула, што яе нехта даганяе. Хоць і было страшнавата, але азірнулася:
— Надзя, пачакай, гэта я... Хвіліначку, справа ёсць.
*Яна не спынілася, а толькі прыцішыла крок.*
— Ты мяне можаш лаяць, колькі хочаш. Ведаю, што па глупству затрымліваю, але, апрача цябе, мне няма з кім параіцца. Ты ж у шмотках разбіраешся.
— У чым, у чым? — перапытала Надзя.— Наогул, цябе, Мікалай, без перакладчыка не зразумееш.
— Ну, як табе растлумачыць? Адным словам, у бабскім абмундзіраванні толк разумееш? Мне трэба купіць нейкую добрую рэч, а што, і сам не ведаю.
— Нічога не разумею, Коля. Навошта табе жаночыя рэчы?
— Не рэчы, хоць бы адну. Толькі паміж намі... Заўтра ў мамы маёй дзень нараджэння. Разумееш?
— Разумею.
— Мы яго заўсёды адзначаем удваіх, *чаем з пячэннем або тор*там, але ніхто ніколі не прыносіў ёй ніякіх падарункаў...
— Колькі гадоў тваёй маме?
— Сорак адзін.
— А *якая яна?*
— Вельмі харошая,— зусім па-дзіцячаму адказаў Колька.



— Мамы ўсе харошыя. Але каб купляць завочна, трэба ведаць, якія ў яе валасы, высокая яна ці нізкая, поўная ці худая, нават які колер вачэй, ну, і размер, канечне.
— Адбіткі пальцаў не трэба? — пажартаваў Колька.— Ну, дык як, дапаможаш? І дай слова — нікому ні гу-гу. Заўтра ў дванаццаць каля магазіна. Добра?
— Калі для мамы, прыйду,— Надзя павярнулася, прабегла яшчэ некалькі дзесяткаў крокаў і знікла ў дзвярах інтэрната.
Колька пастаяў каля ганка. Праз хвіліну засвяцілася яшчэ адно акно. Колька падышоў да яго.
— Ага, значыць, у восьмым пакоі.

* * *

Назаўтра яны сустрэліся каля магазіна. Здалёк Надзя нават не пазнала Кольку. На ім было моднае кароценькае паліто, чорны касцюмчык і белая накрухмаленая кашуля. Старанна прычасаныя валасы здаваліся не рудымі, а проста светлымі.
Чакаў ён, відаць, даўно, хадзіў, прагна курыў і пазіраў на ўсе бакі. А ўбачыў — пабег ёй насустрач. Сёння ён увесь быў нейкі светлы, далікатны і стрыманы. Яны хадзілі ад прылаўка да прылаўка, пераходзілі з аддзела ў аддзел, разглядалі нейлонавыя блузкі і шарсцяныя кофтачкі, модныя туфелькі і імпартныя сумкі. Але Надзя нічога не магла выбраць. «Гэта не модна», «гэта не практычна», «для сталай жанчыны — легкадумна», «абутак, не памераўшы, купляць нельга».
Колька пачынаў трывожыцца, што так яны нічога і не выберуць, ён нават асцярожна спрабаваў яе ўгаворваць. На іх пазіралі дзесяткі вачэй. Адны дакаралі, другія спачувалі, трэція двухсэнсоўна падміргвалі Кольку, а ён чырванеў і адварочваўся. «Падлабуніўся рыжы да новенькай». «Глядзі, глядзі, ужо і падарункі купляе», «За што б гэта»?! — перашэптваліся дзяўчаты, якія даўно ведалі Кольку. А ён бянтэжыўся, рабіўся нязграбны і маўклівы.
Яны выйшлі з магазіна, так нічога і не купіўшы.
— Ну, што будзем рабіць? Без падарунка мне ніяк нельга.
— Ты ж сам бачыў, што купіць абы-што — толькі грошы выкінуць. Падарыць трэба такое, каб на ўсё жыццё памяць была.
— Прыдумаў! Толькі вельмі прашу, з'ездзі са мною ў горад...
Колька заўважыў, што Надзя насцярожылася і пачаў упрошваць яе, як малое дзіця:
— Гэта ж зусім побач, аўтобусы ідуць праз кожныя дзесяць хвілін. Толькі зойдзем, купім і прыедзеш назад. Ну, прашу...
Надзі было шкада часу. Хацелася сёння напісаць пісьмы, схадзіць у бібліятэку і наогул крыху агледзецца. Ды і няёмка ездзіць з гэтым мала знаёмым хлопцам. Але хіба можна адмовіцца? Гэта ж не абы-што, а падарунак маме. Надзі ўспомнілася свая мама і зрабілася крышку сумна.
Яны дабеглі да прыпынку і ледзь не на хаду ўскочылі ў аўтобус. У ім было людна, весела і шумна. Ехалі такія ж, як і яны, юнакі і дзяўчаты і, мабыць, былі рады, што ў аўтобусе цесна і што ён не вельмі спяшаецца ў горад.
Надзя з Колем прыйшлі ў ювелірны магазін. Яны прабегліся вачыма па радочках маленькіх гадзіннікаў, раскладзеных у вітрыне. Надзя глядзела на форму, марку, на цыферблат, а Колька яшчэ пры-

глядаўся і да цаны. Нарэшце яны выбралі маленькі зіхатлівы гадзіннік «Слава», купілі і раменьчык да яго.

— Памерай, калі ласка,— папрасіў Колька.

Надзя прыклала гадзіннік да свае тонкае рукі, сама паглядзела на яго з усіх бакоў і паціху сказала: «Добра».

— Пры-го-жа! — пацвердзіў Колька.

Яны выйшлі на людную вуліцу. Надзя разглядала незнаёмы горад. Ён увесь быў новы, прасторны і нават у гэты асенні дзень здаваўся светлым і незвычайна чыстым.

Надзя і не заўважыла, як яны зайшлі ў маладзенькі гарадскі скверык. Ён увесь свяціўся асенняй пазалотай, нібыта недзе ў вершалінах тапаляў і ліп схавалася сонца.

— Давай пасядзім хвілінку. Зірні, як тут хораша.

— Хіба толькі хвілінку,— адказала Надзя, і яны пайшлі да зацішнай лавачкі, што стаяла паміж кустоў парудзелай акацыі.

— Я нават не ведаю, як табе дзякаваць, што ты ледзь не ўвесь выхадны...— Колька замяўся, шукаючы патрэбнае слова,— ну, хадзіш са мною па магазінах.

— Па-мойму, кожны пайшоў бы памагчы купіць маме падарунак. А мы з табою купілі добры гадзіннічак. Вось будзе рада!

— Думаю, што будзе. Яна ж ад мяне, апрача непрыемнасцей, нічога добрага не бачыла. З трэцяга класа яе цягалі ў школу за мае фокусы, а потым і ў міліцыю не раз «запрашалі». Цяпер і самому смешна, якія дурні былі. Разумееш, вучыліся ў сёмым класе. У кіно хочацца, а грошай няма. Думалі, думалі і дадумаліся. Непадалёк ад нас ларок стаяў. Так, фанерная будачка, штурхні — паваліцца. Віно, кілбасу, цукеркі і кансервы там розныя прадавала цётка Сіма. Нагледзелі мы гэты ларок. Як добра сцямнела, падкапаліся пад яго. Залез туды адзін пацан, падняў маснічыну і падае нам пляшку за пляшкай. Пакаштавалі, віно — кіслае, як воцат, аж у роце сцягвае, пакаштавалі з другой — крыху саладзейшае, пацягнулі ўсе з рыльца па глытку, а рэшту вылілі. Носім бутэлькі, адкаркоўваем і выліваем віно ў канаўку, а пляшкі ў сетку складаем. Штук дванаццаць так адкаркавалі. Сетку схавалі ў густых лапухах за нашым агародам. А назаўтра панеслі здаваць бутэлькі. Тут нас і застукалі. Ну — міліцыя, допыты: «Хто кіраваў? Куды схавалі грошы?» «Якія грошы?» — пытаемся. Мы ж яшчэ не паспелі іх выручыць за пляшкі. А нам кажуць, што мы дзве тысячы з касы забралі. Ну ж і пакруцілі нас вакол гэтых дзвюх тысяч. Гэта таўстуха Сіма выдумала — разбагацець хацела. А нас у суд цягнуць — крадзёж з узломам. Патрабуюць выдаць кіраўніка, у камеры трымаюць. Ледзь выпуталіся. Добра, што школа на парукі ўзяла. А мама ажно пасівела за гэтыя дванаццаць бутэлек. І ў мяне жыццё пайшло з перакосам. У школе «ларочнікам» пачалі дражніць. Двойку схаплю, зноў папракаюць: «Гэта табе не бутэлькі цягаць». І так мне ўсё агоркла, так надакучыла, што пасля дзевятага класа кінуў усё і пайшоў працаваць на льнозавод сушыльшчыкам. А сёлета да Сымона Пятровіча паступіў. Харошы ён мужык, справядлівы...

Надзя слухала, апусціўшы галаву.

— Вось і дзякуй, што згадзілася пайсці з «падонкам», як некаторыя мяне называюць. А чаму? За язык. Ведаю, што не пушкінскім стылем гавару. Некаторыя аж зелянеюць, што праўду ў вочы кажу.

Надзя ўстала з лавачкі, і яны пайшлі па замеценых лістамі дарожках. Над імі кружыліся і коса падалі пад ногі жоўтыя лісты.



Кольку было прыемна ісці з гэтаю харошаю дзяўчынаю. Яму хацелася, каб іх убачылі знаёмыя, каб пазайздросцілі сябры. І ён павёў Надзю да аўтобуса па самай люднай вуліцы. Яны ішлі каля магазінаў. Колька скоса пазіраў у вялікія вітрыны. У іх ён бачыў сябе і Надзю.

— Коля-я! — пачулася зусім блізка. Яны азірнуліся. Следам бегла невысокая жанчына з поўнаю гаспадарчаю сеткаю і з тортам у руках.

— Гэта мама,— паспеў сказаць Колька.

— Добра, што цябе ўбачыла, а то не данясу адна.— І яна падала сыну набітую пакункамі доўгую сетку.

— Пазнаёмся, мама, гэта Надзя... з нашай брыгады.

Колева мама сказала, што яе завуць Кацярына Рыгораўна і што ёй «вельмі прыемна». Надзя заўважыла, як прыглядаецца да яе Колева мама, і пачырванела да вушэй. Яна гатова была бегчы адсюль, ні на кога не зважаючы. Але стрымала сябе. Толькі ў думках паўтарала: «Дурніца, дурніца, і панёс жа мяне чорт з гэтым Колькам».

Кацярына Рыгораўна ўзяла Надзю пад руку, і яны, нібыта даўнія сяброўкі, пайшлі наперад, а Коля за імі нёс цяжкую сетку. Ён не ведаў, што яму рабіць: адправіць маці дадому адну, а самому пайсці праводзіць Надзю да аўтобуса? І насіцца з гэтаю пудоваю сеткаю, як дурань з пісанаю торбай! Пакінуць Надзю адну і пайсці з мамай таксама нельга. Што ж рабіць? Праз квартал ім трэба разыходзіцца — Надзі направа, а маме налева. А куды яму ісці?

На рагу мама з Надзяю спыніліся.

— Вось прашу Надзю, каб зайшла да нас. Пасядзелі б, выпілі б чаю з тортам, адзначылі б мой дзень нараджэння.— Колька ледзь не падскочыў ад радасці.

— Сапраўды, Надзя, хадзем. Гэта зусім побач, а потым я цябе да самага інтэрната правяду.

Надзя аднеквалася, але не вельмі настойліва і рашуча. Яна недзе чула, што ў дзень нараджэння нельга крыўдзіць юбіляра. Кацярына Рыгораўна энергічна ўзяла яе пад руку і павяла ўніз ад плошчы ў вузкі завулак, што бег да самай ракі.

Колька ішоў побач і ўсміхаўся.

* * *

Яны пілі чай. Вялікі гадзіннік дакладна адбіваў час. На падлозе ў цэбрыку рос лапушысты фікус. На сцяне вісела рэпрадукцыя з рэпінскай карціны «Не чакалі». Усё тут было проста і сціпла: стол, ложак за шырмачкай, каля другой сцяны вузкая канапка, над ёю — каляровая паштоўка з партрэтам Германа Цітова. Вось і ўсё.

Праз паўгадзіны Надзі ўжо здавалася, што яна ледзь не з маленства ведае і гэты пакой, і саматканыя палавічкі на вышараваной



падлозе і гэтую жанчыну ў сіняй шарсцяной кофтачцы з зацыраванымі рукавамі, з добраю, крышку сумнаю ўсмешкай. У яе яшчэ зусім маладыя вочы і свежыя, ружовыя вусны. Толькі каля вачэй разбегліся гусіныя лапкі зморшчынак, ды на скронях валасы крыху святлейшыя, чым за вушамі. Відаць, што яна вельмі добрая і даверлівая. Пакуль Колька бегаў у магазін, яны сядзелі, як даўнія сяброўкі, і Кацярына Рыгораўна коратка, але вельмі выразна расказала пра сваё нялёгкае жыццё. Яна мімаходзь сказала, што Колькавага бацьку, ваеннага марака, забралі ў сорак дзевятым годзе. Азваўся ён двума лістамі і змоўк. Тады яе ўсе баяліся. З тэлеграфістак знялі. Была паштальёнам, кур'ерам, прыбіральшчыцай у школе. Толькі пасля дваццатага з'езда зноў сябе чалавекам адчула. Тады і паведамілі, што муж рэабілітаваны пасмяротна. А пакуты, абразы і знявагі не рэабілітуеш. Усё гэта прайшло, але самая вялікая крыўда засталася на сябе самую, што сына не дагледзела, не davучыла, што ледзь было зусім яго не страціла.

Надзя разумела ўсё і спачувала Кацярыне Рыгораўне. У яе было мала радасцей, звычайнага чалавечага і жаночага шчасця, і вельмі многа гора і слёз. Надзя падумала, што большасць людзей з цяжкім лёсам ад гора не чарсцвеюць, а робяцца чуллівымі і спагадлівымі. Такою была Кацярына Рыгораўна.

Надзя ледзь стрымала слёзы, калі Колька зашпіліў раменьчык з гадзіннікам на тонкай матчынай руцэ. Такога падарунка Кацярына Рыгораўна не чакала. Спачатку яна спалохалася, адхапіла руку, відаць, ледзь стрымалася, каб не спытаць: «Дзе ты ўзяў?» Але Колька ўсё зразумеў. Ён усміхнуўся, кіўнуў галавою ў Надзін бок і сказаў:

— Разам выбіралі. Табе падабаецца, мама? — яна прыцягнула сынаву галаву, моцна пацалавала і выскачыла ў кухню. Колька стаяў разгублены, як хлопчык.

Надзя адчувала, што яна замінае ім шчыра парадавацца, можа пасмяяцца, а можа і паплакаць у гэты дзень. І наогул, чаго яна тут? Як яна трапіла ў гэтую чужую ёй сям'ю? Кольку яна ведала толькі адзін дзень. Нават пабойвалася яго, лічыла блацяком. А ён не зусім такі. І мама яго — вельмі ж добрая жанчына.

На вуліцы зусім змеркла, і Надзя заспяшалася.

— Сапраўды, вас Коля правядзе дадому.

А Коля ўжо трымаў Надзіна паліто, як самы далікатны кавалер.

— Я вельмі рада, што пазнаёмілася з вамі,— гаварыла на развітанне Кацярына Рыгораўна.— Заходзьце да нас, калі ласка, да мяне заходзьце. Я буду заўсёды вельмі рада. І дзякую, што памаглі гэтаму шалапуту купіць такую слаўную рэч, а то сам прывалок бы які-небудзь будзільнік.— Яна ласкава паглядзела на сына і ўсміхнулася добрай усмешкаю.

Надзя развіталася з Колем на аўтобуснай станцыі. Па слаба асветленай плошчы вецер гнаў і кружыў апалае лісце, згінаў верхавіны маладых прысад. Напалову пусты аўтобус хутка памчаўся па вуліцы. Надзя зірнула ў акно: на прыпынку ў крузе электрычнага святла гайдаўся адзінокі цень. Сёння Колька быў зусім іншы, далікатны, мяккі, чулы, як і яго маці. А той, блатнаваты хлапчук, здавалася, недзе застаўся пад дажджом каля пустога вагона з-пад шчэбеню. І чаго гэта я думаю пра яго? Што ён мне, брат, сват ці друг дзяцінства? — спахапілася Надзя, каб адагнаць думкі, пачала чытаць плакаты і абвесткі, расклееныя ў аўтобусе.

«Дадатковы прыём на першы курс вячэрняга нафтавага тэхнікума».



Яна дачытала да канца абвестку і задумалася: «А можа з мяне выйдзе лепшы хімік, чым журналіст? Ды што я ведаю пра гэтую журналістыку? Не болей, як і пра нафту. А тэхнікум не пашкодзіць і ва ўніверсітэт паступіць. Трэба будзе і Мікалаю параіць падаць дакументы. Разам пададзім. І маці будзе рада. Цьфу ты! Зноў тое ж самае лезе ў галаву».

У інтэрнаце сяброўкам па пакоі Надзя сказала:

— Паехала ў Полацк, паглядзела горад і трапіла ў кіно.

Яе суседка, маленькая, шустрая электразваршчыца Паша паківала галавою і разанула ў вочы:

— Кі-і-но-о! Расказвай маме — яна паверыць. Ты глядзі, дзеўка, закруціць табе мазгі гэты рыжы. Бач ты, з першага дня падарункі купляе. А ты і клюнула, дурнічка.

Надзя ледзь не заплакала ад крыўды, але і апраўдвацца не хацела і расказваць нічога не магла. Раздзелася і лягла на свой вузенькі ложак. Яна толькі цяпер адчула страшэнную стому, заплюшчыла вочы, але ўсё адчутае, убачанае і перажытае не давала ёй заснуць. Яна не шкадавала, што так здарылася, што яна сустрэла Кацярыну Рыгораўну і Кольку, што ведае іх лепш, чым усе іншыя, што ўбачыла абвестку ў аўтобусе, што ўсё жыццё пачалося не так, як яна думала! А як? Будзе відаць!

Які вялікі дзень прайшоў!

За чорнай шыбінай Надзя ўбачыла буйныя блакітныя зоры. Значыць, заўтра будзе пагода.





# АДЗІНАЯ МНОГАНАЦЫЯНАЛЬНАЯ...

## Да трыццацігоддзя Першага Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў

У пагодлівыя жнівеньскія дні 1934 года ў Маскве сабраўся Першы Усесаюзны з'езд савецкіх пісьменнікаў. На ім прысутнічаў 591 дэлегат ад 1 500 савецкіх пісьменнікаў. Дэлегаты прадстаўлялі літаратуры 52 братніх нацыянальнасцей СССР. На з'ездзе прысутнічала 40 пісьменнікаў, прадстаўнікоў ад 13 зарубежных краін. Нават па сучасных маштабах гэта — унушальны форум мастацтва!

Адкрываючы з'езд, Максім Горкі падкрэсліў, што «рознаплямённая, разнамоўная літаратура ўсіх нашых рэспублік выступае як адзінае цэлае перад тварам пралетарыяту Краіны Саветаў, перад тварам рэвалюцыйнага пралетарыяту ўсіх краін і перад тварам дружалюбных нам літаратараў усяго свету».

Паўмесяца працягвалася плённая работа з'езда. Былі заслуханы даклады аб савецкай літаратуры, прозе, паэзіі, дзіцячай літаратуры, крытыцы, аб прагрэсіўнай зарубежнай літаратуры. На з'ездзе выступілі многія савецкія пісьменнікі. І сёння гэтыя выступленні чытаеш з хваляваннем і гордасцю. Але самымі характэрнымі былі, вядома, выступленні Максіма Горкага: перад адкрыццём з'езда, даклад аб савецкай літаратуры, заключнае слова, якія з'явіліся каштоўным укладам у савецкае літаратуразнаўства.

Першы з'езд пісьменнікаў стварыў і аформіў Саюз савецкіх пісьменнікаў СССР, прыняў Статут саюза, сцвердзіў сацыялістычны рэалізм як асноўны творчы метад савецкай літаратуры.

З'езд аказаў велізарны ўплыў на далейшае развіццё савецкай літаратуры, на яе імклівае зблiжэнне з сацыялістычнай рэчаіснасцю, з жыццём народа.

Як вядома, у дваццатыя гады існавала многа літаратурных арганізацый, аб'яднанняў, груп. Палітыка партыі ў галіне мастацкай літаратуры





Янка Купала і Аляксей Талстой у прэзідыуме Першага Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў.

заключалася ў тым, каб у вольным творчым спаборніцтве (пазбаўляючы ў гэтай справе манаполіі якую-небудзь «нават самую пралетарскую па сваймy ідэйнаму зместу» групу) пісьменнікі кансалідаваліся на глебе служэння справе рэвалюцыі і сацыялізма. У вядомай рэзалюцыі ЦК РКП (б) ад 18 чэрвеня 1925 года «Аб палітыцы партыі ў галіне мастацкай літаратуры» абвяшчаліся самыя цярпімыя, тактоўныя і беражлівыя адносіны да пісьменнікаў розных кірункаў, да іх стыляў, манер, творчых почыркаў з тым, каб забяспечыць усе ўмовы «магчыма больш хуткага іх пераходу на бок камуністычнай ідэалогіі». Нават у адносінах пралетарскіх пісьменнікаў у рэзалюцыі гаварылася, што «гегемоніі пралетарскіх пісьменнікаў яшчэ няма, і партыя павінна памагчы гэтым пісьменнікам **зарабіць сабе** гістарычнае права на гэтую гегемонію». Апошняе вельмі характэрна для сутнасці партыйнага кіраўніцтва мастацтвам і літаратурай. Гэта было развіццё ленінскага прынцыпу партыйнасці літаратуры, якое і забяспечыла поспех у развіцці савецкай літаратуры.

Акрылёныя рашэннем ЦК партыі, пісьменнікі-камуністы і беспартыйныя, пралетарскія і спадарожнікі смела вялі барацьбу за аб'яднанне ўсёй рэвалюцыйнай літаратуры, за творчую кансалідацыю сіл. Становячыся «на рэйкі пралетарскай ідэалогіі», яны былі заклапочаны стварэннем паўнацэнных твораў новага мастацтва, якое б разумеў і любіў народ. Народжаная імкненнем рэвалюцыйнага народа бачыць сваё жыццё адлюстраваным у мастацтве, савецкая літаратура к канцу дваццатых гадоў стала прыкметнай з'явай ва ўсім свеце. На рахунку рэвалюцыйнага мастацтва ўжо былі «Чапаеў» Д. Фурманава, «Жалезны паток» А. Серафімовіча, «Разгром» А. Фадзеева, «Уладзімір Ільіч Ленін» У. Маякоўскага, «Справа Артамонавых» М. Горкага, і пачаты ім раман «Жыццё Кліма Самгіна», «Блуканне па пакутах» А. Талстога і многа іншых твораў на мовах усіх народаў СССР. Паток мастацкай творчасці нарастаў па меры росту сацыялістычнага будаўніцтва.

Літаратура ішла па гарачых слядах часу, была мастацкім адгалоскам рэвалюцыі на этапе яе шырокага наступу па ўсяму фронту. «Соць» Л. Лянова, «Дзень другі» І. Эрэнбурга, «Лесазавод» А. Караваевай, «Брускі» Ф. Панфёрава, «Над ракой Арэсай» Янкі Купалы, «Дрыгва»

Якуба Коласа — не злічыць аўтараў і іх новых твораў, іх шматлікіх выступленняў! Верш і песня сапраўды станавіліся бомбай і сцягам; з імі будавалі новае, з імі перамагалі старое, якое перашкаджала рэвалюцыйнаму поступу сацыялізма.

Рамкі існаваўшых літаратурных арганізацый (ВоАПП, РАПП, МААП і інш.) сталі вузкія і цесныя, тармазілі мастацкую творчасць. Стваралася небяспека «ператварэння гэтых арганізацый са сродкаў найбольшай мабілізацыі савецкіх пісьменнікаў і мастакоў вакол задач сацыялістычнага будаўніцтва ў сродкі культывавання гуртковай замкнутасці, адрыву ад палітычных задач сучаснасці»,— гаварылася ў гістарычнай пастанове ЦК ВКП (б) ад 23 красавіка 1932 года «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый». Асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў і аналагічныя аб'яднанні былі гэтай пастановай ліквідаваны. Арганізацыйны камітэт Саюза пісьменнікаў узначаліў усю работу па падрыхтоўцы Першага з'езда пісьменнікаў, імкнучыся аб'яднаць усіх пісьменнікаў, якія падтрымлівалі «платформу Савецкай улады і імкнуліся ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве, у адзіны Саюз савецкіх пісьменнікаў з камуністычнай фракцыяй у ім». Пастанова ЦК ВКП(б) была праведзена ў жыццё па ўсіх нацыянальных рэспубліках, краях і абласцях пры вялікай падтрымцы ўсёй творчай інтэлігенцыі. У Беларусі гэтую работу ўзначальвалі пісьменнікі М. Лынькоў, К. Крапіва, К. Чорны, А. Александровіч і іншыя. Можна сказаць, што Першы Усесаюзны з'езд савецкіх пісьменнікаў рыхтавала ўся краіна. Падрыхтоўка да яго вялася доўга, шырока. Давялося пры гэтым пераадолець і нямала цяжкасцей, прайсці пэўны этап барацьбы з няправільнымі палітычнымі тэндэнцыямі асобных груп творчай інтэлігенцыі. Работа ўвянчалася поспехам. На з'ездзе была прадэманстравана, як сказаў М. Горкі, перамога бальшавікоў у літаратуры, у творчасці.

З таго часу прайшло трыццаць гадоў. Ды якіх гадоў! Па насычанасці гістарычнымі падзеямі яны роўныя іншаму стагоддзю! Гэта і небывалыя будоўлі першых пяцігодак, і рэвалюцыйны пераварот у сельскай гаспадарцы, і тытанічная схватка з фашызмам, і радасная перамога над ім, перамога сацыялізма ў радзе краін, і нашы неймаверныя па маштабу пасляваенныя мірныя работы: расшчэплены атам і легендарны палёт у неба савецкіх людзей, узброеных перадавой навукай і тэхнікай! І за ўсім гэтым стаіць чалавек, наш савецкі чалавек! Свядомы будаўнік камунізма, ён ужо не той, якім быў трыццаць гадоў таму назад: па-іншаму жыве, інакш мысліць і адчувае, шырэе, паглыбляецца, умацоўваецца яго сувязь са светам, з чалавецтвам. Гэта — новы чалавек сацыялістычнага грамадства, маральны кодэкс якога прыцягвае да сябе ўвагу ўсяго лепшага, што ёсць на зямлі. За трыццаць гадоў вырасла цудоўнае пакаленне людзей, самаадданых будаўнікоў камунізма. Трыццаць гадоў — гэта ўжо гісторыя. А ў гісторыі многа знамянальных вех. Ад кожнай з іх можна аглядаць яе шлях, яе этапы.

Вечна жывым, хвалюючым летапісам гэтай гісторыі з'яўляецца савецкая мастацкая літаратура. Яна, па трапнаму выразу Якуба Коласа, разам з народам будавала, арала і ваявала. І той, хто хоча адчуць «кіпучую бучу» тых гадоў, павінен перш за ўсё акунуцца ў свет ідэй, вобразаў, пачуццяў — цудоўны, як само жыццё, свет нашай літаратуры.

Першы Усесаюзны з'езд пісьменнікаў — знамянальная веха ў гісторыі савецкай літаратуры. Ён падвёў вынікі заваёвам Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў галіне літаратуры за 17 гадоў Савецкай улады, паказаў, як разбуджаная рэвалюцыяй актыўнасць народа праявілася ў літаратурнай творчасці, як раскрыліся і выявіліся скрытыя ў масе народаў СССР здольнасці і таленты. Рэвалюцыя прынесла абнаўленне мастацтва свету. Гэтая думка падкрэслівалася і ў дакладах, і ў выступленнях на з'ездзе пісьменнікаў. Ідэі сацыяльнага прагрэсу, ідэі новага мастацтва, сапраўды народнага, можа ажыццявіць толькі народная рэвалюцыя.

З'езд прадэманстраваў ідэйнае адзінства і многанацыянальнасць, як наватарскую якасць савецкай літаратуры — самай перадавой, рэвалюцыйнай літаратуры свету. Партыйнасць і высокаідэйнасць літаратуры не супярэчаць яге «разнамоўнасці». Пісьменнікі розных нацыянальнасцей паказалі на з'ездзе, што высокая ідэйнасць савецкай літаратуры — гэта тая спажыўная вільгаць, без якой няма росту мастацтва, яна падобна на вільгаць глебы, без якой не расце ні бавоўна Узбекістана, ні рыс Таджыкістана, ні лён Беларусі, ні пшаніца Украіны, ні раскошныя сады Расіі. Адзіная і разнастайная — вось дыялектыка савецкай літаратуры, раскрытая на з'ездзе.

Першы Усесаюзны з'езд пісьменнікаў аказаў вялікі ўплыў на далейшы лёс савецкай літаратуры, вызначыў, калі можна так сказаць, той азімут, па якому яна працягвае свой шлях служэння народу па сённяшні дзень.

Пасляз'ездаўскія гады былі азнаменаваны вялікімі літаратурнымі здзяйсненнямі. Літаратура напоўнілася пафасам сацыялістычнага будаўніцтва, пафасам працы і пераўтварэння. У тэорыі быў дадзены бой вульгарнаму сацыялагізму, пераадолена нацыянальная абмежаванасць і элементы нацыяналізму ў некаторых братніх літаратурах, падняты праблемы ўзаемасувязей літаратур, пакладзены плённы пачатак міжнацыянальнаму супрацоўніцтву (дэкады нацыянальных літаратур у Маскве, у рэспубліках, выязныя творчыя брыгады, пленумы праўлення Саюза пісьменнікаў у нацыянальных рэспубліках і г. д.). Павысілася цікавасць да тэорыі марксісцка-ленінскай эстэтыкі, да праблем сацыялістычнага рэалізму.

Глыбока ў жыццё народа праніклі лепшыя творы савецкай літаратуры гэтых гадоў: «Паднятая цаліна» і «Ціхі Дон» М. Шолахава, «Як гартавалася сталь» М. Астроўскага, «Педагагічная паэма» А. Макаранкі, «Пётр Першы» А. Талстога, «Людзі з захалусця» А. Малышкіна, «Цімур і яго каманда» А. Гайдара, песні М. Ісакоўскага і В. Лебедзева-Кумача, вершы і паэмы А. Твардоўскага, дзіцячыя вершы К. Чукоўскага і С. Маршака, п'есы М. Пагодзіна, А. Афінагенава, А. Карнейчука, У. Вішнеўскага. Паэзія П. Тычыны, Янкі Купалы, А. Лахуці, Г. Табідзе, С. Вургуна, Джамбула Джабаева і Сулеймана Стальскага — лепшых прадстаўнікоў нацыянальных савецкіх літаратур — стала такім жа фактам усесаюзнай літаратуры, як і сваёй нацыянальнай.

Зусім відавочна негрунтоўнасць буржуазных зарубежных «спецыялістаў» па савецкай літаратуры тыпу Струве і Слоніма характарызаваць трыццатыя гады як гады ўпадку і дэградацыі савецкай літаратуры ў сувязі з культам асобы.

Прызнаючы адмоўнае ўздзеянне культу асобы на літаратурны працэс, на творчасць раду пісьменнікаў, трэба ўсё ж рашуча адвергнуць гэтую «канцэпцыю» зарубежных крытыкаў. Савецкая літаратура развівалася і ўдасканальвалася ідэйна і мастацкі пад дабратворным уплывам поспехаў сацыялістычнага будаўніцтва, яе рух здзяйсняўся па ўзыходзячай лініі.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР у студзені 1939 года за выдатныя поспехі і дасягненні ў развіцці савецкай мастацкай літаратуры 172 пісьменнікі былі ўзнагароджаны ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга і Знакам Пашаны. Сярод узнагароджаных былі пісьменнікі з нацыянальных рэспублік — Янка Купала і Якуб Колас, А. Карняйчук, Ш. Дадзіяні, Дэмірчан і іншыя.

Другі Усесаюзны з'езд пісьменнікаў, які сабраўся ў 1954 годзе — праз дваццаць гадоў пасля Першага, адзначыў росквіт многанацыянальнай савецкай літаратуры на этапах вайны і пасляваеннага будаўніцтва. У прывітанні ЦК КПСС з'езду гаварылася: «Бурны эканамічны, палітычны і культурны ўздым савецкіх рэспублік прывёў да росквіту літаратур народаў СССР. Развіццё і ўзаемнае ўзбагачэнне нацыянальных літаратур адбываецца ў цеснай садружнасці ўсіх братніх рэспублік. У Савецкім Саюзе створана многанацыянальная мастацкая літаратура вялікага гістарычнага значэння, якая ўвасабляе перадавыя ідэі нашага часу».

За гады паміж першым і другім з'ездамі пісьменнікаў у склад савецкай літаратуры ўліліся і былі прадстаўлены на Другім з'ездзе пісьменнікі народаў Латвіі, Літвы, Эстоніі, Малдавіі, Букавіны, Закарпацкай Украіны, заходніх абласцей Украіны і Беларусі. Пашырыліся межы многанацыянальнай савецкай літаратуры, якая вырасла колькасна.

На другі з'езд было выбрана 738 дэлегатаў ад 3 695 пісьменнікаў Савецкага Саюза, а напярэдадні трэцяга з'езда, у 1959 годзе, пісьменніцкая арганізацыя налічвала 4 801 чалавек! І ў гэтым ліку — каля двухсот пісьменнікаў Беларусі.

Ледзь не за паўвека савецкай улады ўзнікла многамільённая аўдыторыя чытачоў, агульная для ўсіх пісьменнікаў народаў СССР. Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў эстэтыцы сацыялістычнай літаратуры непарыўна звязаны між сабою. Велізарнай эстэтычнай сілай валодае сучасная наша літаратура. У новай Праграме КПСС, прынятай XXII з'ездам, літаратура разглядаецца як магутны сродак фарміравання чалавека камуністычнай будучыні. Сустрэчы кіраўнікоў партыі і ўрада з дзеячамі літаратуры і мастацтва, Ленінскія прэміі за лепшыя творы — усё гэта садзейнічае развіццю літаратуры, магутнаму прытоку ў яе новых маладых сіл. З кожным днём мацнее сувязь літаратуры з жыццём народа, а ў гэтай сувязі — сіла савецкай літаратуры.

Насустрач свайму чацвёртаму з'езду савецкая літаратура ідзе многатысячным атрадам ідэйна ўзброеных байцоў за справу камунізма. Адзіная многанацыянальная, самая передавая рэвалюцыйная літаратура свету, якой яе назваў трыццаць гадоў назад Першы Усесаюзны з'езд пісьменнікаў, сягоння ператварылася ў магутную сілу, якая стварае «духоўны базіс» камунізма.

**Дзмітры ПАЛІТЫКА.**

## У дружбе з прыродай

Чатыры гады таму назад выпускнік графічнага аддзялення Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Генадзь Лойка паказаў экзаменацыйнай камісіі серыю каляровых літаграфій на тэмы з калгаснага жыцця.

У работах маладога мастака адчувалася паэтычнае ўспрыняцце роднай прыроды. Паэтычнасць была ва ўсім: у цёплым подыху раллі, над якой кружаць шпакі («Зябліва»); у густой, хвалістай, як мора, збажыне («Збожжа паспела»); у сакавітай зеляніне лугу, на якім пасвіцца статак («Першы выган»). Усё, што моцна вабіла Генадзя ў дзяцінстве, што сфарміравалася ў свядомасці мастака ў гады вучобы, адлюстраваў ён на графічных лістах, прысвечаных будням калгаснай вёскі.

Закончана вучоба. Па якім жа шляху пайсці далей? Як знайсці сваё месца ў выяўленчым мастацтве?

Тое, што часам бывае пакутлівым і цяжкім для многіх, для маладога мастака вырашылася само сабою. Ён стаў анімалістам. Свет жывёл, цудоўных і гарманічных стварэнняў прыроды — зрабіўся светам мастака.

Доўга і дапытліва назірае Генадзь Лойка за жывёламі ў Гродзенскім заапарку, робіць сотні накідаў, эцюдаў, спрабуе стварыць кампазіцыі.

Праходзіць два гады напружанай працы, і вось — першыя творы маладога мастака з'яўляюцца на рэспубліканскіх мастацкіх выстаўках. Многія з іх глядзяцца як станковыя. Яны добра скампанаваны, прыемныя па колеру. Вельмі дакладна перададзены характэрныя рысы той ці іншай жывёлы: рысі — мяккія і каварныя; буйвалы — санлівыя, цяжкія; антылопы — лёгкія і грацыёзныя, нібы гатовы кожную секунду рынуцца ў бег; ганарыстыя і зоркія страусы Эму. Застаецца ў памяці цяжкі позірк ільва ў клетцы, высакародны воблік аленяў, што горда нясуць свае прыгожыя рогі.

Было б няправільна сцвярджаць, што творы Генадзя Лойкі проста ілюстрацыі. Тут няма той скрупулёзнасці, якая заўсёды бывае на малюнках жывёл у навуковых працах і падручніках. Мастака ў першую чаргу цікавіць абагулена-пластычная прыгажосць, эмацыянальны стан жывёлы.

Пры ўсіх бясспрэчных удачах, гэта пакуль што першыя крокі маладога анімаліста. Перад маладым мастаком — доўгі, захапляючы шлях пошукаў і ўдасканалення.

**Георгі БАРЫШАЎ.**





# НАПЕРАГОНКІ З СОНЦАМ

**Рэпартаж**

Два брыгадзіры — пажылы Канстанцін Іванавіч Хацкевіч і малады, з чубам, Алік Селівец — абышлі новы будынак школы, прыкідваючы, адкуль пачаць «наступленне». На будаўнічай пляцоўцы звычайны шум працоўнага дня. Трудзяга-экскаватар завіхаўся ў глыбокім катлаване. Адзін за адным, ледзь паспяваючы, пад'язджалі самазвалы. Недалёка, зашыўшыся па самыя грудзі ў зямлю, сунуў перад сабой цэлую гару зямлі бульдозер. Па будучых тратуарах прагульваліся каткі. Стук малаткоў, вішчанне піл, дабрадушнае бурчанне матораў, сполахі электразваркі, адрывістыя галасы і смех — усё злівалася ў сімфонію працы.

— Зноў сантэхнікі падводзяць, — хмурыцца Алік. — Вось пафарбуем дом, усё свежае, а яны і пачнуць абстукваць батарэі ды «размалёўваць» сцены. І зноў, маляры, бярыцеся за работу!..

— Не выходзіць у нас, Алік, па раскладу, — адказаў Канстанцін Іванавіч. — Жыццё. Мы вось чакаем таго дня, калі будаўнікі нам ключы ў рукі аддадуць. Тады нам раскоша, толькі паспявай за намі, сонейка, прымай нашу малярскую справу!..

Брыгадзіры ўзялі кірунак да будана-дашчаніка, што ўжо каторы год вандруе з імі. Тут дзяўчаты і хлопцы гаманлівай талакой разбіралі свае малярскія прылады і адзін за адным знікалі ў пад'ездзе.

І вось ужо заходзяць у дом. Шэрыя сцены, па іх змяяцца ружова-чорныя рагі. Узмахне маляр пэндзлем, заззяюць сцены, напоўняцца святлом. Адразу ўсё стане іпакшым, узрадуе сэрца.

Спрытна працуюць шырокімі шпатэлямі Васіль Буланаў і Гена Лісоўскі. Глядзіш на іх збоку — залюбуешся. Лёгкасць, суладнасць у руках, нейкі проста музычны рытм. А следам за імі, згладжваючы шурпіны і няроўнасці, танюсенькім слоем кладуць шпаклёўку Васіль і Ганна. У гэтай справе яны, бадай, нікому не ўступяць. Некалі першым быў Толік Яско. Цяпер ён нясе службу на Чорным моры. Сыдзе марак на сушу, можа і прыйдзецца тады хлопцам пацясніцца.

— Эх, пагодка! — жмурыцца ад сонца Васіль Ракаў, — самае што карціну пісаць!..

— Ты, Вася, глядзі на сонца ды спрытней колер кладзі.

Гэта гавораць дзяўчаты. Яны вядуць «падрэзку» кромак, вуглоў

Хутка сюды прыйдуць дзеці. Школа ім спадабаецца.





Ф. Бараноўскі. Кранаўшчыца. Салігорск.



Г. Лойка. Ветраны дзень (акварэль).

А. Волкаў. Бахчысарай. «Масток».





**Брыгадзіру маляроў Канстанціну Іванавічу Хацкевічу заўсёды хапае работы.**

і там, дзе з валікам не падлезці, фарбуюць сталярку.

Самая маладая Валя Абражкова — дзяўчына з гарэзлівымі вачыма — увішніца. Пафарбуе радыятары, і ніводнай кроплі на падлозе. Валя — віртуоз. Не ўсім удаецца такая ювелірная дакладнасць лініі, як Валі.

**І ў час адпачынку Мікалай Аўласёнак і Васіль Буланаў заняты размовай аб тым, як лепей зрабіць колер.**



За дзяўчатамі з валікамі на доўгіх кіях ідуць сам брыгадзір і здаравяк у армейскай гімнасцёрцы — Мікалай Аўласёнак. Узмах, і валік у махнатай кажурыне коціцца, бяжыць па сцяне, цягне за сабой колер. Узмах, і на сцяне палоска неба. След к следу — і пакой як бы раздаецца, напаўняецца святлом і ўрачыстасцю. Мікалай Аўласёнак адчувае радасны прыліў энергіі. Яму хочацца разгарнуцца, даць поўную нагрузку мускулам.

— Не развучыўся, танкіст? — усміхаецца Канстанцін Іванавіч.

— Сёе-тое прыгадваем...

— Цяпер у нас, Коля, пэндзаль дажывае свой век. Колер валікам кладзем. І хутчэй, і спарней. А самае важнае — выгляд. Ён спыніўся, пазіраючы на блакітную прастору пакоя: — Адна тарцоўка чаго вартая!

— І лягчэй намнога, — дадаў Мікалай.

— Гэта чэхі прыдумалі. Іх валік абыдзе ўвесь свет. — Канстанцін Іванавіч стаў побач з Мікалаем, прыставіў валік да сцяны. — Заўваж, валік патрабуе харошай падрыхтоўкі. Сцяна павінна быць як матавае шкло. Працуем нашай арцеллю, як і раней, дружна...

І Канстанцін Іванавіч расказаў, як маляры працавалі, калі Мікалай быў на вайсковай службе. Пройдзены цэлыя кварталы, заводскія цэхі, бальніцы, лабараторыі, інстытуты. Ранняй вясною на плошчы Якуба Коласа аздаблялі апартаменты філармоніі. Пабывалі і ў горадзе беларускіх шахцёраў. А цяпер на чарзе — школа. І трэба спяшацца. Верасень не за гарамі.

... На лесвіцы пачуліся крокі: беглі дзяўчаты.

— Канстанцін Іванавіч, на трэцім гатова.

— Якія фарбы пакладзем на другім? — спытала Аня Макавіцкая.

— Вунь охру прывезлі!.. — пажартаваў хтосьці.

— Хай вязуць назад. Псаваць сцены не будзем, — пачуліся галасы.

— Нічога, дзяўчаткі, — супакоіў іх брыгадзір. — Знойдзем патрэбную фарбу.



**З густам фарбуюць кватэры Ніна Шубянок, Ліда Панкавец, Валя Абражкова, Ала Варывончык.**

Дзяўчаты пайшлі, а брыгадзір яшчэ доўга стаяў каля акна. Прыгадалася, як ён пачынаў сваё брыгадзірства. Трынаццаць чалавек. Стаяць купкай, глядзяць на брыгадзіра трынаццаць пар вачэй. І ва ўсіх адно: «А што новы брыгадзір сказаць мае? Якія парадкі павядзе?»

Хлопцы добрыя, а працаваць яшчэ не ўмелі. І жыць таксама. Усе вучыліся, у Віцебску школу маляроў скончылі, а навошта маляру шпатэль — не ведалі. Сам брыгадзір станавіўся поплеч, кожнаму паказваў прыёмы шпаклёўкі сцен, падпраўляў, вучыў. І патрабаваў.

Паступова ў брыгадзе наладжвалася дысцыпліна, перамаглі новыя ўзаемаадносіны паміж людзьмі. Той месяц быў сур'ёзным экзаменам і для новага брыгадзіра, і для ўсёй брыгады. Там, на рагу вуліц Кузьмы Чорнага і Талбухіна, нарадзілася новая брыгада маляроў камуніста Канстанціна Хацкевіча. З таго часу прайшло ўжо больш пяці гадоў. Іх першы дом тады камісія прыняла з добрай ацэнкай. Хлопцы зарабілі па сто пяцьдзесят рублёў. Упершыню яны трымалі такія грошы. Ды хіба справа ў грашах? Першы раз у жыцці яны адчулі, якая вялікая сіла — калектыў. Хоць кожны з іх яшчэ не мог з поўным правам назваць сябе спецыялістам, але ўсе разам, ды з такім брыгадзірам, як Канстанцін Іванавіч, яны — вялікая сіла.

Бягуць дні. Школа, дзе працуюць хлопцы і дзяўчаты з брыгады Канстанціна Хацкевіча, прыгажэе на вачах. У празрыстых шыбах акон — сонца. Яно апяразвае будынак трыма залатымі паясамі. Гэта заслуга маладых мастакоў, што бетон і камень заззяў казачным бляскам.

У школу, дзе сёння завіхаюцца маляры, заўтра прыйдуць дзеці. А маляры пойдуць далей, у новыя будынкі, у новыя кварталы. А за імі спяшаецца сонца.

**Пятро РАЗУМОВІЧ.**

Фота **Генадзя Навумава.**





Рэпартаж аб тым, што мінскай прамысловасцю зроблена ў 1964 годзе, мы пачынаем з беларускага волата — з машыны, якая стала сімвалам магутнасці народа.

У Жодзіна — горадзе-спадарожніку Мінска — знаходзіцца вядомы ўсяму свету Беларускі аўтамабільны завод. З варот яго вось ужо колькі гадоў выходзяць магутныя самазвалы. Грузападымальнасць іх даведзена цяпер да 45 тон! Беларускія аўтамабілі-волаты працуюць на новабудоўлях, на новых рудніках. Яны, нібы паслы савецкага народа, нясуць службу і за рубяжом.



# Зроблена ў 1964

Сярод прадукцыі, якая ледзь паспела набыць правы грамадзянства, але ўжо заваявала папулярнасць, — бытавыя электрахаладзільнікі. Выпуск іх расце вельмі хутка. З уводам у строй усіх цэхаў Мінскі завод электрахаладзільнікаў стане адным з буйнейшых у Еўропе.

Канструктары паклапаціліся аб прыгожай знешнасці апаратаў. Імі вельмі зручна карыстацца. Мінскія халадзільнікі вызначаюцца высокай надзейнасцю.

Атрымаць медаль Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі — вялікі гонар. У ліку работ, адзначаных сярэбраным медалем ВДНГ, фотарэле, якое выпускаецца Мінскім электратэхнічным заводам. Фотарэле — асабліва чулы вартаўнік і дбайны гаспадар вулічнага асвятлення. Яно аўтаматычна ўключае і выключае ліхтары з наступленнем досвітку і змроку. У канструкцыі яго выкарыстаны дасягненні навейшай электратэхнікі.

Навінка радыёпрамысловасці — стэрэафанічная радыёла «Беларусь-62-С-2». Гэта пятнаццацілямпавы супергетарадзінны прыёмнік, забяспечаны ўніверсальным прайгравальнікам. Акустычная сістэма новай радыёлы складаецца з дзесяці гучнагаварыцеляў, мае вельмі дакладную рэгуліроўку і дазваляе дабівацца эфекту аб'ёмнага гучання.

З дапамогай гэтага апарата можна рабіць падарожжа па эфіру ў самых шырокіх межах. Ён прымае перадачы на доўгіх, сярэдніх і ультракароткіх хвалях.

Калі ў вас хто-небудзь запытаецца, што вы ведаеце пра гадзіннікі, якія выпускае вытворчае аб'яднанне «Луч», смела адказвайце:

— Яны самыя, самыя...

Вас папросяць удакладніць:

— А іменна?

Адказвайце:

— Самыя маленькія і самыя тонкія. «Луч-1300» — гадзіннічкі для жанчын, маюць найменшы калібр — усяго 13 міліметраў. Найменшую таўшчыню механізма маюць гадзіннікі для мужчын «Луч-2209» — усяго 2,9 мм.

Не забудзьце таксама паведаміць, што ў гэтым годзе звернута асаблівая ўвага на афармленне корпуса. На Мінскім гадзіннікавым заводзе ўжываецца цяпер алмазны інструмент, які дазваляе дабівацца асаблівай чысціні работы.





Мінскія заводы выпускаюць нямала унікальных станкоў, кожны з якіх можна лічыць гордасцю індустрыі. Аўтаматы, аснашчаныя праграмным кіраваннем, агрэгатныя станкі, буйныя аўтаматычныя лініі... Выкарыстанне гэтых станкоў рэзка ўзнімае прадукцыйнасць працы, павялічвае дакладнасць апрацоўкі дэталей, дазваляе пашырыць вытворчасць без павелічэння заводскіх плошчаў.

На верхнім здымку можна меркаваць аб тым, як выглядае адна з аўтаматычных ліній, выпушчаных МЗАЛам па праекту СКБ-8. Па сутнасці, гэта вялікі ўчастак цэха, на якім ручная праца зведзена да мінімуму. Адзін аператар будзе ўмацоўваць дэталі, якія належыць апрацоўваць і адпраўляць «у дарогу». Яго таварыш на другім канцы лініі будзе прымаць іх. На ўчастку будуць дзяжурыць наладчык, электрык і ўборшчык, які будзе сачыць за чысцінёй.

На ніжнім здымку — адзін са складаных станкоў, якія выпускае завод імя Кірава. На ім дэталі апрацоўваюцца па метаду працягвання. Гэты найбольш прагрэсіўны метад халоднай апрацоўкі металу дазваляе за адзін ход інструмента з высокай дакладнасцю зрабіць тое, што патрабавала б вялікай затраты часу і працы на розных станках, — даўбсці, стругаць, шліфаваць, фрэзераваць, разгортваць, расточваць алмазным інструментам.

Так, пачаўшы рэпартаж з машыны-волата, мы заканчваем яго станком-асілкам.

А. ДЗІТЛАЎ.





# РЫТМ НАФТАБУДА

Усю ноч па дахах і вокнах дамоў глуха барабаніў дождж. Раскаты грому нібы дапаўнялі гэты аднастайны канцэрт. А раніца выдалася светлая, ласкава свяціла сонца. З добрым настроем падымаліся мы на борт самалёта «ІЛ-14». І вось, нарэшце, пад намі паплылі зялёныя кварталы горада, тэлевізійная вышка, карпусы заводаў, іх змянілі роўныя квадраты палёў і бясконцыя лясы. Але раптоўна вокны самалёта засланілі густыя воблакі. Пад імі дзесьці знікла зямля, а над імі схавалася сонца. Адчуванне такое, нібы на санях мы імчым па вялізнаму заснежанаму полю. Праз момант па вокнах самалёта пацяклі касыя раўчукі. Полацк таксама сустрэў нас дажджом.

З балкона гасцініцы мы доўга глядзелі на шматпавярховыя дамы аднаўленага горада, на скверы з купчастымі ліпамі і шырокія вуліцы, на шэрую гладзь ракі. Там, дзесьці на яе левым беразе, кіламетраў за пяць ад нас, зарослы мохам, ляжыць самы стары гістарычны помнік — Барысаў камень. У тым жа баку віднеюцца купалы Сафійскага сабора, пабудаванага ў XI стагоддзі. Ад яго да Краснага моста вялізнай падковай выгнуўся вал Івана Грознага. З яго праз гушчар вербаў добра відаць царква Спаса — яшчэ адзін помнік старажытнасці. Яе будаваў палачанін Іаан у XII стагоддзі. Прабачце за такі доўгі экскурс у гісторыю. Справа ў тым, што на берагах Заходняй Дзвіны будаваліся не толькі архітэктурныя помнікі. Тут жылі людзі, якія ўславілі свой стольны горад. Палачане памятаюць свайго земляка Якава Палачаніна, які жыў сем стагоддзяў назад. Гэта ён са сваёй дружынай граміў на неўскім лёдзе рыцараў-крыжаносцаў. Памятаюць палачане і славутага асветніка, вучонага Сімеона Полацкага. У старажытным горадзе над Дзвіной друкаваў свае першыя кнігі і Георгі Скарына. У 1812 годзе стаў на абарону зямлі рускай ад нашэсця французаў палачанін генерал-маёр Якаў Пятровіч Кульнёў. Вучань Суворава разбіў французскія армады пад вёскай Клясціцы. Французаў білі і полацкія партызаны з вёскі Жарцы. Гнаў іх з-пад Клясціц і генерал-лейтэнант Вітгенштэйн.

Запомнілі чужынцы палачан і ў дні Вялікай Айчыннай вайны. На полацкай зямлі іх білі партызаны брыгады Пруднікава і брыгады імя Фрунзе, брыгады Ахоціна і брыгады Марчанкі, брыгады імя Ракасоўскага і брыгады імя У. І. Леніна. Палачане з гонарам расказваюць пра гвардзейцаў шостай арміі, якія гналі фашыстаў з гэтых мясцін, і пра сваю зямлячку Зіну Тусналобаву, пра героязвызваліцеляў, што аддалі сваё жыццё на стромкіх берагах Заходняй Дзвіны, як Кульнёў і тыя, чые імёны золатам гараць на помніку, узведзеным у скверы каля Плошчы міру.

Сёння славу Полацка множаць новыя людзі — нашы сучаснікі. Падняўся з попелу і руін старажытны горад, а побач з ім вырас новы, зусім малады і не менш слаўны. Гэта — Нова-Полацк. Які ён? Якія там людзі, што ўзнялі за кароткі тэрмін волат беларускай хіміі?

...Машына імчыцца па дарозе ўздоўж Заходняй Дзвіны. Месцамі за прыдарожным ельнікам віднеюцца стромкія берагі ракі з невялікімі вёскамі, а далей — суцэльны сіні лес.

Аўтобус, пераваліўшыся праз гарбіну бетоннага моста, пакідае ззаду невялікую вёску Плаксы. І адразу, нібы ў шырокаэкранным кіно, на нас папаўзлі гмахі дамоў новага горада. Спыняемся на ўскраіне лесу. Тут аўтобусная станцыя, запоўненая гаманкімі пасажырамі.







Мы аглядаем наваколле і па новых будынках чытаем узрост маладога горада. На гэтым месцы шэсць гадоў назад камсамольцы паставілі першыя палаткі, а побач пачалі будаваць капітальнае жыллё. Аднапавярховыя, прыземістыя інтэрнаты цяпер выглядаюць, як помнікі «старажытнасці». Побач з імі сярод лесу бялеюць карпусы клінічнага гарадка і прафілакторыя будаўнікоў. Гэтыя будынкі ўзведзены ў «пазнейшыя» часы. Там, дзе цяпер знаходзіцца шматпавярховы дзіцячы сад і школа, калісьці першыя будаўнікі збіралі суніцы і журавіны. Пяціпавярховыя дамы Нова-Полацка — гэта другі этап яго будаўніцтва. За імі ў рыштаваннях узняліся сяміпавярховыя. Горад расце, яго кварталы адзін за другім паўстаюць уздоўж берагу Заходняй Дзвіны. З другога боку да горада падступае непраходны лес. Не парушаючы яго першабытнай прыгажосці, маладыя будаўнікі зрабілі ў ім парк, летні тэатр, спартыўныя пляцоўкі. Моладзь вельмі любіць свой горад, і можа таму яго вуліцы назвалі Маладзёжнай і імем заснавальніка камуністычнага вучэння Карла Маркса. У гэтым горадзе не пераблытаеш назвы магазінаў. Адзін з іх паэтычна назвалі «Спадарожнік», другі — «Ёлачка», трэці — «Камета», чацвёрты «Колас». У прахадной завода народны кніжны магазін з такой жа прывабнай назвай — «Светлячок». Ён працуе на грамадскіх пачатках. Наваполацкі паэт Валянцін Лукша назваў Нафтабуд — касмадромам. Ён здалёк і сапраўды нагадвае касмадром. Закаваныя ў рыштаванні і лесвіцы, нібы ракеты, гатовыя да старту, стаяць тэхналагічныя калоны. Сюды, як на пярэдні край, спяшаюцца аўтамашыны, а на іх мірныя грузы — цэгла, жвір, бетон, сталь. У калонах, што падобны на ракеты, расчапляецца нафта на састаўныя часткі. Нафта, якая прыйшла сюды з далёкай Татарыі па нафтаправодзе «Дружба», каб даць дыханне трактарам і цеплавозам, самалётам і аўтамашынам.

Ля прахадной завода нас сустрэла дзяўчына ў паўвайсковай форме і ў хустачцы.

— Пропуск. Акрамя яго, трэба прайсці таксама і інструктаж па супрацьпажарнай бяспецы.

У гэты час з прахадной, закінуўшы за плячо спяцоўку, выбегла другая дзяўчына — бялявая, з доўгімі косамі. Ледзь не збіўшы нас з ног і паглядзеўшы на нашу разгубленасць, яна спытала:

— Вы да нас на будоўлю ці на завод?

— І да вас і на завод.

— Пайшлі, я вам пакажу завод.

Дзяўчына пабегла наперадзе нас, падвяла да акенца, дзе выпісваюць пропускі, а калі яны былі ў нашых руках, скептычна агледзела наш абутак.

— І ў гэтых чаравіках вы хочаце ісці на будоўлю? — Яна ўсміхнулася. — Пайшлі за мной.

Калі мы разгаварыліся, выявілася, што Тамара Аляксеева — так звалі дзяўчыну — з'яўляецца важаком камсамольцаў будаўнічага ўпраўлення. Яна пабегла ў кантору і неўзабаве вярнулася з дзвюма парамі гумавых ботаў.

— Абувайце гэтыя самаходы і пайшлі. Быў дождж, а ў нас гліна ліпучая,— растлумачыла яна.

Сапраўды, гліна горш за палескія пяскі. Яна амаль на паверхні. Яе выносяць на бетонныя дарогі аўтамашыны, яна прыліпае да гусеніц трактараў і бульдозераў, ліпне да падэшваў. Яе з дарог счышчаюць скрэперы. Але ж у гумавых ботах яна не страшная. Мы ідзём па заводскіх вуліцах, яны дзеляць завод на кварталы. Уздоўж іх эстакады з трубаправодамі, якія то ляжаць на бетонных падстаўках, то знікаюць пад зямлю. Адны з іх ідуць ад зліва-наліўных да электраабяссольваючых установак, другія цягнуцца да атмасферна-вакуумнай трубчаткі. Бялеюць шары электраабяссольваючых і чарнеюць вежы бітумных установак. Бакі, бачкі, вентылі, цыстэрны, нафтасховішчы, і навокал людзі! Яны на эстакадах, на рыштаваннях, у катлаванах і па-





бач з намі. Здаецца, мы трапілі ў людскі вір і ён закружыў нас. Здаецца, мы ўжо не мы, а часцінка *гэтай магутнай плыні* — *маладога*, няўрымслівага і працавітага калектыву. Неўзабаве Тамара прапанавала:

— Хочаце я вас пазнаёмлю з нашымі дзяўчатамі-камсоргамі? Яны ў нас усюды: у трэсце, на ЦЭЦ, у тэхнікуме нафтавікоў і на заводзе.

Па бетоннаму борціку дарогі, насустрач нам ішла маладая дзяўчына.

— Гэта Валя Собаль. Камсорг завода. Пахадзіце з ёй па заводу, а заўтра, калі падсохне, прыходзьце да нас...

Просім Валю паказаць нам цэх перапрацоўкі нафты, пазнаёміць з тымі, хто працуе там. Валя ўсміхаецца.

— Цэх? Вось ён.— Яна паказвае на гушчар трубаправодаў і калон.

— Цэх вялізны, але ж яго агледзець можна. А вось пагутарыць з людзьмі, якія працуюць на нафтаперапрацоўцы, відаць, не давядзецца. Справа ў тым, што людзей там няма. За іх працуюць машыны. Калі раней на нафтаперагонных заводах атмасферна-вакуумную ўстаноўку абслугоўвала сто чалавек, то сёння на ўсім комплексе працуе пяць апаратараў. Яны сочаць за работай *разумных* і *вельмі* складаных прыбораў.

У цэху шмат кантрольна-вымяральных прыбораў. Чалавек, які там працуе, павінен ведаць не толькі фізіку, гідраўліку, пнеўматыку, электрадынаміку, электроніку, але ж і разбірацца ў будове прыбораў, умець кіраваць імі.

Валя Собаль спыняецца каля калоны разгону мазуты. Там, уверсе, на вышыні пятага паверха працуе юнак у сіняй спяцоўцы.

— Вось адзін з нашых кіпаўцаў Алег Праскуракаў. Ён прыйшоў да нас з арміі, закончыў паскораныя курсы, і вось ужо амаль паўтара года ён кіруе аўтаматамі. Бывалі выпадкі, калі нават людзі з вышэйшай адукацыяй не спраўляліся з такой работай. Таму Алега ўсе мы лічым самародкам.

Валя запрашае нас падняцца наверх. Падымаемся па лесвіцах і па розных мосціках. З вышыні завод і будоўля як на далоні. Чакаем, калі хлопец скончыць работу, а ён чамусьці не спяшаецца. Калі Алег паставіў на прыбор пломбачку і даведаўся, чаго мы прыйшлі, запярэчыў, а пасля зірнуў на камсорга з дакорам:

— Валя, ты лепш пазнаём мастакоў з Какуевымі. *Гэта ж сапраўдныя кіпаўцы.*

Усё ж нам удалося замаляваць Алега. Праўда, характар у хлопца такі, што ён мінуты не змог пастаяць на месцы. То крычаў нешта сябрам уніз, то аддаваў загады. Аказваецца, Алег цяпер замяняе майстра. Аловак ледзь паспяваў за яго рукамі.

Пакуль мы малявалі, Валя Собаль расказала нам пра маладую пару — Льва і Таню Какуевых. Пяць гадоў назад яны пазнаёміліся ў Маскоўскім політэхнічным інстытуце. Абое паступалі на факультэт электрафізікі. Потым працавалі на заводзе пад Яраслаўлем. Зараз тут. Льва нельга ўбачыць без Тані, а Таня не ступіць кроку без яго.

Калі мы зайшлі ў апаратарскую першага цэха, Леў нешта рабіў ля аднаго з прыбораў. Іх, гэтых прыбораў, тут шмат. Усе сцены — суцэльная панель. На ёй за шклом у невялічкіх шафачках паўзе міліметроўка, па якой самапісцы выводзяць рознакаляровым чарнілам складаную сетку графікаў. Таня была з другога боку панелі. Леў папрасіў:

— Таня, зацісні левы болт.







Правер кантакт. Так. Усё ў парадку. Пачнем праверку.

Таня выйшла з-за панелі. Паставіла на стол маленькую скрынку, падключыла правадкі да прыбораў, і яны абое пачалі параўноўваць паказанні з табліцай. Прытым, так захапіліся, што і не заўважылі, як мы іх малюем. А калі пачалі разглядаць накіды, Таня далікатна ўзяла Лёву за падбародак і павярнула галаву на профіль.

— Не, Лёва. Кірпацінка ў цябе крыху меншая.

Нам прыйшлося ўдакладніць малюнак.

На двары, амаль ля ўваходу ў апаратарскую, каля адчыненага люка мы ўбачылі чырвоны сцяжок. Падыходзім, заглядваем. Там, унізе, у чорнай глыбіні, *бачна спіна чалавека. Вось* ён разагнуўся, узяўся за скобы, паволі падняўся на паверхню, скінуў супрацьгаз, абцёр рукавом успацелы лоб і, нібы сам сабе, сказаў:

— Гатова.

Міша Юрэшка ладзіў каналізацыю, па якой ідуць прамысловыя адыходы. Пакуль хлопец адпачываў, нам удалося зрабіць некалькі замалёвак. Мы папрасілі яго крыху папазіраваць, але ён замахаў рукамі:

— Ну, што вы... Мы ж далі камсамольскае слова, што да вечара закончым рамонт. Кожная хвіліна на ўліку. А заўтра свята, сорамна будзе людзям у вочы глядзець.

Назаўтра сапраўды было свята. Дзень выдаўся сонечны. У маладзёжным парку на невялікай палянцы чатыры магутныя «мазы» з адкінутымі бартамі ўтваралі сцэну. Не было даклада. Не было мітынгу. Свята пачалося песняй. Яна разносілася з дынамікаў па ўсім лесе. Спявалі муляры і бетоншчыкі, арматуршчыкі і мантажнікі. Нэля Бараноўская і Саша Клячко цудоўна выканалі польку. Да слёз *смяяліся слухачы*, *калі* электрык Раман Галкін чытаў пра Васіля Цёркіна.

На спартыўных пляцоўках спаборнічалі валейбалісты. У другім месцы разыгрывалі латарэю. Весела было да самай ночы. А калі над лесам у светлым летнім небе замільгалі першыя зоркі, на беразе Дзвіны ўспыхнуў велізарны касцёр. Будаўнікі адпачывалі, каб заўтра ў добрым настроі ўзысці на рыштаванні, каб хутчэй закончыць будаўніцтва аднаго з першынцаў беларускай хіміі — Полацкага нафтаперапрацоўчага.

**Ф. БАРАНОЎСКІ,**
**І. КРАЎЧАНКА,**
**мастакі.**



## ГЭТЫХ ДЗЁН НЕ ЗМОЎКНЕ СЛАВА





# 20 ГЕРАІЧНЫХ, МІРНЫХ ГОД

Дваццаць мірных, дваццаць стваральных і плённых год гераічнай працы за тваімі плячыма, Беларусь. У дні, калі вярстаўся гэты нумар нашага часопіса, рэспубліка ў святочным убранні. На вуліцах вёсак, на плошчах малых і вялікіх гарадоў свята. Свята дваццацігоддзя вызвалення ад фашысцкай нечысці. Яно вылілася ва ўсенародны трыумф. На граніцы трох братніх рэспублік, на Кургане дружбы сустрэліся былыя партызаны Беларусі, Расійскай Федэрацыі і Літвы. Іх з кветкамі і песнямі сустрэлі працоўныя навакольных раёнаў. На Капыльшчыне ля абеліска васемнаццаці героям Лаўскага бою сабралася больш дзесяці тысяч працоўных. Іх сустрэлі былыя партызанскія камандзіры генерал Ф. Ф. Капуста і Н. А. Шастапалаў, Т. Е. Яроменка і ўдзельнікі Лаўскага бою Калчэнка, Жыгалковіч, Рагожнікаў.

Свята ўсюды, свята і ў нашай роднай сталіцы, у Мінску.

Яшчэ задоўга да трэцяга ліпеня да помніка Перамогі прыходзілі мінчане, дэлегацыі Валгаграда і Масквы, Ленінграда і героі Брэсцкай крэпасці, Украіны, Літвы, Латвіі і Эстоніі, Чэхаславакіі, Францыі і Варшаўскага ваяводства. Людзі ідуць, каб на хвіліну схіліць галовы ля падножжа помніка тым, хто загінуў за вызваленне краіны, над тымі, хто аддаў сваё жыццё за вызваленне свету ад карычневай чумы. Помнік абрастае кветкамі. Яны ружовым дыванам лажацца на яго граніт. Ложацца маленькім букецікам з рук дзяўчынкі, якая не ведае жахаў вайны. Ложацца вялізнымі вянкамі ад тых, хто прайшоў яе дарогамі.

Ля падножжа помніка, над вечным агнём у ганаровай варце застылі гвардзейцы. Нашчадкі тых, хто падняў сцяг Перамогі.

Да помніка ідуць маршалы-героі І. Х. Баграмян і К. К. Ракасоўскі, С. К. Цімашэнка і С. І. Рудэнка, генерал-палкоўнікі А. С. Бурдэйны і В. А. Пянькоўскі, Марэсьеў і Фёдараў, Валянціна Грызадубава і яе саратніцы Федуценка, Маркава, Мельнікава.

Іх сустракаюць партызанскія героі — камандзіры В. І. Лівенцаў і А. Я. Андрэеў, В. З. Корж і Н. П. Пакроўскі, С. Г. Жунін і другія.

Мінута маўчання. Калона праслаўленых воінаў крочыць на Цэнтральную плошчу. Наперадзе аксаміт вялізнага сцяга. На ім вобраз У. І. Леніна. Як сімвал міру яго нясе першы беларускі шахцёр Герой Сацыялістычнай Працы А. В. Селіванаў. Яго асістэнты такія ж героі мірных дзён. Калона плыве паміж квяцістых берагоў людской плыні. Дарога ўслана кветкамі.







Цэнтральная плошча — як тое блакітнае мора. Яно мерна гойдаецца, радуецца і быццам хвалюецца... Тут моладзь і дзеці, старэнькія бабулі і тыя, хто толькі што прыйшоў ад варштатаў і з рыштаванняў.

Пачынаецца мітынг. Успамінае былыя паходы і вялікую дапамогу войскам ад партызан Беларусі маршал К. К. Ракасоўскі. Выступае Герой Сацыялістычнай Працы бульдазерыст С. М. Місуноў і камсамолка з радыёзавода Бондарава. Гучаць з трыбуны словы першага сакратара Камуністычнай партыі Беларусі К. Т. Мазурава.

«...Ад рук гітлераўскіх катаў у Беларусі загінула 2 мільёны 200 тысяч чалавек, больш 380 тысяч было загнана на катаргу ў Германію. Гарады былі ператвораны ў руіны, спалены вёскі. Трэцяя частка насельніцтва засталася без даху. Фабрыкі і заводы былі зруйнаваны, у сёлах не было ні жывёлы, ні машын...»



Не пазнаць сёння Беларусі! У якім толькі канцы свету не ўбачыш нашага зубра на капоце магутнага самазвала. Дзе толькі не працуе блакітны трактар «Беларусь». З дзевяці гігантаў вялікай хіміі ў краіне на нашай зямлі ўжо ўступілі ў строй пяць. Адноўлены вёскі, прыгажэйшымі сталі гарады. І гэта справа тых, «...хто са зброяй у руках змагаўся на франтах Айчыннай вайны і ў партызанскіх атрадах. Гэта яны, змяніўшы вінтоўку і аўтамат на кірку і сякеру, на штурвал аўтамабіля і трактара...»

Гэта з імі плячом да пляча змагаліся за аднаўленне нарадажэнцы сорак першага і пасляваенных год.

А свята прадаўжаецца. Яно ў скверах і парках, на шырокіх вуліцах, на возеры і стадыёнах.





# З ВІНТОЎКАЙ І АЛОЎКАМ



Наша 8-ая Рагачоўская партызанская брыгада базіравалася ў быхаўскіх, усакінскіх і клічаўскіх лясах. Калі выдавалася вольная часіна, я браўся за аловак. Амаль пасля кожнай баявой аперацыі, у якой мне даводзілася прымаць удзел, я рабіў эскізы, сціплыя замалёўкі.

Увесь мой мастацкі багаж складаўся з кішэннага саморобнага альбомчыка, аскабалка алоўка і кавалачка гумкі. Паперу дастаць было цяжка. Часам разведчыкі даставалі нам паперу, галоўным чынам — шпалеры. А неяк мне падарылі нават альбом для сямейных фатаграфій з прарэзамі на ражках. Гэта была рэч!

Жаданне працаваць было заўсёды, хоць маляваць даводзілася ў розных абставінах. Маляваў, седзячы на кані, калі брыгада рухалася спакойным крокам; маляваў у нарадзе...

Пасля няўдалай спробы з'яднацца з рэгулярнай арміяй пад Быхавам мы пад раніцу фарсіраваным маршам выходзілі з акружэння. На прывале ў лесе я назіраў такую карціну: змучаныя людзі спалі на снезе, прыхіліўшыся адзін да аднаго або да дрэў, тут жа стаялі коні са стомлена апушчанымі галовамі... Кастры амаль патухлі, толькі маленькія струменьчыкі дыму падымаліся ўгару, а сняжынкі, павольна кружачыся, падалі і падалі; людзі і коні віднеліся праз снежную пеляну. Я дастаў свой альбом і пачаў замалёўваць гэты прывал.

На рамяні граната, праз плячо сумка з патронамі і трохлінейка. Так я хадзіў і на баявыя аперацыі. Усе свае малюнкі я насіў у заплечным мяшку ў вокладцы фотаальбома. І нават на вокладцы маляваў. Аднойчы я ледзь не развітаўся з усім сваім скарбам і нават з жыццём.

4 сакавіка 1944 года на досвітку мы прачнуліся ў лясной зямлянцы. Змянілі вартавога і пачалі збірацца на засаду каля шашы. Але вораг, карыстаючыся ранішнім туманам і тым, што ведаў наш пароль, падышоў да зямлянкі і да вартавога...

Немцы разлічвалі ўзяць аднаго-двух разведчыкаў, але напароліся на аддзяленне з ручным кулямётам. Кулямёт нас выручыў. Вартавы Васіль Казлоў быў паранены ў абедзве рукі, кулямётчык Іван Шкораў у ступню. І мне дасталося. Давялося ўцякаць, і я не паспеў нават ухапіць свой заплечны мяшок. Пасля таварышы расказалі, што малюнкі яны сабралі каля зямлянкі. Сёе-тое, праўда, прапала.

Некаторыя з гэтых малюнкаў — «У партызанскай зямлянцы», «На прывале» і «Прывялі языка» — знаходзяцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР. Малюнак «У партызанскай зямлянцы» я рабіў проста з натуры, а для малюнкаў «На прывале» і «Прывялі языка» спачатку накідваў схему задуманай кампазіцыі на маленькім лістку, потым гэтую схему лёганька алоўкам пераносіў на вялікі лісток, выбіраў натуру і тады ўжо маляваў у ліст. Пазіравалі партызаны з вялікім задавальненнем. Усе яны намаляваны з партрэтным падабенствам.

На малюнку «Прывялі языка» я намаляваў і свой аўтапартрэт — у левым кутку, у кепцы з муштуком у роце. Казалі, што я не падобны на сябе. Калі паджыла правая рука, я намаляваў партызанскі шпіталь-зямлянку, сваіх баявых сяброў Шкорава і Казлова (яны





# БОЙ У ЗАБОР'І

Стаяла позняя восень. Нізка плылі воблакі. Імжыла.

Апускалася ноч, цёмная і маўклівая. Лясной сцяжынкай крочылі двое — Міхаіл Дубра і Пятро Лукашонак.

— Вось і рэчка Сінюха,— ціха загаварыў Міхаіл.— Адсюль да Забор'я — рукой падаць. Я пайду ў вёску, а ты застанешся тут, пад гэтай хвояй...

— Зразумела,—шэптам адказаў Пятро, выціраючы змакрэлы ад дажджу твар.

І хлопцы абняліся, па-мужчынску, моцна паціснулі адзін аднаму рукі.

Неўзабаве Пятро пачуў усплёскі вады. Гэта Міхаіл пераплыў Сінюху. Пятро ўявіў сабе ледзяную ваду і міжволі скалануўся.

Панура шумеў стары бор, плёскалася ў берагі недалёкая рака. Раптам — нямецкая гамонка... І хутка дзве постаці паказаліся на ўзбярэжжы Сінюхі, крочылі па сцежцы паўз рэчку.

— У-у, нелюдзі! — вылаяўся Пятро, мацней сціскаючы аўтамат. Імгненна рука намацала спускавы кручок.

Тым часам немцы падышлі да моста. Ім насустрач, нібы з-пад зямлі, выйшаў чалавек. Чыркнула запалка. Відаць, закурылі. Потым дзве постаці аддзяліліся і пасунуліся да вёскі.

«Змена вартавых»,— скеміў Пятро і з палёгкай уздыхнуў. Кінуў позірк у бок хаты, на якую паказваў яму Міхаіл, адыходзячы. У гэты момант ён пачуў, як затрашчала ламачча. Пятро хапіўся за аўтамат.

— Гэта я,— ціха азваўся Міхаіл.— Усё выведаў, як мае быць. Хадзем!

Хлопцы крочылі хутка, нацянькі. Калі на ўсходзе занялася барвовая зара, яны ўжо былі ў Гарадзілавічах. Паснедалі ў дзеда Мацяса і апоўдні вярнуліся ў лагер. У невялікім будане з імі гутарылі камандзір, камісар і начальнік штаба атрада.

— Разведка прайшла ўдала,— дакладваў Міхаіл Дубра.— У заборскім гарнізоне семдзесят пяць немцаў. Яны амаль усе ў будынку былой пагранічнай заставы. Але некаторыя раскватараваны ў хатах латышоў. Ёсць у вёсцы мясцовая ахова — дваццаць пяць паліцаяў. Агнявыя кропкі сканцэнтраваны ў кардоне і на пагорку ў канцы вёскі. Узбраенне — два мінамёты, два станковыя і дзесяць ручных кулямётаў, у салдат аўтаматы і вінтоўкі.

— Звесткі дакладныя? — перапытаў камандзір атрада Уладзімір Сімацкі.

— Можаце не сумнявацца, таварыш камандзір! Міхаіл Гром, бацька разведчыка Сашкі, чалавек надзейны: ён усё добра выведаў і расказаў нам...

— Тады, хлопцы, дзякую. Адпачывайце...— Сімацкі ўстаў з калодкі, на якой сядзеў, прайшоўся па будане. Ён быў стройны, у гімнасцёрцы, падпяразаны шырокім рамянём, на якім вісеў пісталет, а з левага боку планшэтка. З-пад шапкі выбівалася пасма чорных валасоў. Яго прыгожы твар быў задуменны.

Калі камандзіры і палітрукі сабраліся, Сімацкі падрабязна азнаёміў іх з планам аперацыі, даў кожнаму заданне.

У буданчык убег камандзір трэцяга ўзвода Кастусь Мацкевіч і паведаміў, што атрад пастроены. Сімацкі разам з ім накіраваўся да строя. Ён абвёў вачыма партызан. Вось высокі юнак — камсорг атрада Андрэй Наваеўскі. Побач — разведчыкі-камсамольцы Пятро Лукашонак, Васіль Яўсееў, Мікола Дзянісёнак і Сяргей Мацкевіч. Недалёка ад іх — Міхаіл Дубра і Іван Казлоў. Крыху далей стаялі вусатыя дзядзькі: Фадзей Бекіс, Антон Аржанік, Піліп Дзенісёнак, а ў канцы — медыцынская сястра Феня Зашчырынская. Блізкія і родныя сэрцу людзі! Усіх іх з'яднала святая помста лютаму ворагу, які паганіў савецкую зямлю.

— Размова мая будзе кароткая,— сказаў Сімацкі.— Заўтра выступаем у паход. Будзем граміць нямецкі гарнізон у Забор'і. Камандзіры ўзводаў растлумачаць задачу кожнаму. А цяпер вячэрайце, правярайце зброю і адпачывайце. Дарога далёкая — набірайцеся сіл...

Размаўляючы, мы з Сімацкім падышлі да штабнога будана. Было чутна, як



ляжаць на нарах) і медсястру з урачом. Малюнак, мне ўдаўся, але, на жаль, прапаў.

У пачатку лета 1944 года адзначалася двухгоддзе нашай брыгады. К таму часу мая папка папоўнілася, і камісар атрада П. Мальцаў прапанаваў мне наладзіць выстаўку. Але паўстала пытанне: дзе і як? Пра памяшканне не было чаго і думаць, шчыт заказаць не было дзе. Але мы знайшлі выхад. Я нарэзаў лазовых пруткоў, расшчапіў іх, уставіў у расколіну малюнкі і на лыкавых вяровачках развешваў іх па сасонніку.

Відовішча было цікавае. Ад лёгкага ветрыку ўся экспазіцыя калыхалася, і каля лісткоў, прытрымліваючы іх знізу, тоўпіліся ўзброеныя людзі, уважліва ўглядаючыся ў малюнкі. Гэта былі першыя гледачы маёй першай персанальнай выстаўкі.

Многа малюнкаў я падарыў сваім таварышам. Прынясе, бывала, хто-небудзь лісток паперы і папросіць намаляваць на памяць, я і намалюю. Так і паехалі мае малюнкі ў Сярэднюю Азію, на Каўказ і ў іншыя мясціны.

Пазней я раздабыў крыху каляровых алоўкаў і выканаў імі тры эскізы: «Партызаны чытаюць зводку калгаснікам», «Разгром гарнізона Рэкта» і «Абстрэл эшалона». Малюнак партызана Н. Часнаева я зрабіў на шпалерах графічным алоўкам. Малюнкі «Маці партызана», «Разведчыкі», «Чытаюць навагодні загад» і іншыя зроблены па накідах майго кішэннага альбомчыка ўжо ў Мінску.

Запас уражанняў і назіранняў ад усіх гадоў вайны велізарны, хоць не часта даводзіцца звяртацца да яго — клічуць сучасныя сюжэты.

Сяргей **РАМАНАЎ**,
мастак.

---

пляскоча ручай каля лагера. Валя і Віва— дочкі камандзіра — падбеглі да бацькі і наперабой пачалі абдымаць яго. Трохгадовую Віву ён узяў на рукі, прытуліў да грудзей і пяшчотна пацалаваў яе чарнявую галоўку. Чатырохгадовая Валя стаяла побач, трымаючыся за бацькаву планшэтку. Дзяўчынкі спяшаліся расказаць пра свае ўражанні і лясныя навіны.

— Мы ягады знайшлі, дужа смачныя,— лепятала Віва.

— Тата, а ў ручаі вада — светлая! — шчабятала Валя.

Тым часам падышла камандзірава жонка Франя. Цёпла ўсміхаючыся, яна ўзяла дзяўчынак і павяла ў будан.

— Дык да сустрэчы ў Красове,— Сімацкі падаў мне руку.— Бывай!

— Да сустрэчы,— адказаў я і пайшоў папярэдзіць разведчыкаў, каб рыхтаваліся да паходу ў вёску Красова, што ля самага возера Асвея.

Назаўтра пад вечар, калі ўвесь атрад прыйшоў у Красова, мы рушылі ў Прошкі, што за пяць кіламетраў ад гарнізона. Дабраліся туды ноччу. На кароткай нарадзе камандзіраў і палітрукоў узводаў Сімацкі яшчэ раз напомніў задачу.

— Пачатак аперацыі, — дадаў ён, — у сем гадзін. Збор у Красове. Калі ж здарыцца што-небудзь, будзем адыходзіць самастойна. Не трацьце марна патроны, беражыце людзей.

... Ускраек лесу шчыльна падступае да заборскіх гародаў. Тут і сканцэнтраваліся партызаны другога і трэцяга ўзводаў і разведчыкі. Адсюль — рукой падаць да гарнізона, дзе заселі фашысты.

— Сем гадзін,— ціха паведамляе Сімацкі камандзірам узводаў Аляксандру Верашчагіну і Кастусю Мацкевічу.— Галоўнае — падавіць іх мінамёты і станкачы, закідаць гранатамі кардон!..

Першай на нямецкія кулямёты пайшла група камуніста Антона Аржаніка. Неўзабаве пачуліся выбухі гранат — адзін, другі, трэці... Затрашчалі аўтаматы, працаваў партызанскі «максім», раз-пораз білі нашы мінамёты...

Група разведчыкаў пад камандай камсамольца Міхаіла Дубры ўварвалася ў акопчык нямецкіх мінамётчыкаў. У рукапашнай схватцы перабілі фашыстаў і захапілі мінамёт, некалькі аўтаматаў. Антон Аржанік са сваёй групай закідаў гранатамі разлікі варожых станковых кулямётаў.

Бой разгараўся. Дзве групы партызан пад камандаваннем Аляксандра Верашчагіна і Кастуся Мацкевіча штурмавалі кардон. Тут заселі афіцэры і вялі ўраганны аўтаматны агонь. Адважны камсамолец Васіль Яўсееў па-пластунску прабраўся да кардона і даў некалькі залпаў запальваючымі кулямі. Загарэўся дах. Немцы не вытрымалі раптоўнага партызанскага ўдару. У вышыню паляцелі дзве белыя, потым — чырвоная ракеты: фашысты прасілі дапамогі.

У другім канцы кардона немцы заселі ў падвале і праз амбразуры вялі моцны аўтаматны агонь. Каб хутчэй падавіць апошнія агнявыя кропкі праціўніка, Сімацкі загадаў закідаць амбразуры гранатамі, і сам першы кінуў «лімонку». Адзін за адным пачуліся моцныя выбухі. Забушавала полымя, паляцелі ў паветра абломкі.

— Не выпусціць жывым ніводнага фрыца! — прагучаў голас Сімацкага. Ён першы ўзняўся на ўвесь рост, на хаду даў аўтаматную чаргу і бягом кінуўся на фашыстаў. За камандзірам рынуліся ў атаку ўсе.

У тую ж хвіліну з амбразуры шуганула аўтаматная чарга. Рукі Сімацкага прыціснуліся да грудзей, па твары цяклі струменьчыкі крыві. Сабраўшы апошнія сілы, ён кінуў гранату ў той бок, адкуль страчыў аўтамат.

Узрушаныя смерцю сваіх баявых таварышаў, партызаны штурмам узялі кардон. Гітлераўскі гарнізон у Забор'і больш не існаваў.

Ужо зусім сцямнела, калі народныя мсціўцы вярталіся ў лагер.

* * *

Квітнее цяпер Асвейшчына — цудоўны край блакітных азёр і зялёных бароў. Недалёка ад вёскі Забор'е на стыку трох братніх рэспублік — Расійскай Федэрацыі, Беларусі і Латвіі — ля самай рэчкі Сінюхі савецкія людзі насыпалі высокі курган. На ім пасадзілі галінасты дуб. Ад кургана ідуць прысады: у кірунку Расійскай Федэрацыі — клёны, у кірунку Беларусі — белыя бярозкі і Латвіі — ліпы. На ўскрайку лесу, побач з латышскай вёскай Забор'е, стаіць слуп. На ім надпіс: «Тут 17 кастрычніка 1942 года пры разгроме фашысцкага гарнізона смерцю храбрых загінуў У. У. Сімацкі, камандзір партызанскага атрада імя Жданава».

**Сяргей ЖВІРБЛЯ,**
**былы начальнік штаба партызанскага атрада.**

# ЧАТЫРЫ ПЕРАГОНЫ

Ля ўваходу ў бліндаж за сталом сядзеў малады чалавек, чарціў карту. Чарціў і насвістваў вясёлыя трэлі. Яны адгукнуліся побач у арэшніку... Прагучалі зверху, з вершаліны дуба... Потым іх зноў высвістваў малады чалавек.

Тады я зразумеў: ён працаваў, слухаў птушак і пераймаў іх бестурботны спеў.

Мы пазнаёміліся:

— Старшына Стрэпетаў,— назваў ён сябе.

Разгаварыліся. Пра гарматы і генералаў, пра атакі і ваенную тапаграфію.

Я спытаўся:

— А да вайны вы таксама займаліся картамі і чарчэннем?

— Не, я скончыў Акцюбінскі эксплуатацыйны тэхнікум.

— І каго ж вы хацелі эксплуатаваць? — спытаў я, усміхнуўшыся.

Старшына адклаў аловак і глянуў на мяне.

— Я хацеў стаць машыністам, паравозным машыністам...— І, падумаўшы, дадаў: — Памочнікам я наездзіў ужо без ста кіламетраў дваццаць пяць тысяч!

Ён задумаўся, глядзеў некуды ў далячынь. Можа з акцюбінскіх стэпаў данёсся да яго свісток паравоза?

А потым сказаў:

— Ведаеце, калі мы ехалі сюды, я не ўтрымаўся. Падняўся на паравоз... Машыніст кажа: «А ты ездзіў?» Я кажу — ездзіў. «А ну, запампуй інжэктар!» Я зрабіў. А гэта не кожны здолее. Хто не ездзіў — не зробіць. Ну, ён і пусціў мяне да топкі. І я, ведаеце, паліў ч а т ы р ы перагоны!

Старшына шчасліва ўсміхнуўся.

Недзе грымнулі гарматы. Недзе праляцеў самалёт. Шэранькая птушка ў арэшніку зноў засвістала сваю песеньку. Стрэпетаў паўтарыў следам за ёй і зноў заняўся картай...

Мы тады стаялі ў абароне.

Аляксандр **ДЗІТЛАЎ**.

# ЭСТАФЕТА ЗАЛАТЫХ ЗОРАК

Кожны год у Дзень перамогі ў Тэатры Савецкай Арміі ў Маскве можна ўбачыць не зусім звычайны малюнак: людзі горача абдымаюцца, моцна паціскаюць адзін аднаму рукі. Людзі гэтыя амаль аднаго ўзросту, толькі адны — у ваенных кіцелях, другія — у цывільных касцюмах. Усё гэта былыя лётчыкі 5-га штурмавога авіяцыйнага корпуса, якім у часе вайны камандаваў Герой Савецкага Саюза Мікалай Пятровіч Каманін.

Сярод баявых сяброў тут можна сустрэць і гамяльчаніна Рыгора Кірылавіча Дзенісенку — высокага чарнавалосага мужчыну з Залатой Зоркай на грудзях. Падпалкоўнік запасу, кавалер дзевяці баявых ордэнаў, Рыгор Кірылавіч цяпер вучыць лётнаму майстэрству юнакоў і дзяўчат у Гомельскім авіяцыйна-спартыўным клубе.

Адразу пасля вайны, дэмабілізаваўшыся з арміі, Дзенісенка працаваў начальнікам Саратаўскага аэраклуба ДТСААФ. На гэтай пасадзе яму і давялося ўпершыню сустрэцца з будучым касманаўтам Юрыем Гагарыным, тады вучнем Саратаўскага рамеснага вучылішча. Рыгор Кірылавіч прымаў Юрыя ў аэраклуб, а потым праз год выпускаў яго ў першы самастойны палёт...

І вось год назад, у Дзень перамогі, зноў сустрэліся выхаванцы авіяцыйнага корпуса. Хтосьці з ветэранаў падлічыў, што за гады вайны гэта баявое злучэнне дало краіне 48 Герояў Савецкага Саюза! Сам камандзір корпуса Мікалай Пятровіч Каманін, як вядома, за выратаванне чалюскінцаў атрымаў Залатую Зорку нумар два. Яго баявы вучань Рыгор Кірылавіч Дзенісенка ўзнагароджаны Залатой Зоркай № 9045. А вучань Дзенісенкі — першы ў свеце лётчык-касманаўт Юрый Аляксеевіч Гагарын удастоены Залатой Зоркі пад нумарам 11 175.

У кабінеце у генерал-лейтэнанта М. П. Каманіна і сустрэліся героі-лётчыкі трох пакаленняў. Але лепш за ўсё пра гэта раскажа сам Рыгор Кірылавіч:

— Мы доўга гутарылі з Юрыем Аляксеевічам. Не бачыліся цэлых дзесяць год! Успомнілі, вядома, былых курсантаў Саратаўскага аэраклуба. Большасць з іх — ваенныя лётчыкі... Юрый Аляксеевіч многа і цікава расказваў пра свой палёт у космасе.

Я прапанаваў сфатаграфавацца. Гагарын ахвотна згадзіўся. Мікалая Пятровіча ў кабінеце не было, і мы сфатаграфаваліся ўдваіх. У гэты час адчыняюцца дзверы, і заходзіць Герман Сцяпанавіч Цітоў. Юрый Аляксеевіч пазнаёміў нас і прапанаваў зрабіць здымак на памяць утраіх. Калі ж настаў час развітацца, Гагарын пашкадаваў, што няма ў яго пад рукамі сваёй фатаграфіі. Яму хацелася падарыць аўтограф мне. У партфелі ў мяне аказаўся свежы нумар часопіса «Советский Союз». На яго старонках і зрабіў ён памятны надпіс: «Дзенісенку Рыгору Кірылавічу на памяць аб Саратаўскім аэраклубе. З удзячнасцю і павагай Гагарын. 18.05.63».

1934, 1944 і 1964. Розныя гады. Экспедыцыя па выратаванню экіпажа парахода «Чалюскін». Вялікая Айчынная вайна. Эра пакарэння космасу. Як эстафету, нясуць савецкія лётчыкі свае подзвігі і перамогі ад аднаго пакалення да другога.

**Рыгор РАЗІНСКІ.**







*Для фотамататараў № 6, жнівень, 1964.*

# ПАПАЎНЕННЕ

На мінскім аэрадроме ішлі заняткі парашутыстаў. Калі адна група пастроілася, кіраўнік аб'явіў, што зараз паявіцца фотакарэспандэнт рэспубліканскай газеты, і з гэтага выпадку ўсім трэба быць асабліва падцягнутымі, строя не парушаць, пабочных размоў не заводзіць, і наогул пастарацца ва ўсіх адносінах бліснуць перад госцем.

Праз некалькі хвілін да іх падышоў юнак з фотаапаратам, прывітаўся.

— Значыць, я магу працаваць? — звярнуўся ён да кіраўніка заняткаў.

— Калі ласка! Што вам трэба паказаць?.. Нас звычайна здымаюць так: «Курсанты атрымліваюць заданне на прыжкі», або «Укладка парашутаў», або «Сябры віншуюць з удалым прызямленнем!» Гэта вам падыходзіць? — у голасе кіраўніка не было і цяню іроніі. Ён праяўляў шчырую гатоўнасць памагчы такім жа чынам, як гэта ўжо рабілася многа разоў.

— Што вы? — усклікнуў юнак і густая сарамлівая чырвань заліла яго шчокі. — Навошта мне паказваць? Я буду здымаць рэпартаж па ходу

М. Гераймовіч. Размова аб дысцыпліне.





Е. Вольская. Гонар цэха.

Больш дваццаці чалавек, не адрываючыся ад сваіх асноўных заняткаў, атрымалі падрыхтоўку фотажурналіста. Апрача гэтай спецыяльнасці, факультэт падрыхтаваў аператараў аматарскіх кінастудый, мастакоў-афарміцелей, радыёдыктараў... Будучым інжынерам інстытут памог добра падрыхтавацца да грамадскай работы.



С. Шаўчэнка. Тэрміновы выклік.

заняткаў. Гэта вам не перашкодзіць?

Заняткі пайшлі сваім ходам. І юны карэспандэнт спакойна прыступіў да сваёй справы.

Так будучы прыборабудаўнік, студэнт політэхнічнага інстытута Сяргей Шаўчэнка пачаў свой першы вялікі рэпартаж па спецыяльнаму заданню рэдакцыі газеты «Знамя юности».

Шаўчэнка — адзін з тых студэнтаў інстытута, якія на працягу двух гадоў вучыліся адразу на двух факультэтах: машынабудаўнічым і факультэце грамадскіх прафесій.



С. Шаўчэнка. Рэпартаж з лекцыі.



Вопыт першага ў краіне факультэта грамадскіх прафесій заслугоўвае ўвагі. Да падрыхтоўкі студэнтаў дэканат прыцягнуў многія арганізацыі, многіх спецыялістаў.

Фотажурналісты мелі магчымасць практыкавацца ў газетах «Знамя юности» і «Советский инженер». Заняткі па курсу фатаграфіі і журналістыкі вёў вопытны журналіст А. І. Мызнікаў. Яму памаглі супрацоўнікі рэспубліканскіх рэдакцый, карэспандэнты маскоўскіх часопісаў, якія прыязджалі ў Мінск.

Заліковая праверка ведаў прайшла паспяхова.

Вiншуем маладых фотажурналістаў з актыўным уступленнем у жыццё!



А. Мызнікаў. Новыя палімеры.

# СЯМІГОДКА Ў ДЗЕЯННІ

Падведзена рыса яшчэ пад адным этапам у развіцці беларускай фатаграфічнай творчасці. Пяты раз дэвіз «Сямігодка ў дзеянні!» сабраў у адно лепшыя работы і прафесіяналаў і аматараў — усіх, хто займаецца самым масавым, самым аператыўным відам выяўленчага мастацтва.

Галоўная задача выстаўкі — адлюстраваць творчую працу савецкіх людзей, якія самааддана выконваюць планы сямігодкі, будуюць камуністычнае грамадства. Задача гэта зразумета ўдзельнікамі выстаўкі шырока, у адпаведнасці з патрабаваннямі часу. Панарамы будоўляў і лірычныя пейзажы, партрэты і жанравыя сцэнкі — нічога не забыта.

Адкрыццё выстаўкі ў дні святкавання 20-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкай акупацыі надало ёй асаблівае значэнне. Дваццаць гадоў беларускі народ заняты стваральнай працай. Няма такога кутка ў рэспубліцы, дзе б не адбываліся карэнныя змены ва ўмовах жыцця, у свядомасці і характары людзей. За ўсім гэтым пільна сочаць сучасныя летапісцы. Узброеныя фотаапаратамі, яны стараюцца падмеціць галоўныя рысы сучаснасці, адлюстраваць іх у вобразных здымках і потым публічна расказаць пра ўбачанае. Так кожная фотавыстаўка «Сямігодка ў дзеянні» становіцца не толькі сродкам паказу поспехаў фатаграфічнай творчасці, але і вялікай трыбунай для публіцыстаў.

Вельмі радасны факт — прысутнасць на стэндах работ многіх маладых аўтараў. Больш чвэрці аўтараў удзельнічаюць у рэспубліканскім аглядзе ўпершыню.

У наступным выпуску нашага фотаклуба будзе дадзены шырокі агляд усіх раздзелаў выстаўкі, аналіз заўваг наведвальнікаў і рашэнне журы аб узнагародах за лепшыя работы.



Ю. Іваноў. Да сустрэчы.

## ЗАПРАШЭННЕ ПРЫНЯТА

Запрашэнне на паляванне з фотаапаратам, зробленае чытачом нашага часопіса Валянцінам Ждановічам, адразу ж знайшло жывы водгук. У рэдакцыю паступаюць пакеты са здымкамі птушак, звяроў, жывёл, зробленыя ў натуральных умовах. Гэта своеасаблівы фатаграфічны спорт не толькі пашырае нашы ўяўленні аб прыродзе, але і развівае пільнасць фотааматара, яго эстэтычныя запатрабаванні.

Вось некалькі новых работ аматараў фатаграфічнага палявання.

П. Наватараў (Мінск) зрабіў цікавую серыю пра кемлівую курыцу і бесклапотную гаспадыню.

Яго зямляк Я. Гедрановіч заўважыў незвычайную сустрэчу кацяняці з вужамі. Ён назваў свой здымак «Што рабіць?»

Брэсцкі фотааматар М. Сацута паэтычна перадаў вячэрні палёт бусла, які затрымаўся дзесьці на балоце да самага змяркання.

Як бачыце, трафеі фотапаляўнічага могуць быць вельмі разнастайныя.











## *НА ТУРЫСЦКІХ АРБІТАХ*

Праз некалькі тыдняў пасля таго, як стала вядома пра вынаходніцтва фатаграфіі, з Францыі ў Егіпет было адпраўлена некалькі пудоў унікальнага грузу. У старанна запакаваных чамаданах з тоўстай скуры знаходзіўся груваскі і прымітыўны (з нашага пункту гледжання) рыштунак, з дапамогай якога прадпрыймальны мастак Вернэ вырашыў стварыць першую ў гісторыі чалавецтва фатаграфічную выстаўку.

Падарожжа ў краіну пірамід удалося на славу! Калекцыя дагератыпаў, створаная Вернэ, у хуткім часе была паказана ў Парыжы і зрабіла на публіку велізарнае ўражанне.

Прыклад парыжаніна хутка знайшоў водгук у многіх краінах. Фатаграфаванне ў часе падарожжаў стала не проста модным заняткам. Пейзажы, жанравыя сцэны, этнаграфічныя партрэты і многія іншыя віды фатаграфіі адразу ж сталі неабходнасцю, элементам сучаснай культуры, сродкам пазнання свету.

Вельмі многае ў гэтых адносінах зрабілі рускія аматары фатаграфіі, пра работу якіх неаднаразова з вялікай задушэўнасцю пісаў вядомы рускі крытык Стасаў.

Цяпер мала хто ведае, якой складанай справай было фатаграфаванне ў падарожжах 80-х—90-х гадоў, калі ствараліся першыя рускія фотаальбомы, першыя айчынныя фотавыстаўкі. Мастацтвазнаўца С. Марозаў у кнізе «Руская мастацкая фатаграфія» расказвае пра гэта так:

«Партатыўных камер не было. Адпраўляючыся на экскурсію або ў падарожжа, фатограф браў з сабой груваскі апарат, цяжкі трыножнік, чорнае пакрывала. Шкляныя пласцінкі вялікага памеру старанна, асцярожна ўпакоўваліся ў асобную скрынку. Патрэбна была, апрача таго, складная палатка для лабараторных работ. Бралі яшчэ буталь з калодзіем і слоікі з рознымі солямі для надання адчувальнасці пласцінкам. Уся гэтая маёмасць пагружалася ў экіпаж. На месцы здымання фатограф шукаў памяшканне для паходнай лабараторыі або расстаўляў палатку проста ў полі. У цемнаце ён рыхтаваў пласцінку, зараджаў касету і толькі пасля гэтага мог прыступіць да здымання...»

Наш сучаснік, які падарожнічае з партатыўным апаратам на плячы, мае магчымасць, вярнуўшыся дамоў, паказаць сотні, а то і тысячы здымкаў, якія часцей за ўсё робяцца ім «з лёгкасцю незвычайнай». Аднак іменна апошняя акалічнасць часцей за ўсё і псуе справу. Азнаямленне з фатаграфічнымі «трафеямі» нават вопытных турыстаў часта не прыносіць задавальнення, бо цікавыя расказы аб тым, як праходзіла падарожжа, суправаджаюцца паказам такіх выпадковых і ва ўсіх адносінах шэрых фатаграфій, што самім іх аўтарам становіцца няёмка. «Гэта знята проста так...», «гэта не вельмі цікава...», «гэта выпадкова...» — просячы прабачэння, гавораць у такіх выпадках аўтары.

Чаму ж так адбываецца? Адказ можа быць толькі адзін: фатаграфія помсціць тым, хто не хоча вывучаць яе дасканала. Пагардай да фатаграфіі многія безразважна збядняюць сябе! Гутарка ідзе не толькі пра тэхніку здымання, але і пра ўменне хутка разумець абставіны, пра ўменне бачыць.

З увагі на просьбы многіх чытачоў, мы ўводзім у нашым фотаклубе новы раздзел, дзе будуць друкавацца здымкі з падарожжаў — далёкіх і блізкіх. Аўтарскія разважанні і каментарыі да здымкаў памогуць чытачам ацаніць усё цікавае і навучыцца не паўтараць чужыя памылкі. Разам з тым, здымкі з падарожжаў будуць і інфармацыяй аб тым, што адбываецца на турысцкіх арбітах, якія перасякаюць лясы, моры і долы ўсіх кантынентаў.





Начны прыгарадны цягнік бярэ старт. У ім незвычайныя пасажыры—юнакі і дзяўчаты ў турысцкіх касцюмах. Мноства рукзакоў: імі завалены ўсе лаўкі, усе месцы. Прасторна толькі вясёламу расказу, смеху, песні. У адным з вагонаў знайшоўся куточак і нам, групе мінчан, якіх запрасілі ленінградскія сябры наведаць скалы. Цягнік імчыць нас на Карэльскі перашыек. Жаданне паглядзець скалы, пра якія так многа чулі, расце па меры набліжэння да станцыі Кузнечная.

# СКАЛЫ, СКАЛЫ!..





У 6 гадзін раніцы наш «экспрэс» прыбыў на маленькую станцыю—155-ы кіламетр на поўнач ад Ленінграда. Адразу ж групамі ўсе накіраваліся ў дарогу, да скал, да таго месца, якое, нібы магніт, прыцягвае моладзь. Нам трэба было прайсці дваццаць кіламетраў з цяжкімі рукзакамі за плячыма. Шлях не лёгкі, але прыемны. Навокал—абуджаная паўночная прырода. А калі лес, расступіўшыся, адкрыў нам вялікую паляну, мы ўбачылі няспынны паток людзей. Не відаць канца, не відаць і пачатку, як мы ні стараліся дагнаць пярэдніх.

І вось мы стаім ужо на валунах. Унізе — возера, праз строй маладых бярозак відзён супрацьлеглы бераг. Бераг скал! Потым падыходзім бліжэй да берагу і перад намі маляўнічае возера—Ястрабінае. На некалькі кіламетраў уздоўж берагу відны палаткі. Некаторыя з іх проста ў скале. Скалы ўзвышаюцца адна над адной. Тут спаборнічаюць тыя, хто ўмее лазіць па скалах.

Абсталяваўшы палаткі і наспех перакусіўшы, мы ідзём знаёміцца з жыхарамі скал. Іх тут многа. Некалькі тысяч! Кожная група абсталёўвае лагер, які з'яўляецца часцінкай вялікага палатнянага горада ў лесе...

А на наступны дзень:

— Суддзям падрыхтавацца!

— Гатовы!

— На страхоўцы падрыхтавацца!

— Гатовы!

— Удзельніку падрыхтавацца!

— Гатоў!

— Старт.

Традыцыйныя спаборніцтвы аматараў лазання па скалах на першынство спартыўных таварыстваў Ленінграда пачаліся. Сярод удзельнікаў многа гасцей з розных гарадоў краіны. Мы — балельшчыкі. Але і некаторыя з нас не ўтрымліваюцца ад спакусы паспрабаваць свой спрыт па вучэбнаму маршруту. Забраўшыся на дрэвы, мы ўважліва сочым за кожным крокам тых, хто спаборнічае.

Адны спаборнічаюць, другія гатуюць абед, трэція заняты выстаўкай «Сучасны жывапіс», паказам касцюмаў турыста, «праектуюць» помнік турысту, гуляюць у валейбол, футбол. І ўсе дружаць з песняй. У турыстаў свае песні. Кажуць, што кожная група мае нават свой гімн.

Кожны лагер мае свой флаг, свой арыгінальны дэвіз і кліч, з дапамогай якога члены лагера пазнаюць сваіх жыхароў на адлегласці...

Зноў цягнік імчыць нас, але ўжо ў кірунку Ленінграда. Мы з удзячнасцю ўсяму і ўсім пакідаем скалы. І кожны з нас доўга будзе жыць успамінамі пра гэтыя некалькі дзён, будзе памятаць начныя кастры, сяброў...

Барыс ЗУБЕНКА.
Фота аўтара.









Валянцін Скрыпачоў (Віцебск). Крос. Серыя з двух здымкаў: 1. Толькі перамагчы.

# КОНКУРС «МОЙ ТАВАРЫШ»



2. Хто ж першы?



Міхаіл Папоў (Брэст). Цягнік пайшоў на Маскву.



Мікалай Сацута (Брэст). Першы здымак.



Мікалай Ігнатовіч (Брэст). Чэмпіён чэмпіёнаў.

Іван Марцінкевіч. На чарвяка.



# У СВЕЦЕ МАЎКЛІВАСЦІ



1



2

На гэтых дзвюх старонках мы друкуем работы мінчаніна інжынера Аляксандра Бушылы, які свой летні адпачынак прысвячае падводнаму спорту. Пра сваё захапленне ён расказвае:

— Гэта адбываецца вельмі хутка. Надзеўшы маску, ласты, трубку і ненадоўга апусціўшыся ў падводны свет, захапляешся ім назаўсёды. Так было з усімі нашымі аматарамі падводнага спорту. Першыя спаборніцтвы на першынство рэспублікі былі ў нас праведзены ў 1960 годзе на возеры Нарач. З таго часу штогод мы збіраемся там і праводзім, як нам здаецца, лепшыя дні нашага жыцця. Там жа зроблены і здымкі, пра якія коратка я магу расказаць.

3





4

Вось Генадзь Басінкевіч рыхтуецца да падводнага слалама. У руках у яго компас з аквапланам. (Фота 1).

Так выглядае падводны фатограф за работай. (Фота 2).

На трэцім фота студэнтка політэхнічнага інстытута Эда Агароднікава на дыстанцыі падводнага слалама.

Асабліва задавальненне дастаўляе нам падводнае паляванне. (Фота 4).

На групавым здымку — энтузіясты падводнага спорту: (злева направа) інжынер Яўген Цярэшка, урач Леў Іваноў, трактаразаводзец Леў Цюрын. Справа — аўтар гэтай заметкі.

Рэдакцыя з задавальненнем прадоўжыць публікацыю падводных фатаграфій, прысланых чытачамі з азёрных і марскіх глыбінь, са свету маўклівасці.







# ЦІКАВАЕ Ў ЗВЫЧАЙНЫМ

*На занятках фотагуртка часта ўзнікаюць размовы аб тым, што цікавыя здымкі можна зрабіць нібыта толькі ў нейкіх асаблівых умовах. Так гавораць часцей за ўсё тыя, хто не ўмее бачыць цікавае ў звычайным.*

*У спрэчцы з такімі людзьмі адных слоўных абвержанняў, вядома, недастаткова. Для выхавання назіральнасці неабходна як мага часцей паказваць цікавыя фатаграфіі, створаныя на самым звычайным матэрыяле.*

*Вельмі пераканальны прыклад у гэтых адносінах мы знайшлі на старонцы чэхаславацкага часопіса «Свет у вобразах». У своеасаблівым фотарэпартажы расказваецца пра... камінара, які цэлымі днямі бачыць перад сабой толькі коміны, коміны... Але калі яго работа яму не абыякавая, калі ён умее бачыць свет па-свойму, яго ўражанні складваюцца ў паэтычны вобраз. Нават спусціўшыся на зямлю, ён працягвае любавацца комінамі... знаходзячы іх адлюстраванні ў дажджавых лужынах.*

*Фатаграфіі Іржы Чэрвенага суправаджаюцца дасціпным літаратурным эцюдам, у аснове якога ляжаць пражскія назіранні. Вось ён.*

У кожным вялікім горадзе ёсць многа мясцін, дзе звычайнаму смяротнаму няма чаго рабіць, і таму ён можа ўявіць сабе вельмі рамантычныя рэчы: што ў сутарэнні опернага тэатра жыве фантом, а за перагародкай пошты — гномы, што на стрэхах старых камяніц вечарамі сядзяць студэнты з доўгімі люлькамі ў зубах і ўсё пра нешта спрачаюцца, а па балконах і мансардах блукаюць героі вядомых твораў.





Карацей кажучы, апрача празаічнага свету нашых дарог на працу і ў магазін і нашых прагулак па парку, у горадзе ёсць, прынамсі, яшчэ адзін свет — і ён значна цікавейшы, бо невядомы і таямнічы. Кавалачак яго вы можаце ўгледзець, калі ваша акно выходзіць у правільным кірунку — на агароджу, да якой час ад часу прывозяць, ну, дапусцім, бочкі з невядомым вам змесцівам; або на двор, дзе цэлымі месяцамі не бывае ні душы, а потым нехта прынясе, ну, скажам, лесвічку, паставіць яе і зноў — пуста; або на стрэхі, да комінаў, антэн і грамаадводаў, у каралеўства, населенае камінарамі, дахаўшчыкамі, кошкамі і іншымі казачнымі істотамі.

Іменна там, высока над нашым штодзённым светам, як вераб'і ў карнізах, гняздзяцца ў сваіх майстэрнях мастакі. Яны апраўдваюцца, што гэта нібыта з-за святла і іншых такіх празаічных прычын, але я думаю, што ў сапраўднасці іх захапіў той іншы свет, той другі горад у горадзе, тое кацінае, вераб'інае і камінарскае каралеўства, пра якое яны не хочуць гаварыць нам. Што зробіш? Калі хто-небудзь па-сапраўднаму нешта палюбіць, то заўсёды стараецца пакінуць гэта для сябе.

**Ш. С. З.**



# БЕЛАРУСКАЯ ФОТААПАРАТУРА

**Расказвае член рэдакцыйнага савета фотаклуба «Маладосць», начальнік спецыялізаванага канструктарскага бюро па фотаапаратуры Ігар Барысавіч Прыезжаў:**

— Нараджэнне беларускай фотапрамысловасці адносіцца да 1957 года, калі быў выпушчан першы беларускі фотаапарат «Смена-2». Хутка была арганізавана вытворчасць фотаапаратаў «Смена» (1958 г.), «Эстафета» (1959 г.) і фотадальнамера «ДФ» (1959 г.).

З 1960 года ў сістэме Беларускага Саўнаргаса пачынае працаваць спецыяльнае канструктарскае бюро па фотаапаратуры. Ствараецца першая ў краіне універсальная павелічальна-рэпрадукцыйная фотаўстаноўка «Беларусь-СБ-1» (1960 г.), потым фотаапараты «Смена-М» і «Смена-2М» (1961 г.), «Школьнік» (1962 г.), «Весна» (1962 г.), «Весна-2» (1963 г.) і павелічальна-рэпрадукцыйная фотаўстаноўка «Беларусь-2» (1963 г.).

У 1964 годзе з'явяцца першыя беларускія зменныя аб'ектывы «Гелиос-44» і «Индустар-61» і першыя ў краіне фотаапараты «Чайка» і «Эра-кампакта» з фарматам кадра 18×24 мм (кінакадр).

У канструкцыі фотаапарата «Эра-кампакта» прымянена аўтаматычная ўстаноўка экспазіцыі.

Мяркуецца таксама выпусціць мех для макраздымкі да фотаапаратаў тыпу «Зенит».











**«ГЕЛИОС-44»**

Аб'ектыў для фотаапаратаў тыпу «Зенит»
Фокусная адлегласць 5,8 см
Светасіла 1:2
Бугал поля адлюстравання 40°
Рабочая адлегласць аб'ектыва — 45,2 мм
Аб'ектыў мае прыстасаванне для папярэдняй устаноўкі дыяфрагмы (дыяфрагміраванне да ўпору).
Злучэнне з камерай разьбой М 39×1
Даўжыня аб'ектыва з вечкам — 62 мм
Найбольшы дыяметр аправы — 60 мм
Вага — 0,220 кг.

**«ИНДУСТАР-61»**

Аб'ектыў для фотаапаратаў тыпу «ФЭД-2», «ФЭД-3», «Зоркий»
Фокусная адлегласць — 5,2 см
Светасіла — 1:2,8
Вугал поля адлюстравання — 45°
Рабочая адлегласць аб'ектыва — 28,8 мм
У аб'ектыве ўжыта лантанавая оптыка.
Даўжыня аб'ектыва — 52 мм
Найбольшы дыяметр аправы — 55 мм
Вага — 0,125 кг





**«ДФ»**

Прыстаўны дальнамер для бездальнамерных фотаапаратаў
База — 51 мм
Дыяпазон вымярэння адлегласцей ад 1 м да ~
Поле візіра 20° × 12°
Поле дальнамера 7° × 4°30'
Габарыты — 78 × 25 × 30 мм
Вага — 82 г

**ХАРАКТАРЫСТЫКА НАЙБОЛЬШ РАСПАЎСЮДЖАНЫХ ФОТААПАРАТАЎ ВЫТВОРЧАСЦІ БЕЛАРУСКАГА САЎНАРГАСА**

| | «Смена-2» | «Весна-2» |
|---|---|---|
| Фармат кадра | *24 × 36 мм* | *24 × 32 мм* |
| Тып плёнкі | 35-мм кінаплёнка | 35-мм кінаплёнка |
| Марка аб'ектыва | Т-22 М | Т-43 |
| Светасіла | 1 : 4,5 | 1 : 4 |
| Фокусная адлегласць | 40 мм | 40 мм |
| Вуглавое поле зроку | 55° | 52° |
| Наводка | вярчэннем усяго аб'ектыва (мяжа факусіроўкі ад 1,3 м да ∞) | вярчэннем усяго аб'ектыва (мяжа факусіроўкі ад 1,2 м да ∞) |
| Затвор | цэнтральны, за аб'ектывам; сінхракантакт і аўтаспуск | цэнтральны, за аб'ектывам; сінхракантакт |
| Вытрымкі | В, 1/8, 1/15, 1/30, 1/60, 1/125 і *1/250 сек* | В, 1/15, 1/30, 1/60, 1/125 *і 1/250 сек* |
| Відашукальнік | аптычны; павелічэнне 0,42х | без сферычнай оптыкі; павелічэнне 1х |
| Корпус | *пластмасавы; задняя сценка знімаецца* | *металічная з пластмасавымі вечкамі* |
| Габарыты | 120 × 75 × 57 мм | 98 × 72 × 57 мм |
| Вага | *320 г* | *290 г* |
| Касета | стандартная, пластмасавая або металічная | |
| Адлік кадраў | аўтаматычны | |
| Транспарціроўка плёнкі | ажыццяўляецца галоўкай перамоткі | |



## АД РЭДАКЦЫІ

**Напамінаем усім нашым чытачам і карэспандэнтам, што здымкі для часопіса пажадана друкаваць на глянцавай паперы, размерам не звыш 18 × 24 см. У тым выпадку, калі якасць адбітку або яго кадрыроўка не будуць задавальняць рэдакцыю, мы папросім вас на кароткі час прыслаць нам негатыў.**

**Па ўмовах паліграфічнай вытворчасці падрыхтоўка чарговага нумара часопіса заканчваецца за паўтара месяца да выхаду яго ў свет. Гэта трэба ўлічыць пры пасылцы фатаграфій, якія адлюстроўваюць поры году: пейзажы, жанравыя сцэны на адкрытым паветры і г. д.**

**У пісьмах не забывайце ўказваць поўнасцю сваё імя, імя па бацьку, прозвішча і дакладны адрас.**

**Жадаем вам творчых поспехаў!**





# ПАЯДЫНКІ З ЦЕМРАЙ

### У ПОРПЛІШЧЫ

Старэнькі «газік» падскокваў і каціўся па асфальце, час ад часу спыняючыся на прыпынках. Пасажыры размаўлялі пра сёлетнюю капрызлівую вясну, пра космас і падзеі ў Афрыцы, пра цэны і тавары ў глыбоцкіх крамах.

Дзядзька ў чорным пінжаку раптам загаварыў пра баптыстаў:

— Страшэнныя цемрашалы... За веру гатовы бацьку глотку перагрызці і брата жыўцом з'есці. Не любяць іх нашы вяскоўцы...

— Порплішчы,— абвясціў шафёр.

Я развітаўся з суседам, выйшаў з машыны і накіраваўся ў школу. Школа размешчана якраз недалёка ад прыпынку, у цэнтры сяла. Тут жа сельсавет, клуб, крамы, сталовая, пошта...

### УРОК

У школе быў перапынак. Настаўнікі ў такі час, як звычайна, заняты сваім клопатам. Адны правяралі сшыткі, другія — праглядалі свежыя газеты і часопісы, шукалі цікавыя навіны, каб на ўроках падзяліцца імі з вучнямі, трэція падбіралі наглядныя дапаможнікі. Перад самым званком у настаўніцкі пакой увайшоў Каюм Сапежка. Ледзь прыжмураныя блакітныя жывыя вочы і сціснутыя вусны надавалі яго твару суровы выраз.

Пасля знаёмства і кароценькай гутаркі мы пайшлі з Каюмам Міхайлавічам на ўрок у шосты клас. Я сеў за столік, які стаяў каля шафаў з прыборамі ў апошнім радзе, каб схавацца ад цікаўных вучняў і не перашкаджаць ім слухаць урок.

Заняткі праходзілі ў фізкабінеце, заставленым рознымі прыборамі, дыяграмамі, стэндамі. На маім стале ляжала новая, змайстраваная з бляхі мадэль касмічнай ракеты.

Тэма ўрока: «Ціск газаў. Помпы». Каюм Міхайлавіч, як нейкі чараўнік, адразу захапіў вучняў. Нават і я неўзабаве адчуў сябе не госцем, а вучнем. І ўпершыню горача пашкадаваў, што ў мяне не было калісьці такога цудоўнага выкладчыка фізікі.

Нікога Каюм Міхайлавіч не выклікаў да дошкі. Ён па-сяброўску спытаў аб тым, хто чаго не зразумеў, рыхтуючыся да ўрока.

— Назавіце галоўныя ўласцівасці газаў.

Вучні адказалі.

— Дзе на практыцы ўжываецца ціск газаў? У падручніку гэта не сказана, а ведаць трэба.

І клас зноў падняў рукі. Не ўрок, а сапраўдны форум, дзе вучні свабодна абменьваюцца сваімі назіраннямі і ўменнем разбірацца ў з'явах прыроды, жыцця.

Вось адказвае дзяўчынка ў цёмна-блакітнай сукенцы з піянерскім гальштукам:

— Ціск газаў скарыстоўваецца ў камерах веласіпедаў, аўтамабіляў, футбольных мячоў.

Пасля «форуму» Каюм Сапежка ў дзённікі і класны журнал паставіў адзнакі: чацвёркі і пяцёркі тым, хто набраў больш балаў у гэтым своеасаблівым спаборніцтве, і пачаў тлумачыць новую тэму «Святло і цемра», выкрываючы казкі «свяшчэнных пісанняў» аб прыродзе дня і ночы.

### НЕ АБРАЗЫ І МАЛІТВЫ...

Айцец Тарарака лічыць сябе амаль святым. Калісьці ў маладосці ён працаваў касірам, потым загадчыкам бальнічнай гаспадаркі. Але яго заўсёды цягнула туды, дзе можна мець свежую капейку. Так ён стаў царкоўным служкай. Ішоў час. Генадзь Тарарака дабраўся да царкоўных ключоў.

Здарылася гэта *пасля* аднаго малебна.

— Парафіяне! Хто колькі можа, хай паможа,— звярнуўся былы порплішчанскі поп Пазняк да прысутных.— Божы храм разбураецца. Трэба грошы на рамонт.

Сабралі. Пазняк паклаў грошыкі ў сваю кішэнь, адрамантаваў уласны асабняк і падаўся загараць пад чарнаморскія нябёсы.

Яшчэ далей за свайго папярэдніка пайшоў цяперашні бацюшка Генадзь Тарарака.

— Няўжо мы будзем бедаваць без божай студні, рабы божыя?— звярнуўся ён да веруючых.— Збяром грошы на свяшчэнны калодзеж.

І веруючыя сабралі.

На гэтыя сродкі выкапалі студню ля папоўскай хаты, прывялі ў парадак двор, збудавалі новую прыбіральню. З выпадку ўсяго гэтага пасля малебна арганізавалі выпіўку.

Вось для якіх карыслівых мэт айцец Тарарака прымазаўся да алтара.

А як сустрэў бацюхна тых, хто пасля адкрыцця святой студні зайшоў, каб набраць вады? Ён проста загадаў замкнуць калодзеж, бо спалохаўся, каб паломнікі выпадкова не забрудзілі ваду ў студні.

— У мінулым годзе пасля вялікадня, — расказвае ўрач порплішчанскай бальніцы *Мікалай Аляксандравіч Ласянкоў*,— даставілі ў цяжкім стане хворага айца Тарараку і яго жонку, спявачку з царкоўнага хору. Бацюхна хварэў страўнікам, а яго кабета — гастрытам пасля посту. Вядома, урачы іх вылечылі ад хваробы.

— Лячыліся ў нас верхаводы баптысцкай секты з вёскі Дзядкі — прасвітар Гарасім Курэц, яго «брат» Канстанцін і іх «сястра» Надзежда Антрахімовіч, — працягваў размову *Мікалай Ласянкоў*.— Не цудатворныя абразы і малітвы памаглі ім стаць на ногі, а дактары, якіх яны не раз да гэтага абзывалі братамі сатаны.

## ПОШУКІ «ЗАЛАТОГА МЕЧА»

— Цяжка, вельмі цяжка нам давялося рабіць першыя крокі ў атэістычнай прапагандзе,— успамінае Каюм Міхайлавіч Сапежка.— Ксяндзы і свяшчэннікі ўмеюць яшчэ адурманьваць слабых людзей. Пасля вайны настаўнікі нашай школы цвёрда вырашылі ўзяць атэістычнае выхаванне ў свае рукі. У гэтай справе нас падтрымалі камсамольцы і актывісты. Людзі пацягнуліся да ведаў. Часцей пачалі заглядваць у клуб, у кіно, у хату-чытальню. Рады веруючых таялі. Заставаліся толькі самыя ўпартыя фанатыкі.

... Аднойчы ў вёсцы Чачукі набожныя сяляне ў час навальніцы бачылі, як страла маланкі ўвайшла ў зямлю. Пасля дажджу двое з іх, схапіўшы рыдлёўкі, накінуліся на тое месца, дзе ўдарыла маланка, і пачалі капаць грунт, каб адшукаць «свяшчэнны меч» Ільі-прарока. Мужчынам здавалася, што яны вось-вось адкапаюць у зямлі «залаты божы меч», за які можна будзе атрымаць шмат грошай. Але дарэмна яны калупаліся ў зямлі. Сорамна ім было глядзець у вочы аднавяскоўцам. І насмешак не абабрацца.

На другі дзень Каюм Сапежка паехаў у Чачукі, знайшоў тых мужчын, доўга і шчыра з імі гаварыў, а пасля на электрамашыне паказаў сакрэт «вырабу боскіх мечаў» — штучна ўтварыў маланку.

Дзядзькі пачухалі патыліцу, папрасілі настаўніка не пісаць у газету аб тым, як яны капаліся ў полі. А на развітанне далі слова не хадзіць больш у царкву і не верыць у бога.

## НЯДЗЕЛЬНІК

Выдаўся цудоўны дзень. Ля клуба сабраліся сельскія актывісты. Да іх падышлі Каюм Сапежка і старшыня порплішчанскага сельсавета.

— Хто з намі ў Сарокі паедзе? Разбіраем даўно зачыненую там трухлявую царкву на дровы.

Сярод жадаючых быў і трактарыст порплішчанскага саўгаса Павел Курэц. Трагічна склаўся лёс яго сям'і. Паўлавы бацькі былі закаранелымі баптыстамі ў вёсцы Дзядкі. *Яны зацягнулі хлопца ў сваё дзікае кодла. Ні ў клуб, ні ў школу, ні на танцы не пускалі яго, прывучалі толькі да біблії.*

Прасвітары баптыстцкай секты Падрэз і Курэц імкнуліся ўсімі сіламі зрабіць з хлопца прапаведніка. Але ў гэтую справу ўмяшаліся атэісты. Доўга і асцярожна падбіралі яны ключы да Паўлавага сэрца. *То кніжку прынясуць пасля задушэўнай гутаркі, то брашуру ці часопіс. І пачалі ў вясковага юнака праясняцца і вочы і розум.* Неўзабаве Павел Курэц пакінуў лагер фанатыкаў, зразумеў, *што праўду нясуць атэісты, а не святыя ханжы і двурушнікі, якія прапаведуюць адно, а ў жыцці робяць другое. Успомніў ён і пачварныя малюнкі, што бачыў на зборышчах «святых братоў».*

Павел пайшоў вучыцца на курсы механізатараў і стаў працаваць трактарыстам ў родным саўгасе. Неўзабаве яго як перадавога працаўніка і ваяўнічага атэіста прынялі ў шэрагі камуністычнай партыі.

*Колькі насыпалі праклёнаў і пагроз бацькі і сваякі ў адрас «грэшнага» сына-бязбожніка! Яны выракліся яго.*

*А колькі Каюму Сапежку і яго паплечнікам давялося папрацаваць, каб вырваць з цемрашальскага асяроддзя баптыстаў іншых вясковых хлопцаў, такіх як Антон Піўцэвіч.* Ён працуе цяпер механізатарам у меліярацыйнай гаспадарцы на Віцебшчыне. Праз некаторы час закончыць порплішчанскую школу і будзе механізатарам камсамолец Віктар Падрэз, бацькі якога таксама — баптысты.

— Пасля школы паеду з сябрамі Сяргеем Курдзекам і Віктарам Сямёнавым паступаць у Мінскі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі,— расказвае аб сваіх марах Віктар Падрэз. **Такіх, як ён,** у вёсцы Сарокі вельмі многа. Таму і прапанавалі яны зачыніць царкву.

І, нягледзячы на праклёны рэлігійных фанатыкаў, нядзельнік прайшоў цудоўна. Павел Курэц, закасаўшы рукавы, памагаў сябрам Аліноўскаму, Жызнеўскаму і іншым грузіць на машыну трухлявыя бярвэнні разабранай царквы.

## НАСУСТРАЧ НОВЫМ ТРАДЫЦЫЯМ

Цяжка даводзіцца цяпер папу Тарараку: не ўтрымаць малітвамі веруючых — адмаўляюцца яны ад царквы. Не прыручыш іх званамі ды і свечкамі і не завабіш у дні прастольных свят цалаваць аблупленыя шчарбатыя абразы, святыя крыжы. Атэісты, на чале з Каюмам Сапежкам, смела адчыняюць дзверы новым звычаям і савецкім традыцыям. Маладыя адмаўляюцца ісці ў царкву вянчацца, бабулі — лячыцца ў шаптух, царкоўных і баптысцкіх шарлатанаў.

Так, летась шасцідзесяцігадовая баптыстка Надзежда Палікарпаўна Антрахімовіч і сёлета бабуля з вёскі Цяцеравіцы Аляксандра Міхайлаўна Яцкоўская спрабавалі лячыцца ў знахарак «свяцонай вадзіцай», малітвамі і заклінаннямі. Не памагло. Яцкоўскай шарлатаны апалілі скуру. Толькі дактары порплішчанскай бальніцы выратавалі бабуліна жыццё.

Сабраліся ў школе ўдзельнікі клуба атэістаў.

— Правядзем свята зімы замест старой масленіцы,— вырашылі яны.

— Нічога з гэтага не атрымаецца,— звягаў назаўтра цемрашал Ладышэўскі.

Як ні імкнуліся царкоўнікі і іх падпявалы накшталт Ладышэўскага перашкодзіць святу зімы, яно ў Порплішчах удалося на славу. У царкву ніхто не зазірнуў. Вясковая моладзь пайшла за атэістамі. Да позняй ночы каталіся юнакі і дзяўчаты з гары на санках, на тройцы. Разыгрываліся віктарыны, праводзіліся **конкурсы.** Пераможцам уручаліся прызы. Вакол не сціхалі смех, музыка...

А як раней праходзілі рэлігійныя святы? Пачыналіся з малітваў, цалавання абразоў, а заканчваліся п'янкай і панажоўшчынай.

— Калі і далей так моладзь будзе танцаваць пад музыку бязбожніка Сапежкі, мы жабракамі пойдзем па хатах,—скардзіліся Чычуковіч і Галіяш, касір і стараста порплішчанскай царквы.

І гэта сапраўды так. У той дзень, калі Масква віншавала герояў космасу Андрыяна Нікалаева і Паўла Поповіча, поп Тарарака, сабраўшы ў царкве старэнькіх бабуль, загаласіў з амбона.

— Закупіце імшу. Пакладзіце на свяшчэнны алтар грошы. Усемагутны бог засцеражэ вашы пасевы і агароды ад засухі пякучай...

Але жыхары Порплішчаў адмовіліся закупляць імшу. Недалёка той час, калі боскія слугі сапраўды застануцца без капейкі. Гэты дзень прыбліжаюць Каюм Сапежка і яго паплечнікі ў нялёгкай, але пачэснай справе: Ніканор Сясіцкі, Франц Вайцяховіч, Леакадзія Мажорава, Мікалай Ласянкоў, Зінаіда Сабалеўская, Уладзімір Мажораў і іншыя. Шмат яшчэ дзесяцігоддзяў давядзецца ім вытрымаць паядынкаў з царкоўнымі цемрашаламі. Але яны пераможуць.

Калі я збіраўся ехаць дамоў, яны рыхтавалі чарговы атэістычны вечар «Чалавек, бог і космас».

* * *

Над Порплішчамі плыве ціхі летні вечар. Закончыўся працоўны дзень настаўніка Каюма Сапежкі, але дадому ён не спяшаецца: яшчэ раз старанна правярае кінаапарат, перамотвае стужкі навукова-папулярных фільмаў. На агеньчык да Сапежкі ў фізкабінет збіраюцца людзі — цікава паслухаць гутарку, паглядзець новы фільм.

На вуліцы цепліня. Аднекуль з-за вышчарбленых зубцоў лесу пырснулі апошнія вогненныя праменьчыкі сонца і раскалолі на момант цемру, што насоўвалася на вёску. Каюм Сапежка моўчкі прайшоў па зале, спыніўся каля акна, услухаўся ў свае думкі. За акном дзесьці знічка вогненным хвастом апісала траекторыю і пагасла. Праз некалькі хвілін Каюм Міхайлавіч раскажа пра яе прысутным — так патрабуе яго другое прызванне: выяўнічага атэіста.

**Алесь КУЗНЯЦОЎ.**

в. Порплішчы
Глыбоцкага раёна.







Сапраўдная кніга, як тая крыніца, — невычэрпная. Чытаеш, перачытваеш і кожны раз адкрываеш для сябе нешта новае. Такая кніга жыве доўга, яе шануе чытач, яна мае шырокае прызнанне грамадскасці. Кнігі, якія вы бачыце тут на здымку, выйшлі ў 1962 і 1963 гадах. Іх чыталі летась, перачытваюць сёлета. Яны адзначаны Дзяржаўнымі рэспубліканскімі літаратурнымі прэміямі — імя Янкі Купалы (у галіне паэзіі) і імя Якуба Коласа (у галіне прозы).

Гэта: «Працяг размовы» Янкі Брыля, «Трэцяя ракета» Васіля

# ІХ ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ

Быкава, «Чатыры стыхіі» Сяргея Дзяргая і «Смага» Кастуся Кірэенкі. Іх варта прачытаць кожнаму маладому чалавеку, каб адчуць подых часу, наогул, і чым жыве сёння наша літаратура, у прыватнасці. Так. У гэтых чатырох кнігах замалёўкі, нарысы, апавяданні, вершы, аповесці — самыя аператыўныя жанры, да якіх звяртаюцца тыя пісьменнікі, што жывуць сённяшнім днём, яго турботамі. Духоўнае жыццё народа, які будуе камунізм, не стаіць на месцы. Яно ўвесь час у руху да пазнання новага, да адкрыцця нязведанага, да ўдасканалення, да прагрэсу. І іменна гэтую адметную рысу часу маюць заўсёды на ўвазе тыя, хто аддае сваю музу бескарыслівому служэнню народу.




У кнізе Янкі Брыля «Працяг размовы» вельмі выразна адчуваецца імкненне пісьменніка не адлучаць свой лёс ад лёсу народа. І таму так шмат у ёй думак і пачуццяў, якія ўласцівы не аднаму Я. Брылю, а ўсім, хто жыве, а не «існуе» ў наш час, жыве вялікім, сапраўдным жыццём. Пільная ўвага да чалавека, не зважаючы на пасаду, якую ён займае, любоў да працаўніка і нянавісць да абібока, радасць за тое, як чалавек паспяхова перамагае цяжкасці на сваім шляху да мэты, захапленне плёнам яго часам нечалавечых намаганняў, і побач — гнеўнае асуджэнне ўсяго паказнога, фальшывага, абурэнне рознымі прыстасаванцамі і дзялкамі — такі ў агульных рысах абсяг праблем, што закрануты ў гэтай кнізе. «Працяг размовы» — гэта жывое ўвасабленне пісьменніцкага роздуму над тымі праблемамі, якія паставілі перад намі XX і XXII з'езды камуністычнай партыі, калі адносіны да чалавека сталі разглядацца як адно з найпершых і найважнейшых пытанняў дзейнасці савецкай дзяржавы.

У апавяданні «Пад гоман вогнішча» былыя партызаны Андрэй і Арцём успамінаюць сваё нядаўнае жыццё сціпла, без вонкавага захаплення значнасцю зробленага, нібы ўвесь час нячутна паўтараючы: «Што я — адзін такі?» Мы разам з аўтарам слухаем гэта звычнае, простае, а бачым куды большае — гераічнае, трагедыйнае, эпахіяльнае. Аўтар яшчэ раз паказаў сваё ўменне так весці апавяданне, каб не назаляць чытачу прасталінейнасцю, а прымусіць яго задумацца над фактамі, якіх так шмат у брылёвай кнізе і якія адабраны так умела і «высвечаны» так глыбока, што вымагаюць для свайго адлюстравання самых простых і шчырых слоў. І іменна гэтым: «Не трэба толькі шумных слоў, не трэба імі абражаць непаказную, народную сціпласць сапраўдных людзей» кіраваўся пісьменнік, ведучы свой шчыры «Працяг размовы» з чытачом.

У кнізе «Працяг размовы» вельмі выразна відаць імкненне Я. Брыля ўвасобіць самыя адметныя рысы часу ў хвалюючых мастацкіх вобразах, якім жыць вечна. Той жа клопат і ў Васіля Быкава — аўтара аповесці «Трэцяя ракета», вядомай нашаму чытачу па яе першай публікацыі на старонках «Маладосці». У кнігу, адзначаную прэміяй імя Якуба Коласа, уваходзіць і яшчэ адна аповесць пісьменніка «Здрада».

У абодвух гэтых аповесцях мы сустракаем звычайнага чалавека на вайне, сустракаем у звычайных абставінах ратных будняў, але паказанага з пазіцый сённяшняга дня, калі за рамкамі мастацкага адлюстравання не застаецца ўвесь трагізм ваеннага часу. Пісьменнік-франтавік піша пра перажытае, піша з тым эмацыянальным напалам, які здольны ўзрушыць самага «бывалага» чалавека, і ўзрушыць перш за ўсё суровай праўдай вайны, дакладна ўзноўленым вобразам часу.

Марамі пра мірнае жыццё жывуць у «Трэцяй ракеце» пяцёра салдат на чале са старшым сержантам. У кожнага гэтая мара свая, і кожны таму паўстае перад чытачом у сваім непаўторным аблічы. Свая яна і ў санінструктара Люсі, якая «працуе» на вайне нароўні з мужчынамі. Але пісьменнік акцэнтуе ўвагу не на гэтай роўнасці лёсу жанчыны і мужчыны, што ўгатавала ім вайна, а якраз на тым адметным жаноцкім, што прыносіць у акоп так шмат святла і радасці. І як жа ненавідзіць пісьменнік, а разам з ім і мы, Лёшку Задарожнага — вылюдка, які бачыць у Люсі толькі аздобу свайго жыцця.




Унутраны паядынак паміж Лазняком, гатовым дзеля выратавання дзяўчыны на самы гераічны подзвіг, і Задарожным з яго брыдкімі, цынічнымі намерамі пададзены з такой драматычнай напружанасцю, што мы яшчэ раз пераконваемся ў сіле таленту Васіля Быкава, як пісьменніка-аналітыка, тонкага псіхолага. Гэтая рыса мастакоўскай індывідуальнасці выразна адчуваецца і ў аповесці «Здрада». Глыбокая, ваяўнічая праўда пра вайну ў кнізе «Трэцяя ракета» прагучала з новай сілай, і гэта, мусіць, дало падставу аднаму з удзельнікаў чытацкай канферэнцыі ў Ваенна-палітычнай акадэміі імя У. І. Леніна назваць «Трэцюю ракету» — настольнай кнігай кожнага савецкага афіцэра.

Добрае веданне франтавога быту, яснасць ідэйных пазіцый, высокая ўвага да законаў кампазіцыі прынеслі багаты плён не толькі В. Быкаву, але і ўсёй савецкай літаратуры. Яго «Трэцяя ракета» называецца сярод лепшых здабыткаў мінулага творчага года.

Кожны з пісьменнікаў імкнецца зрабіць свой уклад у агульную справу ідэйнага ўзбраення народа, маральнага забеспячэння яго барацьбы за пабудову камунізма. Адзін гэта ўмее зрабіць больш гучна, нават з некаторай прыхільнасцю да «самарэкламы», іншы ж сціпла робіць сваю высакародную справу і не карыстаецца асаблівай увагай крытыкі. Такая доля выпала і Сяргею Дзяргаю — паэту самабытнаму, крыху нават стыхійнаму і па-добраму супярэчліваму. Супярэчлівасць гэтая ў яго смелым абыходжанні з традыцыйнымі сюжэтамі і вобразамі, якія ён умее прымусіць загучаць па-сучаснаму.

Кніга «Чатыры



стыхіі» — узор майстэрства сучаснага скарыстання лепшых здабыткаў народнай паэзіі. Іменна гэтым яна прываблівае перш за ўсё. Ад народнага вобраза ідзе паэт і да тых смелых асацыяцый, што ўласцівы яго філасофскім вершам. І тут выразна відаць дасканалае валоданне паэтам самымі запаветнымі скарбамі беларускай мовы і веданне помнікаў культуры іншых народаў свету. Нават у такой, здавалася б, традыцыйнай ад пачатку да канца паэме, як «На прадвесні», паэт выявіў сваю глыбокую эрудыраванасць і ў пытаннях гісторыі, і ў пытаннях народнай паэтыкі.

У С. Дзяргая не сустрэнеш голых эксперыментаў дзеля арыгінальнасці, яго пошукі прадыктаваны сур'ёзнай мастацкай мэтай, — імкненнем больш пранікнёна і праўдзіва перадаць сучаснае жыццё і складаны духоўны свет сучасніка. У кнізе «Чатыры стыхіі» філасофская лірыка — не філасафічная ўяўнасць, не глыбакадумнае абсмоктванне нязначнай думкі, а — сама жывая філасофія жыцця. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прывесці хоць бы такі прыклад:

Сляза заўсёды горкая,
А пот салоны,
А кроў чырвоная,
І гора — чорнае.
Ёсць, праўда, слёзы шчасця,
І ў гэтых слёзах — слодыч...
Ды хіба гэта слёзы?

. . . . . . . . . . . . .

Яшчэ ёсць пот халодны,
Пот баязліўца...
Але хіба пакрые ён кашулю
Срэбрам солі?
Ёсць кроў блакітная...
Гнілых арыстакратаў...

. . . . . . . . . . . . .

Не, гэта ўсё не тое...

Такі моцны сплаў традыцыйнага вобраза з сучаснай думкай можа зрабіць толькі сапраўдны майстар — адзін з многіх на вялікім шляху народа ад мінулага праз сённяшні дзень у будучыню.

Ёю, светлай камуністычнай будучыняй, жыве лірычны ґерой вершаў Кастуся Кірэенкі «Смага». Усё тое добрае, чым багаты працоўны чалавек, найярчэй раскрываецца ў яго справах. Пра справы нашага сучасніка — стваральніка будучыні і напісаны вершы зборніка «Смага».

Паэт як бы збірае па драбочку думкі, пачуцці, жаданні мільёнаў, каб з іх скласці абагулены вобраз героя нашых дзён, таго, хто на рыштаваннях будоўлі, за станком у цэху, за рулём трактара ў полі ці схіліўся над мікраскопам у лабараторыі. К. Кірэенка піша пра важнае, значнае, што хвалюе не аднаго яго, хвалюе, калі не ўсіх, то, прынамсі, многіх.

У зборніку «Смага» К. Кірэенка выявіў сваю высокую партыйную празорлівасць, як паэт з акрэсленым поглядам не толькі на сённяшнюю, але і нашу заўтрашнюю рэчаіснасць. Імкненне ж паглыбіцца ў чалавечы змест жыцця стала яшчэ мацнейшым, рамантызм паэта набывае тую заземленасць, без якой немагчыма сёння раскрыць усю складанасць і непаўторнасць зместу эпохі.

Прысуджэнне высокіх званняў лаўрэатаў купалаўскіх і коласаўскіх прэмій чатыром актыўным дзеячам беларускай літаратуры супала з гадавінай чэрвеньскага Пленума ЦК КПСС, на якім былі вызначаны задачы пісьменнікаў у барацьбе за нашы ленінскія, камуністычныя ідэалы. Кожны, хто прачытае кнігі, удастоеныя Дзяржаўных рэспубліканскіх узнагарод, яшчэ раз пераканаецца ў тым, што беларускія пісьменнікі знаходзяцца на самым пярэднім краі вялікага змагання за камунізм і што адзіным крытэрыем іх творчасці з'яўляецца «жыццёвая праўда, якой бы суровай яна ні была, выражаная ў мастацкіх вобразах з пазіцый камуністычнага светапогляду». (Л. Ільічоў).

Віншуючы Янку Брыля, Васіля Быкава, Сяргея Дзяргая і Кастуся Кірэенку з высокім званнем лаўрэатаў купалаўскіх і коласаўскіх прэмій, хочацца пажадаць, каб гэты пачэсны спіс папаўняўся штогод аўтарамі новых кніг, вартых нашага часу.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**






# ЧЭРПАЦЬ З ГЛЫБІНЬ

**Раман Тармола. Асколкі і росы. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1964.**

Адной з прыкметных асаблівасцей сённяшняй маладой паэзіі з'яўляецца яе падкрэсленае імкненне да філасофскага асэнсавання жыцця, настойлівая спроба пашырыць выяўленчыя магчымасці мастацкага слова. Гэтымі рысамі адзначаны і творчыя пошукі Рамана Тармолы, які нядаўна выдаў першую кніжку сваіх вершаў «Асколкі і росы». У вершах маладога паэта ярка адбіліся тыя тэндэнцыі, якія назіраюцца ў творчасці і іншых яго літаратурных равеснікаў — паэтычнага папаўнення апошняга прызыву.

У адрозненне ад сваіх папярэднікаў, тых, чыя грамадзянская сталасць загартавана ў гарніле Вялікай Айчыннай вайны, зараз у літаратуру прыходзяць людзі, светапогляд якіх сфармаваўся ўжо ў мірны час. Пара грозных выпрабаванняў, небывалы драматызм падзей Айчыннай вайны настроілі на адпаведны лад і музы, надоўга вызначыўшы пафас нашай паэзіі, пафас сцверджання непахіснай моцы і веліч духу савецкага чалавека. Іншая справа сёння, калі лінія агню праходзіць праз чалавечыя сэрцы, калі за знешне спакойным разгортваннем мірнага будаўніцтва трэба ўмець разгледзець напружанасць барацьбы за будучыню, калі мастаку належыць здабываць свае вобразы з «артэзіянскіх людскіх глыбінь...». Натуральна, што пастаўленая перад паэзіяй самім часам задача мастацкага асэнсавання глыбінных працэсаў, якія адбываюцца ў духоўным жыцці народа, вымагае ад працаўнікоў паэтычнага фронту нястомна абнаўляць свае арсеналы сродкаў выяўленчасці. Справа тут зусім не ў супрацьпастаўленні так званых «традыцыяналістаў» у літаратуры і «наватараў», а ў заканамерным развіцці мастацкага мыслення, якое ў кожную новую эпоху павінна ўзняцца на ступень вышэй. Інакш бы паэзія наогул страціла свой сэнс і мы не мелі б права называць яе «ездой в незнаёмое...» І вельмі добра, што гэта ўсведамляюць тыя, хто толькі пачынае сваю дарогу ў невядомае.

Ёсць гэтае ўсведамленне і ў творчасці Рамана Тармолы. І калі малады паэт усклікае: «Куды, сцяжынка нетаптаная, павернеш? Куды цябе я зараз пракладу?» — мы адчуваем, што гэта не проста рытарычныя пытанні, а роздум аб сваім месцы ў страі, спроба вызначыць кірунак сваіх пошукаў. Пахвальна, што ў маладога паэта такія дзёрзкія парыванні, што ён повен рашучасці ісці «непратаптанай сцяжынкай». Праўда, сцяжынка гэтая, як мы ўбачым, даволі часта будзе збочваць у напрамку, які не дае паэтычнага плёну. Але пра гэта крыху ніжэй. Найбольш цікавыя ў зборніку вершы («Бацькаўшчына», «Балада», «Маміны крокі не забываюцца» і некаторыя іншыя) гавораць аб тым, што ўдача спадарожнічае паэту тады, калі ён звяртаецца да асабіста перажытага, добра прачулага, калі паўнакроўная сама жыццёвая фактура яго твораў. Па-сапраўднаму, па-чалавечы хвалюе верш «Балада». Далёкае водгулле

вайны, якое пададзена ў ім праз прызму дзіцячага ўспрыняцця, зусім натуральна асацыіруецца з чэрвеньскай навальніцай, якая трывожыць бестурботныя сны немаўлят. І калі чытаеш радкі, якія нечакана і так арганічна ўваходзяць у тканіну верша, «Недзе некаму гром збівае труну», міжволі ўздрыгваеш, уражаны страшэннай праўдай, якая адкрыта, смела, асветлена яркім, як блеск маланкі, паэтычным вобразам. Змест і форма ў гэтай мастацкай знаходцы гэтак сплаўлены, што іх не раздзеліш, не раскладзеш «на часткі». Гэта і ёсць адзнака сапраўднай паэзіі. Не ва ўсім бездакорны верш «Балада» (крыху зацягнуты, празмерна рытарычная канцоўка), але рэальнасць жыццёвай асацыяцыі, праўдзівасць дэталей дапамаглі аўтару «абразок» з дзіцячых успамінаўператварыць у карціну з абагуленым гучаннем, прасякнутую сцверджаннем ідэй чалавечнасці і міру.

Улюбёнасцю ў родныя краявіды, святлом юнацкіх летуценняў, высакароднай прагай вялікіх, патрэбных людзям спраў, адчуваннем шырокіх гарызонтаў жыцця напоўнены верш «Бацькаўшчына». Прываблівае гэты верш і тым, што ў ім аўтар імкнецца асэнсаваць гармонію натуральнага характва прыроды і здабыткаў чалавечых рук:

Матораў гул аднойчы на
дасвецці
Уліўся ў песні жней
і салаўя.

Гэты шырокі, аналітычны погляд на свет паэт сцвярджае і наступнымі радкамі:

Не могуць сёння вочы быць
пустымі,
Бо вельмі многа бачаць
нашы вочы.

Чытаеш такія радкі і пранікаешся радаснай упэўненасцю, што лірычны герой, з якім табе выпала спаткацца, чалавек актыўнай, дзейснай натуры, неспакойнай і багатай душы, што сустрэчы з ім будуць цікавымі. Услед за ім хочацца ісці, верачы, што падарожжа гэтае адкрые шмат новага... Але першыя ж вароты гэтага падарожжа насцярожваюць: вельмі ж прыгожа, вельмі разумна любіць выказвацца ваш спадарожнік! Тое, што ў вас абудзіць проста прыемнае пачуццё, напрыклад, птушыная песня, у вашага субяседніка абавязкова выкліча доўгую тыраду красамоўства:

Песню слухаем:
я,
дрэва,
сонца яркае.
Я, — шапку зняўшы з тае
прычыны,
Дрэва, —
крону схіліўшы зялёнай
хмаркай,
Сонца, —
рассунуўшы промнямі
аблачыны.

Ці не занадта напышліва і мудрагеліста? У тым, што наш субяседнік грашыць схільнасцю бліснуць прыгожым слоўцам, памудрагельстваваць з любога выпадку, мы ўсё больш пераконваемся, гартаючы старонкі кніжкі, так сказаць, працягваючы падарожжа з ім... Вам зноў чуюцца варыяцыі знаёмай птушынай мелодыі:

Жаваранак не баіцца за свой
голас,
Жаваранак спявае з промнем
у пары,
Ім падпяваць пачынае
жытнёвы колас.

А далей наш слых кране нечакана рэзкая нота:

Вунь крумкач на яліну ўзлез
І каркае:
ка-р-р-р, ка-р-р-р...

І вось галасы ўжо безымянных крылатых спевакоў:

Птушкі дадому ляцяць.
Селі.
Галінкі нясмела кратаюць,
Слаба прабуюць свае галасы.

Такім чынам, гучыць цэлая харавая капэла, якою старанна дырыжыруе аўтар...

У многіх вершах Р. Тармолы паліць несцерпная гарачыня («Бульбоўнік вяне ў полі — спёка», «Сонечны патоп цягнуўся сорак дзён, сорак начэй», «Гарачыня невыносная...» «І сонца не шкадуе жару...»). Зразумела, што высокая тэмпература не вельмі спрыяе бадзёраму, рабочаму настрою, і таму паэт пачынае, так сказаць, рассыпаць грамы і маланкі, як вестуны навальнічных ліўняў («У чэрвені гром не грымеў, а роў», «Бліскавіца і гром!», «Над светам занесены бліскавіцы, як фінкі», «Збоку чыркнула бліскавіца». «Але тут супакойліва гром зароў...», «Скрыжавалі рапіры ў небе маланкі», «Маланка неба расчарціла на клеткі»).

Мы зусім не хочам сказаць, што ўсе гэтыя выразы няўдалыя. Некаторыя з іх даволі арганічна ўваходзяць у паэтычную тканіну вершаў. І ўсё ж такое вялікае скапленне громаў і маланак выклікае рэальную небяспеку, што чытач, аглушаны і аслеплены імі, страціць усялякую здольнасць успрымаць і тыя творы паэта, якія ўжо не пахнуць навальніцай. У зборніку «Асколкі і росы» шмат вершаў, прысвечаных і іншым з'явам прыроды: першаму снегападу, веснавому крыгалому, дрэвам і кветкам, світанням і змрокам.

Прырода прыцягвае ўвагу паэта галоўным чынам як матэрыял для роздуму над тымі сацыяльнымі пытаннямі, якія яго хвалююць, для паэтычнага сцверджання ідэй чалавечнасці, сяброўства, справядлівасці і беражлівасці да ўсяго прыгожага ў жыцці. Такі аўтарскі падыход да з'яў прыроды, вядома, не новы: у гісторыі літаратуры ёсць нямала бліскучых узораў філасофскай пейзажнай лірыкі. Але бяда ў тым, што Р. Тармола ў пагоні за «філасафічнасцю» недастаткова дбае аб жыццёвай каларытнасці малюнка, таму не заўсёды яму ўдаецца дасягнуць той ступені мастацкай пераканальнасці, калі думка нараджаецца як вынік эмацыянальнага асваення рэчаіснасці. Складваецца ўражанне, што лірычны герой паэта ідзе не сваімі нагамі, ступаючы па цвёрдым грунце жыцця, а дыбае на хісткіх хадулях надуманых філасофскіх збудаванняў... Але звернемся да прыкладаў. Вось невялічкі верш «Зялёнае сонца», які мы прыводзім цалкам:

Наліваецца елка зялёным
сокам,
Распускае іголкі зялёным
сонцам,
Сагравае маё маладое сэрца.
Толькі гэтае сонца зусім не
пякучае,
Толькі гэтае сонца заўсёды
пахучае.
Аднаго больш балюча, што
тапор нечы
Сонца гэтае можа ссекчы...

Напісана даволі тэхнічна, у вобразе ёсць свая логіка развіцця. І ўсё ж гэты верш не здольны пасапраўднаму крануць душу. Справа ў тым, што дрэва, якое прывабіла зрок паэта, тут выступае толькі як аголены сімвал аўтарскай ідэі, твор аказаўся ў выніку пазбаўлены жывой мастацкай «плоці». Гэтакая ж псеўдапаэтычнасць, калі пэўная прыкмета адвольна, без мастацкага абгрунтавання, бярэцца ў аснову пабудовы вобраза, псуе і верш «Чырвоны». Наўрад ці была падстава параўноўваць клён... са сцягам толькі таму, што паэту здалося, быццам восеньскі колер кроны дрэва блізкі да колеру крыві. Каб неяк падмацаваць гэтае параўнанне, аўтар уводзіць у верш радкі, у якіх паведамляецца, «нібыта шэпча кожны ліст аб тым, як у вясновы ранак вясковы першы актывіст быў кулаком закатаваны». Няўжо паэт не адчувае, што гэта штучна прыцягнута дзеля эфектнасці адвольнай вонкавай асацыяцыі?

Імкнучыся ў што б там ні стала прымусіць верш гучаць па-філасофску, Р. Тармола часамі ўзводзіць такі хітры слоўны гушчар, у якім заблытваецца сам, парушаючы ўсялякую логіку развіцця думкі. Так, у адным з вершаў, параўнаўшы пражэктарныя промні з волатаўскімі рукамі, якія здольны «абняць свет цэлы», пагладзіць Месяц і дастаць да любой зоркі, паэт ускліквае:

Адно святло.
А дзе цяпло?
Дзе цяпло, як ад гулкай
грубкі?
Калі саграюць нават гукі?
Вераць Месяц і зоркі
толькі ў чалавечыя рукі.

Захапіўшыся гульнёй слоў, паэт не падумаў, што такое супрацьпастаўленне проста недарэчнае: любы здабытак чалавечай працы, у тым ліку і такое тэхнічнае дасягненне, як пражэктар, з'яўляецца вынікам дзейнасці розуму і рук людзей...

І яшчэ адна заўвага. Тармола шмат увагі аддае музычнай арганізацыі верша, інструментоўцы радка, шырока выкарыстоўваючы і алітэрацыі, і ўнутраныя рыфмы, і рытмічныя паўзы. На жаль, паэт часамі злоўжывае слоўным гукапісам, забываючы, што той ці іншы фармальны прыём апраўданы толькі тады, калі ён не з'яўляецца самамэтай, а нясе ў сабе пэўную ідэйна-мастацкую нагрузку. У вершы «Восеньскі роздум» мы чытаем:

На прыход у восені столькі
прычын!
Значна больш,
значна больш,
Чым на гэты боль
У мяне.

Пагоня за эфектнай рыфмай проста прыводзіць аўтара да сэнсавай недакладнасці. Грашыць супраць граматыкі дзеля звонкасці радка паэт і ў такім сказе: «Прашу: на свой настрой мяне настрой...»

Ці трэба даводзіць, што вонкавае аздабленне мае сэнс толькі тады, калі надзейнае само збудаванне, калі з трывалага матэрыялу яго падмурак і сцены.

Пераадоленне тэматычнай аднастайнасці, большы давер да ўласнага жыццёвага вопыту, паглыбленне ў вялікі свет чалавечых дум і адчуванняў, у складаную праўду века, без чаго ўрэшце самая віртуозная слоўная тэхніка — толькі пустая гульня, — вось той шлях, які зможа прывесці маладога паэта да сапраўднага творчага плёну.

**Паўлюк СУБОТКА.**

# У ПУШКІНСКІМ ЗАПАВЕДНІКУ



Сяло Міхайлаўскае. Дом А. С. Пушкіна.

**У любую пару года прыгожа выглядаюць гэтыя мясціны. Прырода беражліва захавала да нашых дзён сваю невыказную прыгажосць. Стаяць у летнім убранні двухсотгадовыя ліпы, старэйшыны Міхайлаўскага парку, пасаджаныя яшчэ пры Ганібалах. Перад намі ліпавыя «прысады Керн», тут кожнае дрэва памятае прагулкі паэта-выгнанніка з жанчынай, якой ён прысвяціў вядомы ўсяму свету верш «Я помню чудное мгновенье».**

**Тут, у «глушы лясоў сасновых», былі напісаны творы, поўныя любві да жыцця, веры ў светлую будучыню свайго народа. У Міхайлаўскім нарадзілася звыш ста паэтычных твораў Пушкіна, у тым ліку «Вёска», трагедыя «Барыс Гадуноў», тут закончана паэма «Цыганы», напісаны паэма «Граф Нулін», «Вакхічная песня», «Зімовы вечар», «Жаніх». Тут Пушкін працаваў над «Арапам Пятра Вялікага», «Сцэнамі з рыцарскіх часоў». Тады ж быў напісаны**



Дамок няні.



Ліпавая алея.

верш «Зноў я наведаў...», у якім Пушкін нібы падводзіць вынікі сваёй шматгадовай дружбы з роднымі мясцінамі. Дастаткова гэтага кароткага пераліку, каб зразумець, што такое «міхайлаўскі перыяд» жыцця і творчасці вялікага паэта і чаму для нас такія дарагія гэтыя мясціны.

Пушкінскі дом стаіць у цэнтры Міхайлаўскага, звернуты адным бокам да ракі Сароці, другім — да вялікага круга ля партэра. Да нядаўняга часу Дом-музей знаёміў з жыццём і творчасцю вялікага паэта, пачынаючы ад яго ліцэйскіх год і канчаючы апошнімі днямі ў Пецярбурзе. Цяпер экспазіцыі створаны занава і прысвечаны толькі жыццю Пушкіна ў Міхайлаўскім.

Асабістых рэчаў Пушкіна захавалася мала — більярдныя шары з кіем, кіёк, прывезены з Адэсы, чарніліца... Тут сабраны партрэты, карціны, скульптура, ілюстрацыі, кнігі, рэпрадукцыі малюнкаў паэта.

Рэпрадукцыі з рукапісаў Пушкіна і іншыя шматлікія дакументы расказваюць аб рабоце паэта над «Вясной». «Барысам Гадуновым», «Яўгеніем Анегіным», у IV раздзеле якога, паводле слоў Пушкіна, ён паказаў сваё жыццё ў Міхайлаўскім.

На ўсход ад Дома-музея, напалову схаваны сярод кустоў бэзу, язьміну і жоўтай акацыі, пад цяністым старым клёнам стаіць дамок няні, Арыны Радзіёнаўны. Тут праводзіў ссыльны паэт доўгія зімовыя вечары. Дамок няні быў спалены гітлераўцамі ў 1944 годзе і цяпер адноўлены ў ранейшым выглядзе.

Сядзіба і парк у Міхайлаўскім займаюць каля дваццаці гектараў. У парку добра захаваліся прысады з ліпы і елак. Хіба можна прайсці міма адноўленай нядаўна на старым падмурку альтанкі ва ўсходняй частцы парку! Тут паэт любіў адпачываць. Вось яшчэ яго любімы куток — «востраў адзіноты» пасярэдзіне сажалкі.

Старая лясная дарога вядзе ў Трыгорскае. Па ёй ездзіў конна і хадзіў да сваіх сяброў апальны паэт. Трыгорскае сёння — стары парк на адным з трох узгоркаў. І тут шмат каштоўных рэліквій. Ля самай кручы над Сароццю стаіць лаўка, якую яшчэ пры Пушкіне называлі «канапай Анегіна».

На галоўных прысадах раскінула галіны елка-шалаш вышынёй у шматпавярховы дом. Ёй — два з паловай стагоддзі. Пад елкай адпачываў Пушкін — і тады яна была такой жа вялізнай. Любаваўся паэт і «сонечным гадзіннікам» — дванаццаццю дубамі, якія стаялі вакол лужочка (захавалася толькі пяць.) Трохсотгадовы «дуб адзіноты» ўзвышаецца над палянай, як волат.



Трыгорскае. Лаўка Анегіна.

Побач з Трыгорскім паркам старажытнае гарадзішча Вароніч. Гэта некалі быў стратэгічны пункт, які абараняў подступы да Пскова. Тут праходзіў Дзмітры Самазванец са сваім войскам. Пушкін пісаў у першапачатковым варыянце загалоўка трагедыі «Барыс Гадуноў»: «Писано бысть Алексашкою Пушкиным на городище Ворониче...»

Яшчэ здалёк прыцягвае ўвагу маляўнічая Саўчына Горка — другі старажытны ўзгорак на беразе Сароці. Да самых апошніх дзён паэт марыў набыць Саўчыну Горку, якая належала мясцовым памешчыкам, і пабудаваць сабе тут «хаціну». Цяпер на Саўчынай Горцы вырас пасёлак, дзе жывуць супрацоўнікі запаведніка.

За Сароццю, на паўночным беразе возера Кучане, цямнее Пятроўскі парк — усё, што засталося ад сядзібы продкаў паэта Ганібалаў. Пушкін часта бываў у Пятроўскім. На поўдзень ад парку цягнуцца высокія ўзгоркі. У самым іх цэнтры стаіць Святагорскі манастыр.

У так званым «брацкім корпусе», манастыры, адкрыта пастаянна дзеючая выстаўка «Сусветнае значэнне Пушкіна». Тут можна бачыць кнігі Пушкіна, выдадзеныя амаль на ўсіх мовах свету. Сярод іх — кніга «Выбраныя творы Пушкіна» на беларускай мове, выдадзеная ў 1949 годзе.

Ля сцяны Успенскага сабора — магіла паэта. Над магілай — строгі белы каменны абеліск. На мармуры — урна пад пакрывалам. Пазначаны імя, даты нараджэння і смерці. Побач магіла дзеда і бабкі паэта — Іосіфа і Марыі Ганібалаў, а таксама яго маці Надзеждзы Осіпаўны.

Нізка схіліўшыся над магілай, да самага падножжа абеліска звісаюць зялёныя дрэвы. Не зарастае народная сцяжынка да магілы вялікага песняра.

Мікола ЖЫГОЦКІ.

## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



Гісторыя звычайных **чарнільных плям** пачалася адразу ж з узнікненнем чарніла, г. зн. прыкладна пяць тысяч гадоў таму назад. Рэдка здараецца, каб які-небудзь старажытны рукапіс не быў «упрыгожаны» плямай.

Палова жыхароў зямнога шара ніколі ў жыцці не бачыла снегу.





## СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ

Касманаўты сцвярджаюць, што з борта спадарожніка Зямлі Сонца выглядае моцна сплюснутым, а пры ўваходжанні спадарожніка ў цень Зямлі па форме робіцца падобным нават... на сардэльку. Прычына гэтай з'явы: сонечныя прамені пры праходжанні іх праз зямную атмасферу скрыўляюцца.





У ЗША сканструяваны падскурны мікраскоп, які дазваляе аглядаць глыбока размешчаныя тканкі арганізма без хірургічнага ўмяшання. Для гэтага выкарысталі іголку для падскурных ін'екцый, якая запаўняецца незвычайна тонкімі шклянымі валокнамі — **светаводамі** (у іголцы іх змяшчаецца каля 10 000). Частка валокнаў служыць для падсветкі, частка — для перадачы адлюстравання ў мікраскоп.




пад рэдакцыяй
гросмайстра СССР
Аляксея СУЭЦІНА

# ВУЧЫЦЕСЯ АНАЛІЗАВАЦЬ

Актывіст шахматнага гуртка Багушэўскага дома піянераў Сяргей Шмурадка ад імя членаў гуртка просіць даць параду, як навучыцца аналізаваць шахматныя пазіцыі. Тэма гэтая амаль невычэрпная, і таму паспрабуем асвятліць толькі самыя асновы шахматнага аналізу.

* * *

Нашы чытачы часта пытаюцца: «Ці пажадана паказваць вынікі аналізу каму-небудзь з моцных шахматыстаў? Як кантраляваць самога сябе ў аналізе? Які павінен быць крытэрый аналізу? Ці можна даваць урокі па аналізу?»

Вельмі карысна паказаць вынікі аналізу больш вопытнаму шахматысту. Аналіз шахматных пазіцый найбольш плённы, калі ў вас ёсць дастойны апанент. Таму побач з індывідуальным аналізам карысна аналізаваць сваю гульню разам з сябрам, роўным па сіле або нават вышэйшай кваліфікацыі. Не трэба захапляцца групавым аналізам, гэта вядзе да марнай траты часу.

Цяпер пра галоўнае—пра сутнасць шахматнага аналізу. Такі вялікі спецыяліст, як М. Батвіннік, лічыць, што прамы шлях да шахматнага майстэрства ляжыць праз майстэрства шахматнага аналізу. Але што ж такое майстэрства шахматнага аналізу? Каб высветліць гэтае пытанне, разбяромся, як шахматыст мысліць.

У працэсе гульні шахматыст разлічвае варыянты, імкнучыся разгадаць самыя глыбокія таямніцы пазіцыі. Для гэтага трэба ўмець правільна **вылучыць** мінімальную колькасць магчымасцей, імкнучыся разлічыць кожную з іх на максімальны лік ходаў. Шахматыст, па сутнасці, у працэсе практычнай гульні перш за ўсё займаецца аналізам пазіцый, якія ўзнікаюць. Праўда, ён не можа бачыць на дошцы фігуры—аналіз гэты вядзецца толькі ў думках і абмежаваны часам на абдумванне ходаў. Але сэнс аналітычнага мыслення тут ідавочны. Адсюль зразумела, што аналіз у хатніх умовах павінен быць у сваёй аснове падобны на мысленне пры аналізе ў часе гульні. Розніца толькі ў вольным карыстанні часам ды ў наяўнасці перад вачыма фігур на дошцы. Тут жа адзначым, што ні часам ні фігурамі не трэба злоўжываць. Наадварот, хатні аналіз трэба па магчымасці набліжаць да ўмоў практычнай гульні.

Каб навучыцца аналізаваць у думках, мысленна, вельмі карысна рашэнне задач і эцюдаў на дыяграмах, чытанне шахматных кніг без дошкі. Гросмайстар А. Котаў рэкамендаваў у свой час аналізаваць пазіцыі, якія насычаны камбінацыйнымі матывамі, не рухаючы на дошцы фігуры і абмяжоўваючы сябе адпаведным часам.

Пасля заканчэння такой работы ўсе разлічаныя варыянты старанна і дакладна запісваюцца, потым правяраюцца на дошцы. Карысна таксама пракаменціраваць якую-небудзь вядомую камбінацыйную партыю і потым параўнаць свае каментарыі са зробленымі якім-небудзь вядомым аналітыкам. Гэта—добры самакантроль правільнасці вашага шахматнага мыслення.



Вучыцца аналізаваць трэба сістэматычна, нарошчваючы цяжкасці ад аналізу да аналізу. Вельмі карысна паступова абмяжоўваць да мінімуму ліміт часу на абдумванне варыянтаў. Трэба адначасова павышаць хуткасць мыслення, кемлівасці, арыентацыі ў дадзеных абставінах, гэта значыць—усё тое, што неабходна кожнаму шахматысту ў практычнай барацьбе.

Адсюль і канкрэтны характар заданняў па аналізу. Для неспрактыкаваных шахматыстаў гэта можа быць рашэнне ўсё больш складаных шахматных камбінацый або задач. Спачатку даецца лягчэйшае заданне, потым цяжэйшае і яшчэ цяжэйшае. Свае вынікі карысна запісваць у дзённік.

Побач з гэтым, трэба рабіць аналіз сыграных партый. Свае партыі пажадана каменціраваць, адзначаючы асабліва паваротныя, вузлавыя моманты барацьбы, насычаныя камбінацыйнымі матывамі. Свае партыі заўсёды больш зразумелыя за іншыя, няхай нават больш дасканалыя партыі майстроў. Але як вызначыць аб'ектыўнасць аналізу сваіх партый? Самай жа цяжкай заўсёды бывае самакрытыка.

Па-першае, трэба прымусіць сябе з асаблівай увагай адносіцца да прайграных партый. Зразумела, з гэтымі партыямі звязаны далёка не прыемныя ўспаміны, але поспех росту якраз і залежыць ад таго, як хутка знікнуць недахопы ў вашай гульні і мысленні. Прасцей жа за ўсё ўбачыць свае недахопы ў прайграных партыях.

Па-другое, ніколі не трэба саромецца паказваць партыі, нават прайграныя, свайму трэнеру, старэйшым таварышам. «Адзін розум добра, а два—лепш»,—гаворыць прымаўка, і тут яна больш чым спатрэбіцца.

Апрача варыянтнага разліку, трэба гарманічна развіваць майстэрства ацэнкі пазіцый. «Ацэначныя» здольнасці—гэта тая база, на якой трымаецца варыянтны разлік. Гэта—компас; калі хочаце—радыёлакатар, ён улоўлівае кірунак, у якім трэба весці варыянтныя пошукі.

Але бадай самае галоўнае і самае цяжкае—навучыцца ацэньваць гаму пазіцый. Для гэтага вельмі карысны метад «сенсацый». Што гэта значыць? Калі знешнія адзнакі сведчаць пра неабходнасць такога вось плана, але... патаемныя спружыны пазіцыі (яе дынаміка) па сутнасці патрабуюць іншага, часам дыяметральна працілеглага рашэння, трэба ўмець зрабіць правільны, хоць, здавалася б, зусім нечаканы ход. Тут вельмі патрэбны парада і дапамога трэнера. Але і самім можна шукаць усялякія «парадоксы» ў гульні—яны навучаць вас многаму. Тут усё залежыць ад «пільнасці вока» ігрока.

Асобная размова—аналіз адкладзеных партый. Тут ужо справа не толькі ў шліфоўцы свайго шахматнага мыслення, а перш за ўсё ў вывучэнні ўсіх тонкасцей пазіцыі. Як сказаў паэт, «в грамм добыча, в год—труды...»

Вось адзін прыклад з практыкі аўтара гэтых радкоў.



Гэта—пазіцыя маёй адкладзенай партыі з Тайманавым (чорныя) на апошнім XXXI чэмпіянаце СССР. Перавага белых не выклікае сумнення. Але як яе рэалізаваць?!.

Зразумела, найбольш актыўным ходам чорных тут будзе:
1. ... Крg6 (ён і быў зроблен у партыі). Цяпер не дасягае мэты 2. Кh4 + з-за 2. ... Крh5, 3. b3, Ка5, 4. Кр : d2 К : b7, і гульня пераходзіць у роўнае заканчэнне. Здавалася, што з гэтай мэтай лепш 2. Ке7 + Крh5, 3. b3 Ка5, 4. Кр : d2 К : b7, 5. К : d5, але і тады пры дапамозе 5. ... Крg4! чорныя атрымліваюць небяспечную гульню. Аб'ектыўна, больш моцным будзе 2. g4!, але і тут яснага шляху да мэты няма...

І раптам (о, радасць!) знайшлося зусім парадаксальнае рашэнне: 2. Ке7 + Крh5, 3. Кg8!! Цяпер пагражае 4. Л:g7 і мат 5. Кf6х!

Не ратуе чорных і 3. ... g5 з-за 4. f5! Зноў матавая пастка ясна відаць. Вядома, выбар спыняецца на гэтым варыянце, тым больш, што ён мае элемент нечаканасці, а гэта—важная псіхалагічная падмога. І сапраўды, калі я сыграў 3. Кg8!!, партнёр, які менш за ўсё чакаў такога павароту справы, схапіўся за галаву і думаў 50 мінут, так і не знайшоўшы абароны. **(Ці была яна, прапануем падумаць нашым чытачам—гэта наша заданне: ацаніце вынікі манеўра 3. Кg8!!)** У выніку Тайманаў трапіў у цэйтнот і пасля: 3. ... Л : b2!, 4. Л : g7! (але не 4. Л : b2 К : b2, 5. Кр : b2 Крg4, і шанцы толькі ў чорных) 4. ...Лb6. 5. f5! Ке5, 6. f6 Кd7, 7. f7 Кf8, 8. Ке7 Лd6, 9. g4+ Крh4, 10. Кf5+ чорныя здаліся.

Аналізуючы адкладзеную пазіцыю, трэба ўлічваць і псіхалагічны элемент нечаканасці.

Для развіцця аналітычных здольнасцей (асабліва для шахматыстаў, якія не маюць магчымасці часта сустракацца з праціўнікамі ў турнірах) карысна гуляць па перапісцы. Гульня ж па перапісцы — гэта, па сутнасці, бясконцая чарга як быццам бы адкладзеных пазіцый: тут ёсць на чым адточваць свае аналітычныя здольнасці.

Падводзячы вынікі размовы, скажам, што сродкамі для развіцця майстэрства аналізу, апрача практычнай гульні, з'яўляюцца: рашэнне задач, эцюдаў і камбінацый, гульня па перапісцы, самастойны аналіз розных пазіцый вядомых майстроў, другіх шахматыстаў і сваіх партый. Ну, а сродкамі кантролю будуць — сумесная праца з сябрамі, кансультацыя ў трэнера, партнёры ў гульні і партнёры ў гульні па перапісцы. Трэба памятаць, што майстэрства аналізу — самае галоўнае для добрага шахматыста, для развіцця ягонага мыслення. І самае цяжкае, бо патрабуе сістэматычнай і доўгай шліфоўкі.

Прапануем знайсці наступную камбінацыю:



Ход белых (2 ачкі).

Рашэнні дасылайце на адрас нашай рэдакцыі.

## Для цікаўных

...Вядомаму французскаму фізіку і хіміку, ганароваму члену Расійскай Акадэміі навук Ж. Л. Гей-Люсаку, які займаўся вывучэннем уласцівасцей газаў, для доследаў спатрэбіўся тонкасценны посуд, які вырабляўся толькі ў Аўстра-Венгрыі. Заказ вучонага быў выкананы, але на граніцы налічылі за ўвоз яго такую велізарную пошліну, што вучоны не змог яе заплаціць. Посуд адаслалі назад.

Выратаваў Гей-Люсака яго больш практычны сябар Аляксандр Гумбальт. Ён загадаў старанна закаркаваць увесь посуд, заліць коркі сургучом і зноў адаслаць Гей-Люсаку з надпісам на скрынях: «Нямецкае паветра. Абыходзіцца асцярожна».

Колькі ні перагортвалі таможныя чыноўнікі правілы і інструкцыі, яны не знайшлі такога пункту, які б дазваляў накласці на паветра пошліну. Так шкляны посуд ужо ў выглядзе тары пераехаў праз мяжу.

...У часе першай сусветнай вайны вядомы пісьменнік Яраслаў Гашак згінуў без вестак. Пра яго смерць хадзілі самыя неверагодныя чуткі. У Празе, вядома, ужо без ведама аўтара, была выдадзена яго кніга «Два тузіны апавяданняў». Вярнуўшыся на радзіму, пісьменнік атрымаў аўтарскія экземпляры кнігі і, маючы патрэбу ў грошах, стаў прадаваць іх знаёмым па дваццаць крон, а з аўтографам — па шэсцьдзесят.

Аднойчы, калі Гашак прадаваў сваю кніжку ў папулярным пражскім кафэ, да яго падышоў нейкі коміваяжор, які ўпарта імкнуўся ўбіцца ў асяроддзе літаратараў. Трымаўся ён вельмі бесцырымонна, раскідаўся грашыма направа і налева і звяртаўся да Гашака на «ты», хоць пісьменнік не быў з ім нават знаёмы. Убачыўшы, што Гашак прадае нейкія кнігі, праныра тут жа звярнуўся да яго:

— Прадай і мне адну кніжку. Колькі яна каштуе?

— Дваццаць крон, а з аўтографам — шэсцьдзесят.

— Мне, вядома, з аўтографам і з якім-небудзь прыемным прысвячэннем, як даўняму сябру...

Гашак нешта напісаў, паклаў грошы ў кішэню і падаў кніжку коміваяжору. На тытульным лісце той прачытаў:

«Кніга 20 крон
Аўтограф 40 крон
Усяго: 60 крон
з удзячнасцю атрымаў

Яраслаў Гашак».



# Усмешкі Маладосці










**Мы прывыклі чытаць і чуць пра салігорцаў толькі добрае. І гэта правільна. Поспехі будаўнікоў першынца беларускай хіміі вядомы ўсім. Але ж, як і ў кожным шматтысячным калектыве, тут трапляюцца і тыя, хто блытаецца пад нагамі, перашкаджае ісці наперад. Каб вымесці гэтых носьбітаў старой маралі, салігорскія камсамольцы і завялі сваю «Камсамольскую мятлу». Першы раз яе пусцілі ў ход 15 мая мінулага года. З таго часу выйшла амаль восемдзесят нумароў. Мятлу «вяжуць» дружна і дасціпна. Таму мяце яна добра. Часта на яе старонках змяшчае свае малюнкі Леанід Ліцвінаў, а подпісы да іх складае камсамольскі работнік Тацяна Дрэнь. Сёння «Камсамольская мятла» ў гасцях у «Маладосці».**

### ВОСЬ КАСА!

Ішоў па вуліцы Ігнат.
«Зелля» выпіў вельмі шмат.
Выплятаў за кругам круг
І прыплёўся ён на луг.
Расцягнуўся на ўвесь рост
І карове гладзіць хвост:
— Вось каса!.. Аж глянуць люба...
Ты Маруся? А мо Люба?..
Як завуць цябе, скажы ты?—
Дамагаецца сярдзіта.

### БЮРАКРАТ

Стук у дзверы — хтось ідзе.
Бюракрат пачуў адразу,
Ды усё ж на «добры дзень»
Аніякага адказу.
Вочы ўпяліў у паперу,
Да стала нібы прырос.
— Зачыніце добра дзверы! —
Буркнуў сам сабе пад нос.
А калі ж узняў ён вочы,
Дык адразу знікла злосць:
Перад ім быў не рабочы,
А яго жаданы госць.
— Братка родны! Гэта ты?
Ах, нарэшце хоць прыехаў!
Падыдзі хутчэй сюды!..
Ну, а брату не да смеху...

**Тацяна ДРЭНЬ.**






**ЛОСЬ Еўдакія** нарадзілася ў 1929 годзе ў вёсцы Старына Ушацкага раёна. Скончыла Мінскі педагагічны інстытут імя Горкага і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Выдала зборнікі вершаў «Сакавік», «Палачанка», «Людзі добрыя», «Купалка», «Абутая елачка».

**НАВУМЕНКА Іван** нарадзіўся ў 1925 годзе ў г. п. Васілевічы Гомельскай вобласці. Кандыдат філалагічных навук. Выкладае беларускую літаратуру ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна.

І. Навуменка аўтар зборнікаў: «Семнаццатай вясной», «Хлопцы-равеснікі», «Верасы на выжарынах», аповесці для дзяцей «Вайна каля Цітавай копанкі», рамана «Сасна пры дарозе».

**ГРАМОВІЧ Іван** нарадзіўся ў 1918 годзе на Міншчыне. Пачаў друкавацца ў 1935 годзе. Выдаў кнігі: «Апавяданні», «Першае верасня», «Агні пяцігодкі», «Шырокія азёры», «Запаветны камень», «У лесе, на палянцы», «Рына-Марына» і іншыя.

**МАКАРЭВІЧ Васіль** нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Купленка на Міншчыне. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў лесарубам у Архангельскай вобласці.

У 1964 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. У 1963 годзе выдаў першы зборнік вершаў «Вогненная камета».

Дзяцінства і юнацтва **Сяргея ГРАХОЎСКАГА** прайшло ў м. Глуску.

У 1935 годзе ён скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Працаваў у рэдакцыях газет, быў лесарубам, настаўнічаў у школах Беларусі і Сібіры.

С. Грахоўскі — аўтар зборнікаў вершаў «Дзень нараджэння», «Ад вясны да вясны», «Чаканне», «Сёння і заўтра», «Табе зайздросціць сонца».

У апошні час ён падрыхтаваў да друку кнігу празаічных твораў.

**У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ. ДЗІКАЕ ПАЛЯВАННЕ КАРАЛЯ СТАХА.**
Прыгодніцкая аповесць.

**Аляксандра ЗАХАРЭНКА. ЧАТЫРЫ ТАМЫ МУЖНАСЦІ.**
Дакументальная аповесць.

**Вершы Рыгора СЕМАШКЕВІЧА, Уладзіміра ВЕРАМЕЙЧЫКА, Яраслава ПАРХУТЫ** і балгарскіх паэтаў.

**Фотаклуб «МАЛАДОСЦЬ»**

Мастацкі рэдактар Я. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, 40. Тэлефоны: 93 854 — сакратарыят, 93 592 — аддзелы паэзіі і прозы, 93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення; 93-775 — фотаклуб «Маладосць».

Фармат паперы 70×108 $^1/_{16}$. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 6.500. Цана 40 кап.
АТ 05325. Здадзена ў набор 1/VII.64 г. Падпісана да друку 31/VII.64 г. Зак. 313.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.



Леў.



Буйвалы.

Г. Лойка.

Маладыя рысі.



«Звяры».

